Раіса Баравікова

# КАЗАЧНЫЯ АПОВЕСЦІ
## пра міжпланетнага пажарніка і іншых мамурыкаў



Мінск
«Літаратура і Мастацтва»
2010

УДК 821.161.3-93
ББК 84(4Беи)-44
Б24

*Мастак Марыя Міцкевіч*

*Для сярэдняга школьнага ўзросту*



**Баравікова, Р. А.**
Б24 Казачныя аповесці пра міжпланетнага Пажарніка і іншых мамурыкаў : для сяр. шк. узросту / Раіса Баравікова. — Мінск : Літаратура і Мастацтва, 2010. — 144 с.
ISBN 978-985-6941-55-2.

Мамурык — з далёкай планеты Мамурыі, каго адна знаёмая дзяўчынка пісьменніцы Раісы Баравіковай, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь назвала міжпланетным Пажарнікам, даўно спадабаўся юным чытачам.

Новая кніга атрымала назву «Казачныя аповесці пра міжпланетнага Пажарніка і іншых мамурыкаў». Але падзеі, апісаныя ў гэтай кнізе, разгортваюцца не толькі на Мамурыі. Мамуры і мамурыкі вельмі ўпадабалі нашу зямлю, і ў казачных аповесцях дапытлівы чытач знойдзе шмат прыгодаў гэтых займальных і проста сімпатычных істот у мясцінах, добра знаёмых нам. Кніга будзе садзейнічаць экалагічнаму выхаванню дзяцей.

**УДК 821.161.3-93**
**ББК 84(4Беи)-44**

**ISBN 978-985-6941-55-2**







## АПОВЕСЦЬ ПЕРШАЯ

### УСТУП, У ЯКІМ РАСКАЗВАЕЦЦА ПРА ТОЕ, ШТО...

Завуць яго мамурык. І шукаць яго трэба на планеце Мамурыя, дзе заўсёды жылі і, напэўна, жывуць і цяпер — мамуры. Да гэтага трэба дадаць яшчэ адно. Калі я расказала пра яго знаёмай дзяўчынцы, яна адразу сказала, што мамурыкам яго завуць таму, што ён заўсёды знаходзіцца каля мамы. Але гэта няпраўда. Мама яго вечна непакоіцца: «Дзе ён? Дзе ён? Дзе ён?» І знайсці яго не так і проста.

Калі б нават нехта на ўвесь вялікі неабдымны Космас з усёй сілы крыкнуў: «А-у-у-у!» — мамурык наўрад ці адгукнуўся б.

Па-першае, ён мог быць недзе вельмі і вельмі далёка, а па-другое, ён настолькі заняты сваёй справай, што, здаецца, нішто не можа яго адарваць ад яе. Асабліва ў пару зоркападу.

У мамурыка ёсць пікі-пак. Ён нечым падобны да зямнога верталёціка, але кабіна ў яго ўся празрыстая.

Астранаўты на шматлікіх касмічных трасах нярэдка прымаюць яго за страказу і здзіўляюцца: «Адкуль узяцца страказе ў Космасе?!»

Але гэта проста пікі-пак. Так аднойчы назваў яго мамурык.

У мамурыка ёсць сачок, амаль такі ж самы, якім усе дзеці на Зямлі ловяць матылёў. Ды мамурык матылёў не ловіць. Ён ловіць зоркі. Тыя самыя зоркі, якія нехта ў пару зоркападу назваў на Зямлі znічкамі. Таму што зоркі ў пару зоркападу ляцяць... Ляцяць... І знікаюць. І гэта няпраўда. Іх ловіць сваім сачком мамурык. І робіць ён гэта толькі дзеля таго, каб нідзе, ні на адной планеце, куды можа ўпасці непаслухмяная зорка, не ўзнікла пажару.

Калі пра гэта я расказала сваёй знаёмай дзяўчынцы, яна адразу сказала:

— Ах, ды ён жа не проста мамурык! Ён жа яшчэ і міжпланетны Пажарнік!

І я пагадзілася з ёю.

Мамурыка сапраўды можна назваць міжпланетным Пажарнікам. І я зараз раскажу першую аповесць пра яго. Але на нейкі час забудзем пра мамурыка, таму што аповесць пачынаецца з расказу пра крата Бутуза.





## ЗНАЁМСТВА З КРАТОМ БУТУЗАМ

Ён быў неверагодна тоўсты, гэты крот Бутуз. Ну проста да агіднасці. І ніколі нічога не ўмеў рабіць, ды і не хацеў. Ён толькі ляжаў на канапе ў вялікім падземным пакоі, дзе не было і не магло быць ніводнага акенца. Але там, дзе павінны былі быць акенцы, гарэлі каляровыя ліхтарыкі. І нейкая маленечкая істота, з тых, каго хлопчыкі і дзяўчынкі на Зямлі завуць казяўкамі, памахвала перад кратом Бутузам веерам, зробленым з лёгкіх пёркаў, а крот Бутуз незадаволена крактаў:

— Як усё надакучыла! Страшэнна надакучыла!.. А-а-а-а...

Тады маленечкая Казяўка прыкрывалася веерам і таксама незадаволена сіпела:

— Мне тым больш даўно ўсё надакучыла! Немагчыма трываць!

І яна шырока, нібыта нечаму здзіўляючыся, раскрывала свае вочкі. А крот Бутуз працягваў злосна плакаць, і тады да яго падыходзіла маці і пачынала суцяшаць, як магла:

— Сынок! Мілы мой! Ты б не ляжаў на гэтай цвёрдай канапе. Ты падняўся б на паверхню. Я толькі што пракапала новую шахту. Гэта зусім недалёка. Ты не стомішся. Але затое там вельмі цёпла. Зямля пад сонцам прагрэлася і столькі на ёй кветак, што нават у мяне ад іх духмянага паху закружылася галава.

Прыблізна гэтыя ж словы сказала маці крату Бутузу і ў той дзень, калі ў яго быў асабліва дрэнны настрой.

— У цябе, маёй старой маці, адразу закружылася галава! — праз слёзы закрычаў крот Бутуз. — Ты гаворыш, на зямлі многа кветак, а я ўсё роўна іх не змагу пабачыць! Я ніколі нічога не бачу! Усе краты нічога не бачаць! А-а-а-а...

І крот Бутуз закрычаў так страшна, што маленечкая Казяўка з жахам прыціснулася да сцяны. А маці прысела на канапу побач з кратом Бутузам і сказала:



— Супакойся. Ты нічога не бачыш, але затое можаш чуць. Да прыкладу, я сёння пачула, што дзяўчынцы, у якой вельмі ласкавы голас, купілі гумовую лодку. І яна разам з татам хутка паедзе да мора.

— А-а-а-а! — яшчэ больш страшна зарумзаў крот Бутуз. — Дзяўчынцы, у якой вельмі ласкавы голас, купілі гумовую лодку, а ў мяне толькі гэтая цвёрдая канапа!

Маленечкая Казяўка на ўсялякі выпадак схавалася за цяжкую шэрую шторку, якой была прыкрыта сцяна. А маці паабяцала:

— Супакойся. Я куплю табе матаролер.

І нечакана для маці, а яшчэ больш нечакана для Казяўкі, якая выглядвала з-за шторкі, крот Бутуз паслухаўся. Ён падняўся з канапы, і маленькая Казяўка хуценька падала яму сандалеты, а да іх яшчэ і саламяны капялюшык, абвязаны шырокай ружовай стужкай. Да стужкі быў прымацаваны прывабны букецік з папяровых кветак. І кожны сказаў бы, што такі капялюшык можа насіць толькі дзяўчынка, а не нейкае там капрызлівае стварэнне. І Казяўка ведала пра гэта, таму што з’едліва прашаптала:

— Ах, якая розніца, для каго гэты капялюшык! Усё роўна нічога не бачыць гэты крот Бутуз.

— Цыц! — прыкрыкнула на Казяўку маці і, узяўшы крата Бутуза за лапу, павяла яго па доўгіх, цёмных і вузкіх калідорах туды, дзе была шахта.

І яны пачалі паднімацца наверх.

Паднімаліся яны ў невялікай кабінцы, зробленай з гнуткіх лазовых дубчыкаў. І падняліся вельмі хутка, але нягледзячы на гэта, крот Бутуз, як толькі выйшлі з кабінкі, сказаў цяжка:

— Ву-у-у-ух! — і сеў на вялікую грудку зямлі. — Хачу малака! Хачу нечага халоднага-халоднага!

Крот Бутуз не любіў слухацца, а любіў патрабаваць.

— Я зраблю табе малочны кактэйль, — сказала маці і знікла.

Крот Бутуз застаўся адзін. І яму адразу стала сумна. Так сумна, што ўсялякі хлопчык альбо дзяўчынка ў гэты момант абавязкова сказалі б:

— Так сумна бывае толькі тады, калі нехта не ўмее, альбо не хоча бачыць цікавых рэчаў вакол сябе.

Праўда, гэтыя словы не могуць тычыцца крата Бутуза, таму што ён ніколі нічога не бачыў. А яго самога, менавіта ў гэты момант, калі ён сеў на вялікую грудку зямлі, пабачыў міжпланетны Пажарнік, але гэта ўжо наступная частка аповесці і называецца яна





# ПІКІ-ПАК У АДКРЫТЫМ КОСМАСЕ

Пікі-пак імчаў з такой хуткасцю, якую на Зямлі немагчыма ўявіць. І ўсё роўна, нават пры гэтай хуткасці, міжпланетны Пажарнік паспяваў лёгка і прыгожа падхопліваць сваім сачком знічкі, якія імкнуліся праляцець міма міжпланетнага Пажарніка. І ім гэта ніяк не ўдавалася.

— Ёсць!.. Ёсць!.. — радасна крычаў мамурык, ён жа міжпланетны Пажарнік, калі ўсё новыя і новыя знічкі траплялі ў яго сачок. — Яшчэ адна!.. Яшчэ адна!..

Але раптам да яго голасу далучыўся тоненькі гук: пі-пі-пі. Гэта была радыёсувязь, і міжпланетны Пажарнік адразу націснуў на адпаведную белую кнопачку. Пасля чаго пачуўся роўны жаночы голас:

— Дзе ты? Дзе ты? Дзе ты?

— Мама! — адазваўся мамурык і замоўк.

Яго ўвагу прыцягнуў невялічкі экран, які знаходзіўся якраз насупраць міжпланетнага Пажарніка. На экране выразна вымалёўваўся крот Бутуз.

— Ну і стварэнне! Якое смешнае стварэнне! — прашаптаў Пажарнік. — Нешта падобнае я сустракаў у нізіне Драпежнай Рысі. Але ж гэтыя неахайныя сандалеты... Гэты недарэчны капялюшык... Гэтыя кветачкі!..— і міжпланетны Пажарнік звонка-звонка засмяяўся.

— Дзе ты? Дзе ты? Дзе ты? — у кабіне пікі-пака зноў пачуўся роўны жаночы голас.

— Нехта няўдала жартуе, — весела адказаў на гэты роўны голас Пажарнік. — На экране бачу нейкую дзіўную істоту. Я мог бы падумаць, што яна плюшавая, але ж істота рухаецца.

— Якая істота? — перапытаў жаночы голас. І ў ім чулася хваляванне. — Вяртайся назад!.. Вяртайся назад!.. Ты трапіў у сферу ўздзеяння невядомай планеты!

Міжпланетны Пажарнік хацеў нешта сказаць, але раптам пабачыў, як за бартом яго пікі-пака мільганула знічка. І Пажарнік націснуў на яшчэ адну, аранжавую, кнопку. Гэта ён уключыў дадатковую хуткасць. І ў той жа момант пікі-пак увесь затрымцеў і... паімчаў з такой неверагоднай хуткасцю, падзівіцца якой можна нават у Космасе.

Знічка была ў сачку, калі міжпланетны Пажарнік зноў паглядзеў на экран, але на ім былі толькі зоркі.

— Вяртайся назад!.. Вяртайся назад!.. — гучаў у кабіне пікі-пака ўстрывожаны жаночы голас.

— Я хутка буду дома, — спакойна сказаў міжпланетны Пажарнік. — Не хвалюйся! — І яшчэ раз зірнуў на экран, дзе мільгаў, іскрыўся дзіўны свет загадкавага і да канца нікім яшчэ не спазнанага Сусвету.

Што ж тычыцца крата Бутуза, дык ён знік, падобна да кадра з выпадковага невядомага мульціка.

Пікі-пак вяртаўся на Мамурыю.





# КРОТ БУТУЗ РОБІЦЦА СВЕДКАМ ЧУЖОЙ РАЗМОВЫ

Маці затрымлівалася. І крот Бутуз хацеў было закрычаць:

— Як усё надакучыла!.. Як страшэнна ўсё надакучыла!.. А-а-а-а!..

Але ён не закрычаў, таму што зусім блізка пачуўся тоненькі звонкі галасок, які спачатку яго напалохаў, а потым нават і зацікавіў.

— Дзядзечка Чмель!.. Дзядзечка Чмель! Тут непадалёку растуць ліпы і такія смачныя кветкі на іх! Давайце разам паляцім туды!

Гэта гаварыла Пчала. На ёй была жоўценькая кароценькая спаднічка і такі ж жоўценькі берэцік, які Пчала ледзь не змахнула крылцам, калі садзілася на бухматую кветку канюшыны. Але крот Бутуз гэтага ўсяго не бачыў. Ён толькі чуў Пчалу.

— Дзядзечка Чмель!.. Дзядзечка Чмель!..

А дзядзечка Чмель павольна пагойдваўся на шырокім лісту лопуха, зусім як хлопчык альбо дзяўчынка, якая, бывае, пагойдваецца ў гамаку, і гэтак жа

павольна адказваў, абрываючы пялёсткі з белага рамонка. І можна было падумаць, што ён варожыць на ім: «Любіць-не любіць! Любіць — не любіць»!

— Ах, гарэзніца ты, гарэзніца! І чаго раскрычалася ?! Ляці адна. Я ўжо стары... Дрэнна бачу. Ды і далёка да тых ліпаў!

— Дзядзечка Чмель, а што трэба зрабіць, каб ты бачыў добра? Вой, берэцік!.. Упаў мой берэцік!..— закрычала Пчала і кінулася паднімаць свой берэцік.

Чмель пачакаў пакуль яна падніме яго, і потым адказаў Пчале:

— З маім зрокам, на жаль, ужо нічога не зробіш... Падлятай сюды, бліжэй да мяне, і я нешта раскажу табе вельмі цікавае.

Бутуз затаіў дыханне. Ён увесь ператварыўся ў слых.

Для ўсіх, хто хоць нечым падобны да крата Бутуза, заўсёды цікава слухаць чужыя размовы. Але ў нармальным жыцці, сярод нармальных людзей, гэта не што іншае, як нетактоўнасць.





# ЧМЕЛЬ РАСКАЗВАЕ ПЧАЛЕ ПРА САВЮ БАБУЛЮ

— Ай, якая ў мяне была бабуля! Якая бабуля! — пачаў расказваць Чмель. І ў голасе яго чулася ласка і замілаванасць. — Гэта яна першая вынайшла той самы магнітафончык, які зараз бясконца ўключаюць гэтыя дуронікі камарыкі. Але справа не ў магнітафончыку, а ў адным з камарыкаў. Незвычайны быў Камарык. Ён працаваў у цырку. І ў яго быў смяртэльны нумар: танец на хобаце ў Слана. Як жа мне хацелася трапіць у той цырк. Паглядзець і на Слана, і на яго хобат. А ў першую чаргу на адважнага Камарыка. Але я быў маленькі, таму і пачаў прасіць бабулю:

— Бабулечка, родненькая, хадзем у цырк! Там жа гэты смяртэльны нумар Камарыка.

А бабуля мне ў адказ сказала амаль тыя ж словы, якія сёння пачула ад мяне ты:

— Я ўжо старая... Зрок у мяне не той! Ды і далёка да таго цырку! І ўвогуле, што ж гэта ты кажаш? Камарык такі маленькі, што яго можна і не прыкмеціць на хобаце ў Слана. Хм-м, Камарык! Хто ж яго зможа пабачыць?.. А што да мяне, дык я і Слана як след не разгледжу! Зусім дрэнна бачу.

І тады я сказаў амаль тое ж самае, што і ты зараз:

— Бабулечка, а што трэба зрабіць, каб ты бачыла добра?

І бабуля адказала, паправіўшы пры гэтым свае акуляры, голасам, якім могуць адказваць толькі бабулі:

— З маім зрокам ужо нічога не зробіш, хаця... Падлятай сюды, бліжэй да мяне, і я нешта раскажу табе вельмі цікавае.

Пчала ўвесь час, пакуль гаварыў Чмель, папраўляла свой жоўценькі берэцік, а потым з маленечкай сумачкі, падобнай да тых, якія любяць насіць дзяўчынкі, дастала маленькае люстэрка і паглядзелася ў яго, нібыта нават і не ведаючы, што, калі нехта размаўляе з табой, трэба ўважліва слухаць, а не глядзецца ў люстэрка. Але Чмель усё роўна працягваў расказваць, як быццам і не бачыў, што Пчала глядзіцца ў люстэрка.

— Якраз тады я і пачуў, што ў тых бязмежных прасторах, адкуль свеціць наша Сонца, скуль вечарамі выплывае самотная Поўня і пачынае свой шлях над Зямлёю, дзе загараюцца і патухаюць мільярды зорак, недзе далёка-далёка сярод іх ёсць планета Мамурыя. Жывуць на Мамурыі — мамуры. І сярод гэтых мамураў жыве адзін Вялікі мамур. Ён умее вяртаць зрок усяму жывому. Ён толькі прыкладзе свае далоні да вачэй, і адразу гэтым вачам адкрываецца дзівосны свет.

Тут Чмель замоўк. Толькі было чуваць, як спалохана трапечуць лёгенькія крылцы ў паветры. І яшчэ мільгануў жоўценькі берэцік Пчалы. Мільгануў і ўпаў у самую густую траву, як падае спалоханы Матыль, імкнучыся схавацца пад як можна найшырэйшы ліст. Але берэцік не спалохаўся. Спалохалася Пчала, таму што якраз пасля апошняга слова Чмяля пачуўся моцны грукат. Так падае вядро ў калодзеж. Але гэта было не вядро. Паблізу нідзе не было калодзежа. Гэта была пад’ёмная кабінка, у якой крот Бутуз імкліва ляцеў уніз, у сваё падзямелле.

— Планета Мамурыя!.. Вялікі мамур!.. — крычаў ён.

І было ў гэтым крыку больш злосці, чым радасці, таму што крот Бутуз не ўмеў і не мог радавацца. Як не мог ён ведаць і таго, што ў гэтае самае імгненне недзе далёка на Мамурыі ва ўтуль-

ным шкляным пакойчыку за шкляным столікам сядзеў той самы Вялікі мамур. А непадалёку ад яго за малюсенькай шкляной партай сядзеў міжпланетны Пажарнік. Для Вялікага мамура ён быў толькі маленькім мамурыкам. Таму што Вялікі мамур не ведаў, што мамурыка адна мая знаёмая дзяўчынка назвала міжпланетным Пажарнікам. Аднак, справа не ў гэтым. Справа ў тым, што на Мамурыі ў невялікім утульным шкляным пакойчыку ішоў урок.



## ВЯЛІКІ МАМУР ВЫКЛАДАЕ МАМУРЫКУ ПРАВІЛЫ ДОБРЫХ ПАВОДЗІН

— А чаму ты адзін? — запытаўся Вялікі мамур у мамурыка. — Дзе астатнія мамурыкі?

І мамурык вырашыў, што ў дадзеным выпадку лепшым адказам будзе маўчанне. Ён толькі адзін разочак зірнуў праз шкляную сцяну ў двор, дзе на такой жа шкляной пляцоўцы стаяў яго пікі-пак. А так увесь час глядзеў на Вялікага мамура, і Вялікі мамур сказаў:

— Я цябе разумею, ты залішне добра выхаваны для таго, каб гаварыць мне няпраўду, таму і маўчыш. Але я таксама добра выхаваны, таму больш не буду пытацца ў цябе пра астатніх мамурыкаў. Давай лепш уявім, што ты не ў гэтым утульным шкляным класе, а што ты прыйшоў у госці да свайго сябра, такога ж самага, як і ты, маленькага мамурыка і цябе сустракае яго мама.

— Я ўявіў! — хуценька адказаў мамурык. — Я скажу ёй «Добры дзень!» і запытаюся, ці дома мой сябра?

— Гэта ўсё так, — сказаў Вялікі мамур.— Але пасля таго, як ты скажаш «Добры дзень!», ты абавязкова павінен сказаць нешта прыемнае для маці свайго сябра, такога ж самага, як і ты, маленькага мамурыка. Ну, да прыкладу, што табе падабаецца сябраваць з яе сынам, што ён добразычлівы і спагадлівы

мамурык. Таксама можаш сказаць, што табе заўсёды прыемна заходзіць да іх, таму што ў маці твайго сябра заўжды ветлівы твар і голас. Адным словам, у першую чаргу ты павінен сам прынесці ў дом свайго сябра хоць самую маленечкую радасць.

— А калі твар і голас у маці майго сябра будуць не зусім ветлівыя, што я павінен сказаць тады?

Вялікі мамур трошкі падумаў, а потым адказаў:

— Па-першае, калі да любога мамурыка прыходзяць сябры, любая маці павінна радавацца і ветліва сустракаць іх. Таму што гэта гаворыць пра тое, што яе мамурык добры ва ўсіх адносінах і іншым мамурыкам прыемна з ім сябраваць. А па-другое, любы выхаваны мамур свой дрэнны настрой павінен насіць у сабе, каб не сапсаваць добрага настрою іншаму мамуру. Я ўжо не кажу пра далікатнасць мамурак, якой ім заўжды трэба прытрымлівацца.

— Я вас зразумеў, Вялікі мамур, — сказаў міжпланетны Пажарнік. — Няхай у вас застаецца добры настрой, але пра ўсё гэта мы неаднойчы гаварылі з маёй мамай. Яна толькі і робіць, што мяне выхоўвае.

— Дзякуй. Добра, што ты мне сказаў пра гэта!

Вялікі мамур лагодна пасміхнуўся. Яму была прыемнай шчырасць мамурыка. А потым Вялікі мамур сказаў:

— Тады мы ўявім іншае. Да прыкладу, ты вылятаеш у адкрыты Космас на сваім пікі-паку. І пікі-пак нечакана псуецца. Што ты будзеш рабіць?

— Ах, ды я ж не адзін у Космасе! Абавязкова сустрэнецца нейкі касмічны карабель... Я пашлю светлавы сігнал аб дапамозе. Астранаўты з гэтага карабля выйдуць у адкрыты Космас і мне дапамогуць.

— Правільна, — сказаў Вялікі мамур. — А што ты скажаш астранаўтам?

— Скажу, што мне патрэбна дапамога, і папрашу дапамагчы, — мамурык падумаў і дадаў: — А яшчэ запытаюся, куды яны ляцяць і адкуль? Гэта так цікава!

— Я згодны з табой, што гэта цікава. Але пытацца пра гэта не трэба. Калі астранаўты палічаць патрэбным табе расказаць пра свой маршрут, яны і самі раскажуць. А празмерная цікавасць — адна з рысаў нявыхаванасці.



Акрамя гэтага, ты павінен перш за ўсё папрасіць, каб табе толькі падказалі, дзе непаладка, і паспрабаваць самому наладзіць яе. І, калі ў цябе нічога не атрымаецца, толькі тады папрасіць астранаўтаў адрамантаваць твой пікі-пак. Ты зразумеў мяне?

— Вельмі добра зразумеў! — адказаў мамурык.

І якраз у гэты момант пачуўся тоненькі-тоненькі сігнальчык. Ён усё гучаў і гучаў.

— Гэта мой пікі-пак, — стрымана сказаў мамурык. — У такі час я звычайна вылятаю ў Космас.






— Ты зараз пойдзеш да свайго пікі-пака, але дазволь мне падключыцца да цябе, калі ты будзеш у Космасе. Магчыма, там знойдзецца нешта вартае, каб нам працягнуць урок.

— Я згодны, — сказаў мамурык. — Да сустрэчы ў Космасе.

Ён спакойна выйшаў з класа, і шкляная падлога пад ім месцамі тоненька-тоненька пазвоньвала. Так звоняць на Зямлі ільдзінкі, калі зрываюцца адліжным днём і падаюць на непрыкрыты снегам тратуар.

Хутка мамурык быў у сваім пікі-паку. Ён націснуў на жоўтую кнопку, потым на зялёную, і маленькія крылцы пікі-пака закруціліся ў паветры. А потым мамурык націснуў яшчэ і на сінюю кнопку, і пікі-пак у тое ж імгненне адарваўся ад шкляной пляцоўкі і, набіраючы хуткасць, пачаў паднімацца ў таемную прастору неба. На маленечкім экранчыку замільгалі зоркі. Міжпланетны Пажарнік узяў у рукі свой сачок і перакінуў яго за борт пікі-пака праз малюсенькае акенца. Цяпер мамурык быў толькі міжпланетным Пажарнікам.

Мамурык націснуў на белую кнопку і адразу ж пачуўся голас Вялікага мамура:

— Ты добра мяне чуеш?.. Ты добра мяне чуеш?..

— Я вас добра чую, Вялікі мамур, — адказаў міжпланетны Пажарнік.

— Уключы адкрытую радыёсувязь з усім Космасам, — працягваў Вялікі мамур.

І міжпланетны Пажарнік націснуў на чорную кнопачку. І адразу ў кабіну пікі-пака ўварваўся спачатку невыразны гул. Пасля ў гэтым гуле пачуліся самыя розныя сігналы. Яны былі і тоненькія-тоненькія, ледзь чутныя, як піск камара, і густыя-густыя, вельмі гучныя, як крык перапуджанай начной птушкі.

— Што ты чуеш? Што ты чуеш?! — пытаўся тым часам у мамурыка Вялікі мамур.




І міжпланетны Пажарнік хацеў яму адказаць:

— Я чую звычайныя гукі Космасу. Але ў гэты момант ён пачуў нейчы, як яму здалося, страшны голас, непрыемны, з жаданнем усё заглушыць сабою.

— Так можа рабіць толькі мая маці! — чулася ў кабіне пікі-пака. — Мая неразумная маці!.. Таму што пра самае цікавае я даведваюся выпадкова! Мне не хочацца жыць пад гэтым дахам! Не хочацца!.. Не хочацца!.. Я разбуру гэты дах!

Міжпланетны Пажарнік вельмі здзівіўся. Уражаны, ён разгублена глядзеў на чорную кнопачку і хацеў запытацца ў Вялікага мамура:

— Што ўсё гэта можа значыць?

Але Вялікі мамур адазваўся сам:

— Адключы радыёсувязь з усім Космасам. Ты трапіў у сферу ўздзеяння невядомай планеты.

Мамурык адразу націснуў на чорную кнопачку, хоць яму і не хацелася рабіць гэтага. Але яму яшчэ доўга здавалася, што ў кабіне пікі-пака ўсё гучыць непрыемны голас з жаданнем усё заглушыць сабою.

Калі б ён хоць аднойчы чуў голас крата Бутуза, ён адразу вызначыў бы, што голас належаў яму. Але міжпланетны Пажарнік не толькі ніколі не чуў голасу крата Бутуза, а і ўвогуле, нават не здагадваўся пра яго існаванне. Але пра крата Бутуза расказваецца ў наступнай частцы аповесці і называецца гэтая частка



# КРОТ БУТУЗ НЕЧАКАНА ДЛЯ СЯБЕ ПАЧЫНАЕ ДЗЕЙНІЧАЦЬ

— Не падыходзь да мяне! — злосна крычаў крот Бутуз, адчуваючы, што маці недзе зусім побач. — Пра планету Мамурыю, пра Вялікага мамура я даведваюся ад нейкага Чмяля! Я павінен быць на Мамурыі! Я не хачу заставацца сляпым! Я павінен сустрэцца з Вялікім мамурам!

І маці сказала яму, як ніколі строга:

— Ты даведаўся пра Мамурыю. І мне лёгка цябе зразумець! Але сустрэцца з Вялікім мамурам ты не можаш. Мы — краты. І наша сіла ў тым, што мы жывём у падзямеллі. Як толькі мы выйдзем з яго, у любой адкрытай прасторы мы перастанем быць кратамі. Мы адразу страцім сваю сілу! Гэта не мой забарон. Гэта забарон вышэйшай улады кратоў! Табе нельга на Мамурыю!

І крот Бутуз у злосным адчаі ўпаў на сваю канапу.

І Казяўка, якая стаяла побач з канапай, хутка-хутка замахала лёгкім веерам перад ім. І вочы яе, як два тэлескопы, якія нехта хутка-хутка паварочвае, спуджана глядзелі па баках. Казяўка шукала месца, дзе можна было б схавацца. А крот Бутуз сказаў у гэты час:

— Я парушу забарон вышэйшай улады кратоў!

І на гэтыя яго словы маці адказала:

— Парушыць забарон вышэйшай улады кратоў немагчыма! І, каб ты не засмучаў сваімі жорсткімі словамі мяне, сваю старую маці, я зараз выйду з гэтага пакоя і вярнуся толькі тады, калі ты забудзеш і думаць пра планету Мамурыю, і пра Вялікага мамура!

— Тады... У такім разе... — закрычаў крот Бутуз. — Я знішчу ўсё!.. Знішчу планету Мамурыю і знішчу Вялікага мамура!

Але маці ўжо не чула гэтых яго слоў. Яна спяшалася да новай шахты.

— Ты сказаў мудрыя словы! — віскнула Казяўка. — Калі ты знішчыш Мамурыю і Вялікага мамура, нішто не будзе тры-

вожыць цябе, таму што Мамурыі і Вялікага мамура больш проста не будзе.

— Як мне гэта зрабіць? — запытаўся крот Бутуз.

Ён быў бездапаможным у сваёй злосці.

Казяўка махнула веерам і склала яго ў тоненькую пласцінку.

— А ты ніколі не будзеш крыўдзіць мяне? — запыталася яна ў крата Бутуза і дадала: — Я заўсёды цябе баюся. Мяне выратоўвае толькі тое, што ты нічога не бачыш, інакш бы ты... Я хачу сказаць, што ў іншым выпадку мяне даўно ўжо не было б у гэтым пакоі.

— Я не буду цябе крыўдзіць,— сказаў крот Бутуз.

— Дай слова крата! — віскнула Казяўка.

— Даю слова крата! — не затрымаўся з адказам Бутуз.

— Добра, — пагадзілася Казяўка. — Тады я адкрыю табе тайну крата, якога ўсе завуць Сівой Поўсцю. Гэта таму, што ён вельмі стары.

— Мяне не цікавіць, як яго завуць, — сказаў крот Бутуз. — Мяне цікавіць тайна, якой ён валодае.

— О-о, — выдыхнула Казяўка. — Гэта страшная тайна. Тайна праткніту і хуткай ракеты.

— А што такое праткніт? — запытаўся крот Бутуз у Казяўкі.

— Праткніт — гэта такое рэчыва. І яно самае жудаснае з усяго, што толькі можа быць жудасным. Праткнітам напаўняюць ракету, і тады яна робіцца вельмі страшнай на зямлі і ў небе. У тых прасторах, куды немагчыма трапіць кратам. Ды і нам, казяўкам, там ніколі не быць, — уздыхнула Казяўка.

— Вядзі мяне да крата, якога завуць Сівой Поўсцю! — хутка сказаў крот Бутуз.

І Казяўка радасна перапытала ў яго:



— А ты, праўда, ніколі не будзеш крыўдзіць мяне?

І зноў, як і раней, крот Бутуз адказаў:

— Даю слова крата!

Тады Казяўка падала Бутузу сандалеты і саламяны капялюшык, абвязаны шырокай ружовай стужкай, да якой быў прымацаваны сціплы букецік з папяровых кветак. Сама яна апранула зялёны плашч у чорную бубачку. І яны пайшлі...

А на планеце Мамурыя ў гэты час адбывалася нешта святочнае і вельмі мілае зроку добрага мамура. Пра што і расказваецца ў наступнай частцы аповесці пад назвай



## ДЗЕНЬ ЛЁГКАГА КРЫЛА

Гэты дзень адрозніваецца ад астатніх дзён. На Зямлі ён завецца днём нядзельным. І зусім, як на Зямлі, на Мамурыі ў гэты дзень усе адпачываюць, выбіраючы найбольш прыдатны для адпачынку занятак.

— Твой пікі-пак сёння табе не спатрэбіцца, — сказаў мамурыку тата. — Мы паляцім на маёй паветранай яхце ў цясніну Срэбнай Вады.

— А хіба ў цясніне Срэбнай Вады ёсць вада? — запытаўся мамурык і першым саскочыў з невялікага шклянога ганку.

Яны толькі што выйшлі з дзвярэй агромністага дома, падобнага да вежы, зробленай з каляровага шкла. Калі на гэтую вежу зірнуць здалёку, яна падобна на стралу. А горад, у якім жыў мамурык, калі б на яго паглядзець таксама здалёку ці зверху, быў бы вельмі падобны да тых прыгожанькіх казачных гарадоў з каляровымі дахамі, якія нярэдка малююць мастакі ў кніжках казак славутага Андэрсена. Але гаворка не пра го-

# Схема

## Паветраныя яхты з планеты Мамурыя



Яхта для працяглых пералётаў (на вялікія адлегласці)



Яхта двухмесная (для сяброў)



Яхта звышхуткавая (для хуткага перамяшчэння ў прасторы)



Яхта - камфорт (для ўсёй сям'і)



рад, а пра мамурыка. Ён пачакаў, пакуль тата спусціцца ўніз, і потым сказаў яму:

— Ты не адказаў на маё пытанне.

А тата замест адказу падаў яму маленечкі шлем і толькі тады адказаў:

— Мы пра гэта пагаворым у паветранай яхце.

Яны падышлі да яхты, якая стаяла на адкрытай пляцоўцы і нагадвала нечым самую сапраўдную зямную яхту. І ўжо, калі селі ў яе, тата папрасіў мамурыка:

— Націсні на кнопку ўзлёту. Я зусім забыўся, трэба праверыць парашуты ў салонным аддзяленні.

Ён пайшоў у салоннае аддзяленне, а мамурык націснуў на ружовую кнопку, і яхта павольна ўзнялася ў паветра.

— Ты не забыўся пра шлем?— праз нейкае імгненне мамурык пачуў голас таты.

— Не, — адказаў мамурык. — Не забыўся!

Ён узяў шлем, і нацягнуўшы яго ледзь не на самыя вочы, зашпіліў тоненькі раменьчык.



Яхта набірала хуткасць.

Яна ўжо нагадвала маленькую кропачку ў ясным небе Мамурыі, калі тата вярнуўся з салоннага аддзялення і сеў побач з мамурыкам.

— Ты пытаўся, ці ёсць у цясніне Срэбнай Вады вада? — сказаў тата. — Гэтага ніхто не ведае. Цясніна вельмі глыбокая, але ў ёй чуецца звон, і ўсе думаюць, што гэта б’ецца вада аб каменныя глыбы на дне.

— Я цябе зразумеў, — адказаў мамурык і адразу запытаўся. — А чаго мы ляцім у цясніну?

Ён паглядзеў уніз і ў той жа момант забыўся пра сваё пытанне. Яго ўразіла ззянне, якое то набліжалася, то аддалялася ад іх недзе далёка ўнізе, на самай паверхні Мамурыі. Ззянне нагадвала тысячы вясёлак, якія ў адзін міг і разбягаліся, і сыходзіліся.

— Тата, зірні, — папрасіў мамурык. — Я ніколі нічога падобнага раней не бачыў. Што гэта можа быць?

— Ты сапраўды бачыш гэта ўпершыню? — здзівіўся тата. — Няўжо ніколі раней не бачыў, калі падымаўся на сваім пікі-паку.

— Не бачыў, — ціха адказаў мамурык. — Мяне цікавілі толькі знічкі ў глыбокім Космасе.

— У такім разе мы прыцішым хуткасць і трошкі знізімся.

Тата націснуў на белую кнопку, потым на зялёную, і яхта павольна пачала зніжацца.

— Глядзі ўніз, — сказаў ён мамурыку. — Гэта Круг Радасці. Сюды дарослыя мамуры прылятаюць, калі ім сумна. Ты бачыш, нібыта мільёны ззяючых вачэй глядзяць на нас. І ў гэтых вачах столькі радасці, што яна перадаецца кожнаму, хто паглядзіць у гэтыя вочы.

Тата націснуў на яшчэ адну, сінюю кнопку, і яхта пачала кружыцца над Кругам Радасці.

— Мне хочацца смяяцца, — сказаў мамурык. — У мяне такое адчуванне, нібыта я ў Космасе і мною не прапушчана ніводнай знічкі. Як ніколі, я сабою задаволены.

Тата ўздыхнуў і сказаў:

— Мамуры заўсёды сабою задаволеныя. У іх заўжды ўсё добра, таму яны рэдка прылятаюць сюды. Круг радасці іх амаль ніколі не цікавіць.

Ён націснуў на чырвоную кнопку. Яхта на нейкае імгненне прыпынілася і пачала падымацца, беручы знаёмы кірунак.

— Дык чаго мы ляцім у цясніну? — задаў мамурык яшчэ раз сваё пытанне.

— Мне хочацца пасмуткаваць, — адказаў тата. — Паўсюдна вакол цясніны растуць кветкі Жальбы. Яны дораць мамурам смутак. Сёння раніцай я адчуў, што мне не хапае смутку.

— Мне таксама трэба пасмуткаваць?— запытаўся мамурык.

— Абавязкова!— адказаў тата. — Нельга жыць адной радасцю. Пасля смутку радасць робіцца большай. Смутак робіць сэрца мамура больш спачувальным.

У гэты момант пачуўся ледзь чутны звон, нібыта нехта далёка ўдарыў у літаўры.

— Мы падлятаем да цясніны Срэбнай Вады, — сказаў тата. — Нас папярэджвае камп'ютэр. Хутка пачнем зніжацца.

Мамурык глядзеў уніз і бачыў толькі скалы, якія прыкрывалі сабой далягляд. Але яхта зніжалася, і мамурык пабачыў вялікі прагал між скалаў. Ён спачатку здаўся мамурыку фіялетавай стужкай, і мамурык здзівіўся:

— Я ўпершыню бачу фіялетавае каменне. Які змрочны, халодны колер!

— Гэта не каменне, — пачаў тлумачыць тата. — Скалы, якія ўзнімаюцца вакол цясніны, абсыпаны дробнымі фіялетавымі кветкамі. Гэта і ёсць кветкі Жальбы.

І праз нейкае імгненне тата папрасіў мамурыка:

— Ты мне не перашкаджай. Сядзі спакойна. Я выбіраю пляцоўку для пасадкі. Не хочацца ляцець на агульны яхтадром.

Прагал паміж скаламі рабіўся ўсё больш і больш шырокім, а кветкі ўсё больш выразнымі. Хутка мамурык мог бачыць іх трапяткія пялёсткі.

Яхта злёгку ўздрыганулася і апусцілася на невялікую каменную пляцоўку.

— Будзем выходзіць, — сказаў тата. — Можаш зняць шлем.

Ён адчыніў дзверцы. У кабіну яхты пацёк халадок, і мамурык вырашыў не здымаць шлема. Скочыў уніз...

Кветак было многа. Яны то раіліся, то нібыта беглі адна за адной па нябачным ланцужку. Але мамурыка здзівіла не гэта. Кветкі выпраменьвалі ледзь бачнае святло, і яно адкідвалася на скалы мігатлівымі адбіткамі.

— Кветкі, як нежывыя, — сказаў мамурык, азіраючыся па баках.

— Яны і ёсць амаль нежывыя, — адказаў бацька, пакідаючы яхту. — Даўно-даўно іх зрабіў Вялікі мамур з самага тонкага шкла і перанёс сюды на скалы... Ён працаваў два гады, затое кветкі былі падагнаны так, што неўзабаве зросліся са скаламі. Скалы іх пояць сваімі сокамі, і з кожным годам кветкі робяцца ярчэйшымі.

— Мне сумна! — сказаў мамурык і сеў на невялікі камень, баючыся наступіць на фіялетавую чародку пялёсткаў.

Калі б маёй знаёмай дзяўчынцы давялося трапіць у цясніну Срэбнай Вады, яна адразу ўскрыкнула б:

— Вой, колькі тут фіялак! Я ніколі не бачыла іх так многа.

І сапраўды, кветкі Жальбы былі вельмі падобныя да зямных фіялак, але мамурык пра гэта не ведаў, ён толькі бліжэй падсунуўся да бацькі, які таксама сеў побач з ім.

— Я люблю прылятаць у цясніну Срэбнай Вады, — сказаў бацька. — Калі б на нашай Мамурыі ішлі дажджы, напэўна, я гэта рабіў бы значна радзей...

— Учора на Мамурыі ішоў дождж, — мамурык паглядзеў на бацьку.

— Гэта быў не дождж, а штучнае арашэнне. На Мамурыі ніколі не бывае дажджоў, — адказаў бацька. — Многія мамуры нават не ведаюць, што гэта такое.

— А адкуль ты ведаеш? — запытаўся мамурык.

Бацька толькі ўздыхнуў, але потым сказаў з сумам:

— Я таксама не ведаю. Але чуў пра гэта ад аднаго астранаўта. У яго на караблі адмовіла сістэма кіравання, і ён быў вымушаны затрымацца на Мамурыі. Я тады быў такім самым маленькім мамурыкам, як і ты цяпер. Ён сумаваў па дажджах, якія цэлымі днямі ўсё стукаюць і стукаюць па шыбах вокнаў.

Дажджы як дзівосная музыка неба, якая наплывае на душу. А разам з ёю наплывае і смутак на ўсё жывое. У гэтым смутку мрояцца невядомыя гарады, неадкрытыя планеты.



І мамурык міжволі паглядзеў на неба. Яно было ясным і чыстым, без аблачынкі. Ён адразу ўспомніў пра свой пікі-пак і ўявіў яго ў такіх бязмежных вышынях, што ў любога хлопчыка альбо дзяўчынкі на Зямлі перахапіла б дыханне.

І яшчэ ён уявіў сябе ў пікі-паку і ўявіў свой сачок, якім ён хутка-хутка падхоплівае знічкі ў Космасе, баючыся, што хоць адна з іх усё-такі зможа ўпасці на нейкую невядомую планету, і тады там узнікне пажар. Мамурык ні ў якім разе не мог гэтага дапусціць. Ён жа, як сказала адна мая знаёмая дзяўчынка, быў міжпланетным Пажарнікам. І ён успомніў таксама і пра свой экранчык у пікі-паку. І ўявіў, як на экранчыку праплываюць невядомыя яму, загадкавыя планеты. Яны бываюць рознымі па памерах, і мамурык не сумняваўся, што на адной з іх ідуць доўгія, зацяжныя дажджы. Заўсёды ідуць дажджы. А, можа, толькі зрэдку. Але гэта няважна. Галоўнае ідуць.

— Я, напэўна, любіў бы дождж, — сказаў бацька. — Мне надакучае пастаянная радасць.

— Ты мала падарожнічаеш, — і мамурык на нейкае імгненне задумаўся, а потым дадаў: — У мінулым годзе толькі адзін раз вылятаў у Космас.

— Я патрэбен на Мамурыі, — апраўдваўся бацька. — Кожны мамур робіць сваю справу. Без мяне не было б дамоў на Мамурыі.

— Але дамы будуюць і іншыя мамуры.

— Так... будуюць! А я дамы праектую.

І адразу пасля гэтых слоў бацька звярнуў увагу мамурыка на тое, што на вяршынях скалаў кветкі Жальбы больш пышныя.

— Гэта таму, што там больш сонца, — адказаў мамурык. — Ты ж сам сказаў, што кветкі Жальбы зрасліся са скаламі. Значыцца, яны самыя сапраўдныя... Не мёртвыя. Я гэта бачу толькі цяпер, калі добра прыгледзеўся.

Яны гаварылі так яшчэ вельмі доўга і не ведалі, што і цясніне Срэбнай Вады, і Кругу Радасці, ды і ўсёй Мамурыі і мамурам пагражае небяспека, таму што ў гэты самы момант далёка-далёка ад іх крот Бутуз і Казяўка ў глухой земляной шахце ўжо завіхаліся каля новенькай ракеты, якую даў крату Бутузу стары крот. Той самы, якога ўсе звалі Сівой Поўсцю. І тысячы казявак прыцягнулі ракету ў шахту, але гэта ўжо новая частка аповесці, якая называецца



# НЯШЧАСНАЯ БАМБАРЫЗА

Шахта была вельмі цеснай, і ракета заняла амаль усю яе прастору.

Знаёмая Казяўка ледзь прыткнулася на драбінцы, прыстаўленай да ракеты, а крот Бутуз стаяў у праходзе. Яму ўжо не было месца ў шахце.

Ён змакрэў. Саламяны капялюшык з ружовай стужкай і прымацаваным да яе букецікам з папяровых кветак нібыта прыклеіўся да яго галавы. Бутуз прыціскаў да жывата сандалет з адарваным раменьчыкам (напэўна, раменьчык гэты адарваўся, калі перацягвалі ракету), а ў другі, цэлы сандалет, быў абуты. Казяўка трымала слоік з жоўтай фарбай. Яна пафарбавала ў гэты колер каўпачок ракеты і наважвалася злезці з драбінкі, але затрымалася.

— Бутуз, — сказала яна крату. — А як мы назавём ракету? Добра было б якраз на гэтым баку напісаць яе назву, пакуль я стаю на драбінцы.

Крот маўчаў. Ён думаў. І тады зноў загаварыла Казяўка:

— Мне здаецца, што яе трэба назваць Праткнітай, паколькі ў ёй знаходзіцца гэты страшны праткніт.

Крот яшчэ падумаў. Нарэшце, адказаў:

— Мне вельмі падабаецца маё імя. Асабліва апошні гук «з-з-з»!

І ён з асалодай працягнуў:

— Бутуз-з-з... Хацелася б, каб і назва ракеты мела гэтае «з-з-з»!

— Праткніза! — хутка сказала Казяўка, з сілаю націскаючы на гук «з».

— О-о, — закрычаў крот Бутуз, нібыта і не чуючы, што сказала Казяўка. — Мы назавём яе «Бамбарыз»! «Бамбарыз»! — паўтарыў ён. — Як здорава я прыдумаў!

— Але ракета жаночага роду, — адазвалася Казяўка. — Гэта ж не кулямёт!

— У такім выпадку...

Крот Бутуз на хвіліну задумаўся, але хутка ўскрыкнуў:

— Ну, тады «Бамбарыза»!

І Казяўка з ім пагадзілася.

— Добра! — сказала яна. — Я напішу «Бамбарыза»!

І яна пачала выводзіць літару за літарай на блішчастым баку ракеты, а крот Бутуз нечакана прамовіў:

— Хутчэй заканчвай сваю пісаніну, я страшэнна хачу есці. Калі вернемся дадому, я з'ем дзесяць катлет.

— Вядома, з'ясі! — не сумнявалася Казяўка і дадала: — Хвілінку пачакай! Не для сябе стараюся! Яшчэ трэба напісаць «Вогненебяспечна» над кнопачкай, на якую ты будзеш націскаць, калі захочаш, каб ракета ўзляцела!

— А гэта для чаго? — запытаўся крот Бутуз.

— Ты такі разумны! Такі разумны! — віскнула Казяўка, закругляючы апошнюю літару ў слове «Бамбарыза», — а не ведаеш самых простых рэчаў. Тут жа процьма чарвякоў! Нехта з іх выпадкова націсне на гэтую кнопку, — працягвала яна, злазячы з драбінкі. — А надпіс гэтага зрабіць не дазволіць! Усе чарвякі палахлівыя.



І яна нахілілася над blішчастай кнопачкай у самым хвасце ракеты і тоненька-тоненька вывела над кнопкай: «Вогненебяспечна!»

— Усё! — сказала Казяўка, — засталося толькі памыць пэндзлік, але мы гэта зробім дома!

— Я адчуваю, што зверху вее ветрыкам, — занепакоіўся крот Бутуз. — Трэба закрыць люк, калі ён адкрыты, каб ніхто з паверхні не змог зазірнуць у шахту.

— Што ж, — уздыхнула Казяўка і паставіла слоік з фарбаю на зямлю — Люк сапраўды адкрыты! Паспрабуем закрыць яго, але мне патрэбна будзе твая дапамога.

Раптам пачуўся ціхі-ціхі ўсхліп.

— Ты што, плачаш? — Казяўка запытальна паглядзела на Бутуза.

— Не! — адказаў крот. — З чаго ты ўзяла, што я плачу. Я хачу есці.

А ўсхліп паўтарыўся, толькі яшчэ больш гучны. Ён ужо нагадваў сапраўдны плач.

— Тут нехта ёсць акрамя нас! — захвалявалася Казяўка. І, азіраючыся, гучна запыталася: — Хто тут ёсць? Хто ёсць? Адзавіся!

І тады яны пачулі, чаго ні крот Бутуз, ні Казяўка зусім не чакалі.

— Гэта я — Бамбарыза! Больш тут нікога няма. А плачу я ад таго... Ад таго... — і можна было падумаць, што Бамбарызе зусім не хочацца гаварыць пра сапраўдную



прычыну свайго плачу, але яна, нарэшце, прамовіла: — Тут будзе немагчыма душна, калі закрыецца люк. Я задыхнуся ў гэтай шахце. — І яна зноў жаласна-жаласна ўсхліпнула.

— Добра! — няўпэўнена пагадзілася Казяўка, зірнуўшы на крата Бутуза.— Хай люк застаецца адкрытым.

— Ты так думаеш?

Бутуз яшчэ не вырашыў, як лепш зрабіць, — пакінуць шахту адкрытай ці закрыць яе.

І тады Казяўка пераканала яго.

— Над намі пустэча, — сказала яна. — Там ужо даўно нікога не знойдзеш. Змяркаецца. І хто ж у цемрадзі пойдзе ў адкрытае поле?! Нават палёўкі даўно пазашываліся ў свае норы. Тым больш, што асабіста мне зусім не хочацца цягаць гэты люк!

Бамбарыза жаласна-жаласна ўсхліпвала. І крот Бутуз не стаў пярэчыць Казяўцы.

— Ты ўжо чула, — прабурчэў ён. — Я з самага ранку нічога не еў. Страшэнна хачу есці. Пойдзем! Хай шахта застаецца адкрытай.

І ён знік у падзямеллі, толькі затрапятала ружовая стужка на капялюшыку. А Казяўка ледзь паспела схапіць слоік з жоўтай фарбай ды яшчэ свой плашч у чорную бубачку. І перад тым, як пайсці ўслед за кратом, зірнула ўверх, дзе бачыўся шматок неба і некалькі зорак паблісквала ў вышыні.

— Не плач! — сказала Казяўка, звяртаючыся да Бамбарызы. — Люк застаецца адкрытым! — і яна знікла ў чорным праёме падзямелля, гэтаксама, як знік крот Бутуз.

І адкуль было ёй ведаць, што адна з тых зорак, якія паблісквалі ў вечаровым небе, была зусім і не зорка, а лёгенькі, празрысты пікі-пак. Але гэта ўжо наступная частка аповесці, да якой лепш за ўсё падыходзіць назва





# МІЖПЛАНЕТНЫ ПАЖАРНІК ПРЫЗЯМЛЯЕЦЦА

Пікі-пак плыў у касмічным бязмежжы злёгку пагойдваючыся. І гэтае пагойдванне залежала ад сачка, які міжпланетны Пажарнік час ад часу перакідваў праз маленькае акенца пікі-пака, каб злавіць чарговую знічку. Але знічак было мала, і міжпланетны Пажарнік націснуў на чорную кнопачку, уключаючы радыёсувязь з усім Космасам. І адразу ж, як ужо было неаднойчы, у кабіну пікі-пака спачатку ўварваўся невыразны гул, пасля ў гэтым гуле ясна пачуліся самыя розныя сігналы. І нечакана для міжпланетнага Пажарніка гэтыя сігналы заглушыў голас:

— Радар!.. Радар!.. Ты мяне чуеш?!

— Чую! — адказаў другі голас.

Міжпланетны Пажарнік хуценька націснуў на зялёную кнопку, і экран перад ім засвяціўся. Мамурык здагадаўся, што ён не адзін у бліжэйшым Космасе, і хацеў пабачыць, як выглядаюць караблі. Але караблі на экране не з'яўляліся. На ім праплывалі толькі зоркі, а галасы па-ранейшаму гучалі, і міжпланетны Пажарнік зразумеў, што астранаўты гаварылі пра яго пікі-пак.

— Ён залішне лёгкі для далёкіх трас, — чуўся голас.

— Ты маеш на ўвазе гэты невядомы аб'ект, вельмі падобны на зямную страказу?

І хтосьці адразу адазваўся:

— Гэта, безумоўна, карабель. Нешта падобнае я бачыў на касмадромах Новай Калідоніі.

— Дык, можа, паспрабуем звязацца з ім? — прапанаваў адзін з астранаўтаў.

— А для чаго?



І тут міжпланетны Пажарнік заўважыў знічку, якая мільганула за акенцам. Ён хуценька перакінуў сачок, але было позна: знічка мігцела далёка ўнізе... Міжпланетны Пажарнік націснуў на аранжавую кнопачку, і яго пікі-пак рынуўся ўніз з такой шалёнай хуткасцю, што знічка апынулася побач. Мамурыку толькі давялося прыўстаць, каб злавіць яе сачком. Але тое, што ён пабачыў, зірнуўшы ўніз, зацікавіла яго больш, чым знічка.

Там, унізе, выразна бачылася жоўтая плямка і не толькі яна. Ён бачыў белыя кропачкі, а над імі вырысы нечага невядомага, што можна было прыняць і за дамы, і за невялікія скалы. Так, ва ўсялякім выпадку, здавалася мамурыку.



І яму стала страшна. Ён спалохаўся незвычайна, таму што зразумеў, што пад ім знаходзіцца невядомая планета, і ён зусім не ведаў, што ж яму зараз рабіць? А пікі-пак на ўсё той жа шалёнай хуткасці набліжаўся да паверхні невядомай планеты, і міжпланетны Пажарнік, вырашыў, што калі ён не націсне на кнопку мяккай пасадкі, дык яго пікі-пак, бясспрэчна, урэжацца ў гэтую паверхню. І ён рашуча націснуў на выратавальную кнопку...

Пікі-пак моцна ўздрыгануўся ўсім корпусам, а потым пачаў запавольваць хуткасць.

Міжпланетны Пажарнік не зводзіў вачэй з паверхні невядо-

май планеты. Ён выбіраў пляцоўку для пасадкі, але колькі не ўглядаўся, нічога пэўнага разгледзець не мог.

Вырысы, якія міжпланетны Пажарнік прыняў за дамы і невялікія скалы, паступова вымалёўваліся ў дрэвы. Але мамурык гэтага не мог ведаць, таму што на Мамурыі дрэвы зусім непадобныя да тых, якія растуць на Зямлі. А гэта была Зямля.

Невядомыя вырысы засталіся ззаду.

Пікі-пак зніжаўся над даволі роўнай пляцоўкай, якраз у тым месцы, дзе бачылася яшчэ раней жоўтая плямка. А вакол яе паўсюдна былі рассыпаны белыя кропачкі. І, вядома ж, міжпланетны Пажарнік не мог ведаць, што гэтыя белыя кропачкі былі не што іншае, як рамонкі. А жоўтая плямка між іх — жоўты каўпачок Бамбарызы, які ледзь не вытыркаўся з шахты. І толькі ў самы апошні момант, перад тым як пікі-пак дакрануўся да паверхні невядомай планеты, ён зразумеў, што белыя кропачкі, гэта зусім не кропачкі, а дзіўныя кветкі, якія яму ніколі не даводзілася бачыць раней. Рамонкі не растуць на Мамурыі.

Мамурык адчуў лёгкі штуршок.

У гэты момант пікі-пак звычайна яшчэ нейкі час рухаўся, як рухаецца самалёт на пасадачнай пляцоўцы. Але гэтак было на Мамурыі. Тут жа пікі-пак адразу нерухома застыў і мамурык зразумеў, што пляцоўка пад ім не шкляная. Ён паглядзеў у акно, і яго маленечкае сэрца забілася гулка-гулка.

Пікі-пак, нібыта патанаў у густым невядомым зарасніку. І, калі б мамурык ведаў, што гэты густы зараснік не што іншае, як сцябліны кветак, ён бы, безумоўна, не спалохаўся.

Пікі-пак ужо некалькі хвілін знаходзіўся на паверхні невядомай планеты і, здавалася, нішто не пагражае ні яму, ні мамурыку, які ўсё глядзеў і глядзеў у акенца. Але вось міжпланетны Пажарнік націснуў на кнопку радыёсувязі, і эфір адказаў яму цішынёй. І гэтая цішыня супакоіла мамурыка. Ён яшчэ некалькі хвілін паслухаў яе і адключыў радыёсувязь. Хвіліну-другую пасядзеў у пікі-паку, а потым устаў, мігам апынуўся перад маленечкімі дзверцамі. Не раздумваючы, міжпланетны Пажарнік адкрыў іх і скочыў у густы зараснік.

Яго адразу апякло холадам. За каўнер упала нешта халоднае-халоднае, і мамурык не мог таго ведаць, што гэта была звычайная раса. Але ён пабачыў расінкі на сцяблінках рамонкаў. Нават даткнуўся да адной, і, калі расінка скацілася ўніз,

пачаў шукаць яе ў траве і не змог знайсці. Мамурыка не пакідала пачуццё боязі. Яму здалося, што ён трапіў у непраходны лес, таму што на Мамурыі былі зусім іншыя лясы, а сам міжпланетны Пажарнік быў вельмі маленькім.

Калі б яго ў траве пабачыла нейкая дзяўчынка ці хлопчык, яны падумалі б, што нехта згубіў сваю ляльку, вельмі прыгожанькую і не падобную ні на адну лялькую на свеце. Мамурык быў вельмі празрыстым. Можна было б падумаць, што ён шкляны, але ён быў проста маленькім мамурыкам, такім самым, як і ўсе мамурыкі на Мамурыі. Ён знаходзіўся на невядомай яму планеце і з цікавасцю прыгнуў да сябе сцяблінку, разглядаючы белую кветачку на ёй. І якраз у гэты момант зусім блізка ад сябе мамурык пачуў ледзь чутны ўсхліп, добра яму знаёмы, таму што і сам ён неаднойчы гэтак жа сама плакаў.

Мамурык азірнуўся і — жахнуўся: ён стаяў на самым краі цясніны. Так яму здалося. І амаль усю цясніну закрывала нешта жоўтае. Раптам яно злёгку варухнулася, і мамурык зразумеў, што плача яно, таму трошкі памарудзіўшы, запытаўся:

— Ты плачаш?

І не пачуўшы адказу, сказаў:

— Хоць я і не ведаю, хто ты і як цябе завуць, мне цябе шкада!

І адразу на гэтыя яго словы адгукнулася Бамбарыза. А гэта была яна ў сваёй шахце і ў сваім жоўтым каўпачку.

— Я — Бамбарыза! — пачуў мамурык. — І плачу я ад таго, што хутка палячу на Мамурыю, каб знішчыць Вялікага мамура і ўвогуле, усё жывое там. І можа гэтак стацца, што Мамурыі больш не будзе. Яна застанецца толькі, як казка.

Як жа стала страшна мамурыку пасля гэтых слоў Бамбарызы. Ніколі раней ён і падумаць не мог, што яго Мамурыя можа знікнуць.

Мамурык маўчаў. Ён быў бездапаможны перад словамі Бамбарызы. Тады зноў загаварыла яна:

— Ты маўчыш! Я цябе разумею. Ты нічым не можаш мне дапамагчы.

І мамурык сказаў ёй:

— А ты не ляці на Мамурыю! — і яшчэ ён хацеў сказаць, што гэта яго Мамурыя, што ён прыляцеў якраз адтуль, і што ён бясконца любіць Вялікага мамура і ўсіх астатніх мамураў і мамурыкаў. Але ён не сказаў гэтага. Ён пра гэта толькі падумаў.

— Я не магу не ляцець на Мамурыю, — уздыхнула Бамбарыза. — Гэта ад мяне не залежыць. Я толькі ведаю, што ўва мне знаходзіцца страшны праткніт. Мне здаецца, што я праглынула нешта мярзотнае. І хаця праткніту ўва мне не так і многа, але ён абавязкова ўзарвецца на Мамурыі.

І міжпланетны Пажарнік нечакана для сябе і  для Бамбарызы прапанаваў:

— Калі табе здаецца, што ты праглынула нешта мярзотнае, але таго, што ты называеш страшным праткнітам у табе не так і многа, дык выплюнь яго. Я заўсёды так раблю, калі глытаю нешта непрыемнае для сябе.

— Ты думаеш, я змагу яго выплюнуць? — засумнявалася Бамбарыза.

— А ты паспрабуй! — сказаў мамурык.

Бамбарыза з цяжкасцю пачала здымаць свой каўпак. Нарэшце, ён лёг на паверхню зямлі, і мамурык на некалькі крокаў адступіў, а Бамбарыза пачала кашляць...

Яна то войкала, то ўсхліпвала і кашляла... Нарэшце сказала мамурыку:

— У цябе няма маленькай хусцінкі?  Мне трэба выцерці слёзы.

Міжпланетны Пажарнік знайшоў у кішэні хусцінку і падаў яе Бамбарызе, нахіляючыся над шахтай. Яна ўзяла хусцінку і праз нейкае імгненне сказала:

— Я выплюнула праткніт і стала незвычайна лёгкай! Гэта можа заўважыць крот Бутуз.

— А хто такі крот Бутуз? — запытаўся мамурык.

— Гэта той, ад каго залежыць, ляцець мне на Мамурыю ці не! — адказала Бамбарыза. — Ён заўтра прыйдзе сюды, я яго вельмі баюся.

— Цябе трэба нечым запоўніць, — адразу здагадаўся міжпланетны Пажарнік. — Але я не ведаю чым.

І Бамбарыза параіла яму:



— Я чую, што вакол расце многа рамонкаў. У іх адметны пах. Ты можаш нарваць гэтых кветак і запоўніць мяне кветкамі.

— Добра, — сказаў мамурык і паглядзеў вакол сябе.

Рамонкаў сапраўды было вельмі многа, і ён вырашыў, што кветкі трэба зрываць і складваць у сачок. І мамурык пайшоў да свайго пікі-пака. Выцягнуў праз акенца сачок. Потым вытрас з яго попел, які застаўся ад згаслых знічак. І пачаў хутка-хутка іраваць рамонкі. Як толькі сачок напаўняўся, ішоў да Бамбарызы і высыпаў кветкі ў яе. Нарэшце, Бамбарыза сказала:

— Ну, хопіць! Хопіць... Калі можаш, падсунь мой каўпачок бліжэй, каб мне было зручна дастаць яго, ды вазьмі сваю хусцінку.

І міжпланетны Пажарнік узяў хусцінку і, моцна ўпіраючыся ў зямлю, з цяжкасцю падсунуў жоўты каўпачок бліжэй да Бамбарызы, якую ён, трэба сказаць, і не бачыў. Бамбарыза ж была ў глыбіні шахты. Але яна змагла ўзяць каўпак і нацягнула яго на ранейшае месца.

— Я не буду больш плакаць, — сказала яна. — Цяпер толькі б крот Бутуз нічога не заўважыў.

Раптам мамурыку нясцерпна схацелася хутчэй пабачыць сваю Мамурыю. І ён сказаў Бамбарызе:

— Я з табою развітваюся! Табе будзе сумна?

— Так хутка? — здзівілася Бамбарыза. — Мне, сапраўды, будзе сумна, — і трошкі падумаўшы, яна дадала: — Але я буду глядзець на зоркі і мне будзе здавацца, што я не адна ў гэтай цемры.

Бамбарыза не чула, як мамурык падышоў да свайго пікі-пака, не чула, як ён садзіўся ў яго, і таксама не пачула, як пікі-пак узляцеў. Яна толькі праз нейкае імгненне пабачыла маленечкую зорку ў цёмным небе і ёй прыдалося, што гэтая зорка рухаецца. Але хутка гэтая маленечкая зорка далучылася да іншых зорак і знікла сярод іх.

Міжпланетны Пажарнік вяртаўся на сваю Мамурыю, не перастаючы думаць пра тое, давядзецца Бамбарызе ўзляцець ці не, і што будзе з яго Мамурыяй, з Вялікім мамурам і ўвогуле з усімі мамурамі і мамурыкамі. Але пра гэта расказваецца ў апошніх дзвюх частках аповесці, адна з якіх называецца





## БАМБАРЫЗА ЎЗЛЯТАЕ

Крот Бутуз, як заўсёды, ляжаў на сваёй цвёрдай канапе. Настрой у яго цяпер, на дзіва, быў радасны.

Побач з ім на невысокай табурэтцы стаяў магнітафон, і вясёлая музыка яшчэ больш прыўзнімала настрой крата Бутуза. Ён нават спрабаваў нешта заспяваць, але ў яго атрымлівалася бязладна, і ён смяяўся з гэтай сваёй бязладнасці.

Вось заварушылася цяжкая шэрая шторка, і з-за яе выскачыла Казяўка, расшпільваючы свой зялёны плашч у чорную бубачку.

— Маці, гэта ты? — запытаўся крот Бутуз.

І Казяўка адказала:

— Ты мяне не пазнаеш?

Яна зняла свой плашч і кінула ў куток на земляную падлогу.

— А я толькі што з той шахты, дзе стаіць наша Бамбарыза, — паведаміла Казяўка.

— Ну і як яна сябе адчувае?

Крот Бутуз трошкі прыцішыў музыку.

— Стаіць. І загадкава пасміхаецца!

— А люк?! Ты закрыла люк шахты? — з трывогай закрычаў крот Бутуз і саскочыў з канапы.

— Не! — Казяўка ўзяла ў рукі магнітафон і села на табурэтку. — Ён жа страшэнна цяжкі гэты люк. Хіба ж магла я адна яго закрыць.

— Тады, чаго ты так доўга затрымлівалася? — запытаўся крот Бутуз.





— Я была на паверхні! — і Казяўка засмяялася. — І што ты думаеш, Бутуз? Гэтыя неразумныя конікі пачалі гуляць у футбол! На нашай пустэчы сапраўднае футбольнае поле! Конікі нацягнулі на сябе зялёныя майкі і зялёныя штонікі, а мяч ганяюць так, што ад рамонкаў ва ўсе бакі разлятаюцца пялёсткі! І каго там толькі няма! Зляцеліся жукі, матылі, мухі, нават чарвякі павыпаўзалі са сваіх сховаў, каб паглядзець, як конікі гуляюць у футбол! Шкада, што цябе не было, крот Бутуз. Ды што шкадаваць, ты ўсё роўна нічога не пабачыў бы!

Крот Бутуз пачаў хутка хадзіць па пакоі.

— Дык гаворыш, што конікі гуляюць у футбол? — злосна перапытаў, нарэшце, крот Бутуз і спыніўся насупраць Казяўкі. — І табе шкада, што там не было мяне, але я ўсё роўна нічога не пабачыў бы?! Я ведаю, што мне трэба рабіць! — і, трошкі памаўчаўшы, дадаў: — Бамбарыза ўзляціць сёння! Зараз жа! Калі я не магу пабачыць нават таго, як конікі гуляюць у футбол, Мамурыя не павінна больш існаваць! Вялікага Мамура больш не будзе! Пайшлі! — рашуча сказаў ён Казяўцы.



І яны пайшлі. Казяўка не паспела схапіць свой зялёны плашч у чорную бубачку і забылася падаць крату Бутузу сандалеты і саламяны капялюшык, перавязаны ружовай стужкай, да якой быў прымацаваны букецік з папяровых кветак...

А потым была шахта, дзе стаяла Бамбарыза.

Крот Бутуз кіраваў пускам ракеты і на

кнопку, пад якой было напісана «Вогненебяспечна», націскаў не ён, а Казяўка. Шахта ахуталася дымам, і, калі дым трошкі развеяўся, крот Бутуз сказаў, кашляючы:

— Нешта тут пахне, як там... на паверхні. Адкуль гэты пах?

Казяўка зашмыгала носам.

— Пахне рамонкамі, — сказала яна. — Шахта вызвалілася ад Бамбарызы, і гэты пах заплыў з паверхні на яе месца. Нічога страшнага!

— Я стаміўся, — сказаў крот Бутуз і пазяхнуў, задаволена паціраючы свой жывот. — Як ты думаеш, — звярнуўся ён да Казяўкі, — ракета ўжо даляцела да Мамурыі ці не?

І тое, пра што ён падумаў, зусім не адпавядала таму, пра што расказваецца ў апошняй частцы аповесці, якая мае назву



## МІЖПЛАНЕТНЫ ПАЖАРНІК ПРЫМАЕ РАШЭННЕ

Мамурык салодка спаў на малюсенькім шкляным ложку. Але, як толькі зазвінеў камп'ютэр, які нагадваў зямны будзільнік, і пачуўся яго голас: «Праз паўгадзіны табе трэба снедаць!», мамурык саскочыў з ложка і, ні хвіліны не затрымліваючыся, пачаў рабіць ранішнюю зарадку. Ён зрабіў першае практыкаванне, загучала рытмічная музыка, і камп'ютэр зноў загаварыў у такт практыкаванням мамурыка:

— Раз!.. Два!.. Тры!.. Чатыры!.. Раз! Два!.. Тры!.. Чатыры!.. Запаволім дыханне і пераходзім да наступнага практыкавання!

Здавалася, мамурык цалкам захапіўся рухамі, і нічога іншага на Мамурыі ў гэты момант для яго не існавала. Але вось праз адчыненае акно да мамурыка даляцеў гул. А потым выразна пачуліся галасы і гэтых галасоў было так многа, што мамурык прыкрыў свае маленькія вушы далонямі, і падбег да акна...

— Раз!.. Два!.. Тры!.. Чатыры!.. — гучаў голас камп'ютэра, але ён здаваўся тоненькім піскам камара ў лавіне галасоў, якія ўсё набліжаліся і набліжаліся да мамурыка.

І, калі ён выглянуў з акна, першымі пабачыў не сотні мамураў і мамурыкаў, якія з крыкамі беглі па вуліцы, а два белыя рамонкі, якія павольна апускаліся на падваконне. Рамонкі падалі з неба. Іх было так многа, што калі б падобнае здарылася на Зямлі, дык можна было б падумаць, што пачаўся неверагодна вялікі снег.

Але на Мамурыі ніколі не бывае снегу і, здзіўлёныя, мамуры і мамурыкі крычалі:

— Які дзіўны дождж!.. Які катастрафічна дзіўны дождж!

Яны лавілі рамонкі і спыняліся на паўкроку, разглядваючы іх.

Мамурык таксама ўзяў з падваконня рамонкі ў свае маленькія далоні і заўсміхаўся. І цяжка было зразумець, ці смяяўся ён з няўцямнасці мамураў і мамурыкаў, якія ўсё крычалі: «Які дзіўны дождж!», ці яму было проста радасна ад таго, што дзякуючы свайму непрадбачанаму падарожжу, ён выратаваў і Мамурыю, і Вялікага мамура, і ўсіх мамураў і мамурыкаў.

Рамонкі нагадвалі дзве зорачкі, і мамурык, адчуўшы іх пах, успомніў высокія сцяблiны, на якіх раслі гэтыя кветкі. І яшчэ ён успомніў жоўты каўпачок Бамбарызы, якая была цяпер недзе на Мамурыі, і вырысы нечага незвычайнага, незнаёмага мамурыку, што нагадвала і дамы на Мамурыі, і невялікія скалы аднначасова. І яму стала вельмі сумна. Ён быў на невядомай планеце, пра якую засталіся ўспаміны, але гэтых успамінаў было так мала!

Сум не пакідаў яго, і мамурык зусім нечакана для сябе прыняў дзёрзкае рашэнне.

Ён вырашыў у бліжэйшы час яшчэ раз наведаць невядомую планету. І паляцеў туды на сваім лёгенькім пікі-паку, які нагадваў стракаЗу.

Але гэта ўжо другая аповесць пра мамурыка, каго адна мая знаёмая дзяўчынка назвала міжпланетным Пажарнікам.





# АПОВЕСЦЬ ДРУГАЯ

## АД АЎТАРА

З таго самага моманту, калі мамурык прыняў дзёрзкае рашэнне ляцець на невядомую планету, прайшло два мамуркаты, што азначае на Зямлі — два тыдні. Ужо амаль усё было падрыхтавана. Мамурык замяніў некаторыя прыборы на пікі-паку. Дарога была далёкая і яму ўсё трэба было прадугледзець.

У багажны адсек пікі-пака ён паклаў малюпасенькі ліхтарык і маленькі фотаапарат.

Не забыўся ён і пра цюбік з ежай, — падарожжа магло зацягнуцца, і хто ведае, чым харчуюцца на невядомай планеце. Ён нават узяў запасны сачок, але, нягледзячы на гэта, жаданы дзень узлёту ўсё адкладваўся і адкладваўся.

Мамурык не ведаў галоўнага: дакладных каардынатаў невядомай планеты, таму што ў той першы раз ён трапіў на яе выпадкова.

Бясспрэчна, вяртаючыся на Мамурыю, ён мог пазначыць маршрут на сваёй зоркавай карце, ды пра гэта мамурык у той раз зусім і не думаў. Тады яго займала адна-адзіная думка: давядзецца Бамбарызе ўзляцець ці не? І што будзе з яго Мамурыяй, з Вялікім мамурам і ўвогуле, з усімі мамурамі і мамурыкамі, такімі ж, як і ён сам, калі Бамбарыза ўсё-ткі ўзляціць?

І вось яна ўзляцела. Пад шкляным каўпачком у яго пакоі ляжалі рамонкі. І ён гадзінамі глядзеў на іх, успамінаючы высокія-высокія сцяблiны, на якіх раслі гэтыя дзівосныя кветкі,

і ўсё тое, што адбылося з ім на невядомай планеце, а прыняць канчатковага рашэння ўсё ніяк не мог.

Калі б на яго месцы апынуўся які-небудзь хлопчык, альбо дзяўчынка, дык яны таксама не асмеліліся б ляцець наўздагад, — бо гэта так небяспечна!

Сапраўды, што магло пераканаць мамурыка ў тым, што ён абавязкова трапіць на тую самую планету, а не на нейкую іншую? Таму, відаць, якраз тут і трэба сказаць, што, магчыма, мамурык так ніколі і не адважыўся б, калі б у гэтым не дапамог яму яго тата.

А як гэта адбылося, расказваецца ў першай частцы другой аповесці пад назвай



## НЕЧАКАНАЯ СУСТРЭЧА

Міжпланетны Пажарнік рыхтаваўся да заняткаў. Ён, як вядома, вучыўся ў школе Вялікага мамура і заўсёды вылучаўся сваёй стараннасцю, але апошнія два мамуркаты заняткі даваліся яму цяжка, ды гэта і зразумела, — заміналі думкі пра падарожжа.

Вось і цяпер ён падышоў да каўпачка, пад якім ляжалі рамонкі, і хацеў ужо сесці на маленькую шкляную табурэтачку, каб надоўга аддацца ўспамінам, але пачуў голас таты, і заместа таго, каб сесці, выглянуў у акно, за якім на маленечкім шкляным ганку тата распакоўваў пачкі з дэзадарантам.

Напэўна, у гэтым месцы адна мая знаёмая дзяўчынка магла б ускрыкнуць:

— Ах, у нас таксама ёсць дэзадарант! Ім карыстаюцца ўсе, акрамя мяне. Нават мой старэйшы брат! А я яшчэ маленькая.

Але ні тата мамурыка, ні мама, ні тым больш ён сам, дэзадарантам не карысталіся.

На Мамурыі дэзадарантам апырскваюць кветкі, якія там ніколі-ніколі не пахнуць. І робіцца гэта тады, калі надыходзіць свята Духмянага пялёстка.

У гэты дзень усе мамуры і мамурыкі выходзяць з дэзадарантамі ў паркі і ў свае мамурыянскія сады, спыняюцца каля газонаў, і ўсё навокал напаўняецца чароўным водарам бэзу, ружаў, язміну, маладой лугавой травы...Гэта самае дарагое і жаданае свята для кожнага мамура і мамурыка. Але яно было яшчэ далёка, — гэта ведаў міжпланетны Пажарнік і таму толькі падумаў: «Малайчына татка, загадзя рыхтуецца да свята!», а ўслых сказаў:

— Напэўна, табе трэба дапамагчы?



Бацька не паспеў адказаць яму. Ён адклаў пачак з дэзадарантам убок і падняў галаву, каб нешта сказаць, але мамурыка ўжо не было ў аконным праёме.

Праз некалькі хвілін лёгенька зазвінелі шкляныя дзверы, і мамурык, як гэта робяць паслухмяныя дзеці, яшчэ нават не зачыніўшы дзвярэй, сказаў:

— Ты трошкі адпачні, тата. Я сам распакую некалькі пачкаў.

— Не спяшайся! — бацька спыніў яго рукою. — Я не для гэтага цябе паклікаў. Вазьмі вось гэты балончык... Табе знаёмы гэты пах?

Мамурык схіліўся над балончыкам, лёгенька ўдыхнуў паветра і застыў уражаны.

— Рамонкі!.. Так пахнуць рамонкі! — радасна закрычаў ён і спалохаўся свайго крыку, а бацька ўжо дапытваўся ў яго:

— Рамонкі? Як ты сказаў? Што азначае гэтае слова?! Галоўны дэгустатар назваў дэзадарант « Дажджавой кропляй».

Мамурык збянтэжыўся.

— Я гэтае слова прыдумаў, — ціха адказаў ён, вяртаючы балончык. — А дэзадарант сапраўды пахне, як дзіўны нядаўні дождж. Галоўны дэгустатар не памыліўся. Ён дакладна перадаў пах.

Мамурык адвёў вочы. Яму не хацелася сустракацца позіркам з бацькам, і ён ажно задыхнуўся ад таго, што пабачыў на галоўнай Магістралі Мамурыі.

Калі б побач з мамурыкам стаяла адна мая знаёмая дзяўчынка, яна таксама здзівілася б і закрычала:

— Ах, які прыгожанькі бліскучасты трактарчык! І як гэта яму ўдаецца цягнуць такі непамерна вялікі груз?

Але тое, што пабачыў мамурык на галоўнай Магістралі , на Мамурыі называлася не трактарам, а мамурактарам.

Мамурык ледзь не крыкнуў:

— Бамбарыза!.. Бамбарыза!..

І стрымаў сябе. Ён толькі ўвесь напружыўся і не адрываў позірку ад жоўтага каўпачка Бамбарызы, якую цягнуў на агромністым прычэпе мамурактар. А гэта была, сапраўды, яна — Бамбарыза! І ў яркім сонцы Мамурыі золатам адлівалі літары, якія яшчэ зусім нядаўна выпісвала на яе бліскучастым баку Казяўка.

Бацька таксама паглядзеў на галоўную Магістраль.

# Схема пікі-пака



Пікі-пак.
Гэта дзівосны касмічны карабель Мамурыка - міжпланетнага Пажарніка

Панэль кіравання пікі-пака з рознакаляровымі кнопачкамі.



— Знайшлі яшчэ адну непатрэбную рэч, — абыякава сказаў ён.

І мамурык імгненна здагадаўся: Бамбарызу вязуць у музей Непатрэбных знаходак, куды здаюцца ўсе непатрэбныя рэчы, знойдзеныя на Мамурыі, а таксама і тое, што прывозіцца дарослымі мамурамі з далёкіх планет і не знаходзіць на Мамурыі належнага выкарыстання.

«Мне трэба ў музей! Тэрмінова!» — падумаў мамурык і адразу адмовіўся ад гэтай раптоўнай думкі. Ён жа не зможа пагаварыць з Бамбарызай зараз, пры ўсіх, таму што яе будуць размяшчаць у музеі дарослыя мамуры і яму не выпадзе ніводнай хвіліны пабыць  з ёю сам-насам. А пагаварыць яму трэба было.

Як жа ён раней не здагадаўся і не кінуўся на пошук Бамбарызы. Яна, безумоўна, ведае каардынаты невядомай планеты і можа дапамагчы яму вызначыць дакладны маршрут на зоркавай карце.

Маленечкае сэрца мамурыка білася моцна-моцна, але ён цвёрда вырашыў, што ў музей Непатрэбных знаходак пойдзе заўтра, а сёння дапаможа бацьку распакаваць пачкі з дэзадарантам. Потым як след падрыхтуецца да заняткаў, каб Вялікі мамур не затрымліваў яго доўга ў школе. Ён возьме сваю зоркавую карту і пойдзе ў музей днём, калі амаль не бывае наведвальнікаў. Але яго думкі перапыніў бацька.

— Ты даўно не вылятаў у Космас. Нешта здарылася з тваім пікі-пакам? — пацікавіўся ён.

— З пікі-пакам усё ў парадку! — хутка адказаў мамурык. І растлумачыў: — У мяне цяпер многа заняткаў, а ў Космас я палячу праз дзень.

І ў гэты момант яму не хацелася ўдавацца ў доўгія размовы з бацькам, таму што ў думках ён ужо ўяўляў сваю размову з Бамбарызай у музеі Непатрэбных знаходак. А як гэта адбывалася на самой справе, расказваецца ў наступнай частцы аповесці, якая так і называецца





# У МУЗЕІ НЕПАТРЭБНЫХ ЗНАХОДАК

Назаўтра Вялікі мамур доўга не затрымліваў мамурыка ў школе, толькі запытаўся, заўважыўшы, як паспешліва той збірае падручнікі:

— Куды ж ты так спяшаешся?

— Сёння я іду ў музей Непатрэбных знаходак! — адказаў мамурык.

— Малайчына! — пахваліў яго Вялікі мамур. — Для таго, каб кожны мамурык дакладна ведаў, што яму трэба ў жыцці, ён спачатку павінен добра ўсведамляць пра тое, што яму непатрэбна!

— Я таксама так думаю, Вялікі мамур, таму і іду туды, — пагадзіўся мамурык і, як заўжды, ветліва развітаўся. Але, як толькі выйшаў на школьны ганак, ён з імклівасцю, на якую толькі быў здольны, збег са шкляных прыступак і кінуўся да свайго пікі-пака.

Да музея Непатрэбных знаходак ісці было даволі далёка, і мамурык вырашыў, што на пікі-паку ён даляціць імгненна! Таму, яшчэ не паспеўшы як след сесці ў маленечкае крэсла, адразу націснуў на кнопку ўзлёту. І яму спатрэбіліся лічаныя тры хвіліны для таго, каб з’явіцца каля музея.

Пікі-пак застаўся стаяць на шкляным тратуарчыку. А мамурык, не звяртаючы ўвагі на маленькага Робата, які яшчэ больш маленькім пыласосам збіраў пыл каля галоўнага ўваходу ў музей, хуценька ўбег у расчыненыя дзверы.

Урачыстая цішыня першага музейнага пакоя прымусіла мамурыка спыніцца. Ён правёў позіркам па шматлікіх зашклёных шафах,



дзе размяшчаліся самыя розныя экспанаты: прасы электрычныя, лёгенькія і прасы вельмі цяжкія, прымітыўныя, якімі, магчыма, недзе карысталіся ў адным з першых стагоддзяў развіцця нейкай цывілізацыі. Тут былі і нажы — маленькія сцізорыкі і вялізныя кінжалы. А яшчэ былі і зусім дробныя рэчы: іголкі, кнопачкі, якімі прымацоўваецца папера, электрычныя разеткі, розныя адвёрткі, шпількі, нават нейкія шклiначкі, нібыта нехта разбіваў тут шклянкі, і многа-многа запалкаў...

Бамбарызы тут не было, а ўсе гэтыя рэчы мамурыка не цікавілі. Ён ужо неаднойчы бачыў іх, таму, не затрымліваючыся, шпарка накіраваўся да другога пакоя.

І трэба сказаць, што, калі б у гэтым першым пакоі апынулася адна мая знаёмая дзяўчынка і ўважліва разгледзела б экспанаты, яна сказала б:

— Ах, у гэтых шафах выстаўлена ўсё тое, да чаго заўжды нават адным пальчыкам забараняе датыкацца мама! Тут сабраны непатрэбныя рэчы, з імі нельга гуляць.

Ды справа не ў дзяўчынцы, а ў мамурыку, які ўжо ўвайшоў у другі пакой і раптоўна спыніўся ад нечаканасці: так блізка была ад яго Бамбарыза.

Яна стаяла каля ўваходу і таксама пабачыла мамурыка. І ў той жа момант знерухомела, напружана разглядаючы гэтага адзінокага наведвальніка.

А мамурык ужо накіраваўся да яе, і на твары яго была непрыхаваная радасць.

— Бамбарыза, — усхвалявана зашаптаў ён, і можна было падумаць, што мамурык баіцца, раптам яго пачуюць, які-небудзь выпадковы мамурык ці мамур, які вырашыць завітаць сюды. Ён азірнуўся і радасна выдыхнуў: — Як я рады цябе бачыць на Мамурыі!

— Адкуль ты мяне ведаеш? — імгненна ажывілася Бамбарыза, і яе жоўты каўпачок захістаўся ў розныя бакі. — Я цябе бачу ўпершыню! — Яна не хавала свайго здзіўлення. — Раней мы нідзе не сустракаліся, я ў гэтым пераканана.

І мамурык не стаў Бамбарызе доўга тлумачыць, адкуль ён ведае яе, ён толькі сказаў:

— Было вельмі цёмна... Ты была ў шахце, а я — на паверхні, ды гэта не галоўнае. Тут, на Мамурыі, я пазнаў цябе па тваім жоўтым каўпачку. А там, дзе я пабачыў твой каўпак,

ты выплюнула праткніт, — гэтае жудаснае рэчыва, якое было ў табе. І я запоўніў цябе рамонкамі.

Бамбарыза ажно пахіснулася ад нечаканасці.

— Дык гэта ты?! Ты?! — яна часта дыхала ад хваляваня. — Ты таксама сюды прыляцеў? Як жа гэта табе ўдалося?

— Я тут жыву, — спакойна адказаў мамурык.— І тата, і мама мае жывуць тут, і ўсе астатнія мамуры і мамурыкі таксама...

— О-о, дык ты, напэўна, мамурык? Цябе так завуць? Праўда?

— Угу-у, — ён хацеў сказаць яшчэ нешта, але не сказаў...

Каля самай сцяны побач з Бамбарызай мамурык пабачыў штосьці невядомае — блішчастае, чорнае і вялікае, што міжволі прыцягнула яго ўвагу. Бамбарыза перахапіла яго позірк і здзіўлена запыталася:

— Ах, ты, напэўна, спалохаўся яго? А гэта ж звычайны аўтамат! Ім вельмі доўга карысталіся там, адкуль яго прывезлі. І цяпер ён спіць. Ён і нас зараз не чуе. Я падазраю, што ён будзе спаць вечна!

Мамурык хацеў сказаць Бамбарызе, што ён бачыць тое, што яна назвала аўтаматам, упершыню, таму і не ведае, што гэта такое. Праўда, яно стаіць тут, у музеі, значыцца, з’яўляецца непатрэбнай рэччу. Ён яго зусім не спалохаўся. Але сказаў іншае:

— Мне патрэбна твая дапамога. Толькі ты адна можаш дапамагчы мне.

— Цябе трэба абараніць? — адазвалася Бамбарыза.

— Не!.. Мяне абараняць не трэба, — і мамурык дадаў вельмі ціха, нібыта баяўся, што яго можа па-



чуць аўтамат: — Мне патрэбен дакладны маршрут на планету, адкуль прыляцела ты. У той раз я апынуўся там выпадкова.

— Ты хочаш трапіць на Зямлю? — зноў ажывілася Бамбарыза. — Ты хочаш адпомсціць крату Бутузу? — і ў яе вачах заблішчэлі ваяўнічыя агеньчыкі.

Гэта заўважыў мамурык. Ваяўнічыя агеньчыкі ў вачах Бамбарызы не спадабаліся яму. І ён не мог не сказаць ёй:

— Мамурыкі ніколі нікому не помсцяць! Я проста хачу паляцець яшчэ раз на тую планету.

І Бамбарызе стала сорамна.

— У маёй памяці ёсць маршрут, — пачуў ён. — Калі ты хочаш, я растлумачу...

— Тлумачыць не трэба, — у голасе мамурыка пачулася раднасае хваляванне. — Ты пазнач яго на маёй зоркавай карце.

І ён працягнуў Бамбарызе маленечкую карту і такі ж маленечкі шкляны аловак, які ўвесь час трымаў у руках.

Бамбарыза ўзяла карту і аловак, пачала старанна штосьці пазначаць на ёй. І неўзабаве яны развіталіся.

— Дзякуй, — сказаў мамурык. — Ты мне вельмі дапамагла.



Бамбарыза маўчала. Яна абвяла позіркам агромністы пакой музея і ўздыхнула.

— Ты баішся адзіноты? — запытаўся мамурык.

І ён не ведаў, што зрабіць для Бамбарызы, каб яна не сумавала. Але тут загаварыла Бамбарыза. Яна на пытанне мамурыка адказала сваім пытаннем:

— А калі ты вернешся з Зямлі? — і тут жа дадала. — Я цябе буду чакаць.

— Калі вярнуся, не ведаю, — адказаў мамурык. — Але адразу, як толькі зноў апынуся на Мамурыі, абавязкова зайду да цябе.

І ён хуценька пайшоў з пакоя, адчуваючы, што размова з Бамбарызай можа зацягнуцца, а яму трэба было спяшацца. Ён ужо вырашыў для сябе, што на Зямлю паляціць заўтра, і ў яго, як заўжды бывае перад вялікай дарогай, было многа спраў. Галоўнае ж, трэба было дамовіцца з Вялікім мамурам наконт заняткаў, хоць мамурык і быў упэўнены, што Вялікі мамур пагодзіцца, каб заняткі адкласці.

Каля галоўнага ўваходу ў музей Робата ўжо не было.

На шкляным тратуарчыку адзінока стаяў пікі-пак, і мамурык кінуўся да яго, цяпер ужо думаючы толькі пра заўтрашні палёт, пра які і расказваецца ў той частцы аповесці, якая называецца



## МІЖПЛАНЕТНЫ ПАЖАРНІК ЗНОЎ У КОСМАСЕ

Пікі-пак, як заўсёды, імчаў з неверагоднай хуткасцю, але цяпер ён ляцеў па строга вызначаным маршруце. «Я, напэўна, ужо вельмі далёка ад Мамурыі», — думаў міжпланетны Пажарнік і лёгенька сваім сачком падхопліваў чарговую знічку, якая імкнулася праляцець міма.



— Ёсць!.. Ёсць!.. — радасна крычаў мамурык і, між іншым, трошачкі шкадаваў, што не можа звярнуць убок, дзе, напэўна, таксама падаюць і падаюць знічкі.

Міжпланетны Пажарнік злавіў яшчэ некалькі знічак і раптам успомніў, што ён не ўключыў радыёсувязь з Мамурыяй, і якраз у гэты момант загучалі тоненькія сігнальчыкі.

«Мамурыя! На сувязь выходзіць Мамурыя!» — мільганула думка, і мамурык націснуў на белую кнопачку радыёсувязі.

У тое ж самае імгненне пачуўся роўны жаночы голас:

— Дзе ты? Дзе ты? Дзе ты?

Гэта была мама мамурыка. І голас яе расчараваў міжпланетнага Пажарніка. «Мамурыя ўсё яшчэ блізка, — падумаў ён. — Да Зямлі яшчэ ляцець і ляцець!»

— Дзе ты? Дзе ты? Дзе ты?

На Мамурыі хвалявалася мама.

І мамурык хуценька адказаў, падхопліваючы сачком яшчэ адну знічку.

— Не хвалюйся, мама! Сёння вельмі многа знічак! Я не паспяваю іх лавіць, таму і затрымаўся з адказам.

— Ты хутка будзеш дома? — запыталася мама.

І мамурык, трошкі памарудзіўшы, адказаў:

— Відаць, не! Сёння затрымаюся ў Космасе, я ж некалькі дзён не вылятаў. Ты ведаеш.

І ён зноў сваім сачком падхапіў знічку. А потым яшчэ і яшчэ адну.

Мама яму не пярэчыла.



— Добра, — сказала яна. — Можаш затрымацца ў Космасе. Толькі не пакідай межаў нашай Галактыкі.

— Вядома, не пакіну! Навошта ж мне залятаць у іншыя Галактыкі, калі знічак многа і тут! Галоўнае, не хвалюйся, мамачка!

— Ты мяне пераканаў! Хвалявацца не буду. Лаві свае знічкі, я пастараюся цябе больш не турбаваць.

Міжпланетны Пажарнік задаволена пасміхнуўся, націснуўшы зноў на белую кнопку. Побач з ёй была чорная, і мамурык звычайна націскаў на яе, калі ўключаў адкрытую радыёсувязь з усім Космасам. «Трэба падключыцца і цяпер, — падумаў ён. — Любому астранаўту трэба ведаць, што робіцца ў Космасе». І ён націснуў на чорную кнопачку.

І адразу ў кабіну пікі-пака ўварваўся магутны гул, у якім выразна чуліся самыя розныя сігналы. Яны былі і тоненькія-тоненькія, і працяжныя, як сірэна. І густыя-густыя, вельмі гучныя, як вадаспад, які зрываецца са скалы. Але вось іх заглушыў голас:

— «Вісла!» «Вісла!» Што ж ты не адзываешся?

Голас патануў у гуле, а праз імгненне пачуўся другі голас:

— «Рапсодыя!» Ты перашкаджаеш мне працаваць, але калі маеш сказаць нешта важнае, гавары!

І першы голас адразу адазваўся:

— Космас мне не падабаецца! Зірні на экран, у Космасе ўжо лётаюць дзеці!

Мамурыку не хацелася чуць, што гавораць гэтыя невядомыя астранаўты пра яго, таму адразу адключыў радыёсувязь, націснуўшы на чорную кнопку, і падхапіў сачком чарговую знічку. А іх было ўсё менш і менш. Мамурык паглядзеў на экранчык і вельмі спалохаўся.

На экранчыку выразна вымалёўваўся чырвоны банцік. Ён нагадваў букецік. І мамурык падумаў, што на экране зноў тое непрывабнае стварэнне, якое ён ужо аднойчы бачыў. Але, дзе ж тыя неахайныя сандалеты? І той недарэчны капялюшык? Ён глядзеў на экран, а там ужо бачыўся другі чырвоненькі банцік. Пакуль яшчэ невыразны тварык, але ў гэтай невыразнасці можна было пабачыць, што ён быў даволі сімпатычны.

Нарэшце адлюстраванне стала яркім, і мамурык пабачыў нешта вушастае, кірпаносае, з насмешлівымі бліскучымі вача-

мі і, сапраўды, з банцікамі. Яны трымаліся на вушах, якія нагадвалі маленькія лакатары.

Гэтае відовішча так захапіла яго, што ён толькі праз некалькі хвілін падумаў: «Я трапіў у сферу ўздзеяння невядомай планеты, і, напэўна, гэта і ёсць Зямля! Я набліжаюся да Зямлі!» Яму стала радасна ад гэтых думак, а на экранчыку калыхаліся чырвоныя банцікі. Маленькая галоўка паварочвалася то ў адзін, то ў другі бок, быццам нешта выглядвала там.

І як было здагадацца міжпланетнаму Пажарніку, што гэта была Брыся, маленькая начніца Натэрэра з роду кажаноў. Якраз пра яе і расказваецца ў наступнай частцы аповесці пад назвай



## ЗНАЁМСТВА З МАЛЕНЬКАЙ БРЫСЯЙ, ЯЕ БУРКАТЛІВЫМ ТАТАМ І ЛАГОДНАЙ МАМАЙ

Адразу трэба растлумачыць, чаму маленькую начніцу Натэрэру назвалі — Брыся. Было гэта вось як.

З самага пачатку пасля свайго нараджэння маленькая начніца была вельмі гарэзлівай, а да таго і надта цікаўнай. Усё прыцягвала яе ўвагу. І калі гэтая цікаўнасць рабілася проста нясцерпнай, тата тупаў нагою і строга загадваў маленькай начніцы:

— Брысь! Брысь адсюль!

І тады мама заўжды заступалася за начніцу.

— Як табе не сорамна, — казала яна бацьку. — Дзіцятка яшчэ нават не мае імя, а ты ўжо крычыш на яго.

Ды вось аднойчы да іх завіталі госці, і вельмі важны Кажан, узяўшы начніцу на рукі, прамовіў:

— Скажы, як цябе завуць, і я дам табе цукерачку!

Маленькая начніца спачатку разгубілася, а потым успомніла бацькавы словы: «Брысь! Брысь адсюль!», і сказала:

— Брыся! Мяне завуць Брыся!

Вось і цяпер Брыся высунула сваю маленькую галоўку ў акенца, якое было на гарышчы старога будынку леспрамгаснай канторы, і назірала, як непадалёку за невысокім плотам

два хлопчыкі перавозілі машыну праз лужыну. Брысіна маці апраналася, а бацька сядзеў за сталом і чакаў, пакуль яна апранецца. Але вось ён зірнуў на Брысю і тупнуў нагою.

— Брыся! Не хапала, каб ты вывалілася з акна, — у бацькавым голасе чулася абурэнне. — Брысь! Я каму кажу! Лепш вазьмі і паскладвай свае цацкі.

Брыся хуценька саскочыла з табурэтачкі, на якой стаяла, а маці сказала:

— Не крычы ты на яе, яна паскладвае свае цацкі, калі мы вылецім, — і ўздыхнула.

— А ты не ўздыхай! — і па тым, як ён гэта прамовіў, было бачна, што Брысін бацька не ў настроі. — Мне таксама не хочацца ляцець немаведама куды, — працягваў ён. — Ды што зробіш, я сам учора на свае вушы чуў, што гэты стары будынак будуць зносіць! Яны тут дзіцячы сад мяркуюць закладваць. Я даўно казаў, людзі нас не любяць і не шануюць! Мала таго, што ўжо ў Чырвоную кнігу занеслі, дык яшчэ і прытулку апошняга пазбаўляюць! Каля людзей стала жыць небяспечна. Трэба ў гушчар хавацца!

Маці зноў уздыхнула, як гэта ўмеюць рабіць мамы, калі ў іх цяжка на душы.

— Што ты ўсё бурчыш на людзей! — сказала яна. — Ім таксама ўладкоўвацца трэба! Без дзіцячага саду ім нельга. Дзяцей няма на каго пакідаць, калі бацькі працуюць.

— Ага-а, закошт нас! Месца мала! Дык цяпер ляці, шукай якое дупло, а тут жа, лічы, усё жыццё пражылі!

— Ну, хопіць табе, хопіць... — лагодна адазвалася маці. — Паляцім ужо! — і звярнулася да Брысі: — Ты, дачушка, збяры цацкі.

— Ну, вядома, збяру! — хуценька паабяцала Брыся. — Толькі дазволь мне пасля гэтага паляцець на ўзлесак. Там столькі чабору, што можна цэлы тыдзень варыць духмяную гарбату.

— Хм-м, духмяную! — незадаволена зноў адазваўся бацька. — Адкуль тая духмянасць, калі людзі невядома чым угнойваюць свае палеткі, ды так, што пад канец лета нават чабор перастае пахнуць! — і дадаў больш мякка: — Чуеш, маці! Ты гатова? Трэба хутчэй ляцець!

— Гатова... Гатова!.. Цябе чакаю.

І калі бацькі выляталі з гарышча, Брыся крыкнула наўздагон:

— Мама, можна мне апрануць новую спаднічку?

— Можна...

Але голас ужо чуўся здалёку, Брыся ледзь пачула яго, і задаволеная тым, што маці дазволіла апрануць новую спаднічку, адразу ж дастала яе з маленькага сундучка і павесіла на спінку маленькага крэсліца. І якраз тут з вуліцы пачуўся нечый голас:

— Жэнька, толькі ты хутка вяртайся! Глядзі, хмара насоўваецца!

Брыся зноў стала на табурэтачку і выглянула ў акенца.

Яшчэ дагаралі апошнія промні сонца. Вечар толькі прымерваўся да Зямлі, але палова неба чарнела. Набліжалася навальніца, і Брыся хуценька саскочыла з табурэткі, паспешліва апранула спаднічку і, нават не зірнуўшы ў люстэрка, як гэта звычайна рабіла, вылецела з гарышча, прыхапіўшы маленькі кошык.

«Я ўпраўлюся да навальніцы, — думала яна, — інакш потым мне ўжо не вылецець. Дождж можа зацягнуцца, а мама не любіць, калі я трапляю пад дождж». І яна паглядзела зноў у той бок, адкуль насоўвалася цяжкая хмара.

Брыся бачыла толькі яе і нават падумаць не магла, што там, у чорных-чорных аблоках можа знаходзіцца нейкі маленечкі пікі-пак, які нагадвае зямную страказу. І што нехта ў гэтым пікі-паку, каго адна мая знаёмая дзяўчынка назвала міжпланетным Пажарнікам, зараз вельмі разгублены, але гэта ўжо наступная частка аповесці і называецца яна





# ЭКСТРЭМАЛЬНАЯ СІТУАЦЫЯ, У ЯКОЙ АПЫНУЎСЯ МІЖПЛАНЕТНЫ ПАЖАРНІК

Мамурык усё яшчэ глядзеў на экран, чакаючы, што сімпатычны тварык з чырвонымі банцікамі з'явіцца зноў. Але перад ім на экране была толькі звыклая карціна Космасу. І ён паглядзеў у акенца ў спадзяванні, што хоць на знічкі яму пашанцуе.

Знічак не было, затое раптам паблізу ўспыхнула яркая ўспышка і праз імгненне пачуўся моцны грукат.

Успышка паўтарылася.

Мамурык паглядзеў на экран, — там было цёмна. Ніякага адлюстравання. І тут мамурык ажно затрапятаў. Ён выразна пабачыў за акенцам як бы пасмачкі дыму.

«Я, напэўна, пралятаю непадалёку ад газападобнай зоркі, — падумаў мамурык. — Але ж у мінулы раз яе не было на маім шляху. Няўжо памылілася Бамбарыза?»

А ўспышкі за акенцам рабіліся больш яркімі.

Грукат чуўся над ім і пад ім. Пікі-пак трымцеў, ды так, што нейкі хлопчык альбо дзяўчынка, якія выпадкова апынуліся б у ім, маглі падумаць, што яны знаходзяцца зусім і не ў Космасе, а на моры, дзе пачаўся страшны ўраган.

Мамурык разгубіўся. Ён глядзеў то за акенца, то на экранчык і не ведаў, што рабіць. І тут мільганула выратавальная думка:

«У мяне ж на пікі-паку ёсць «ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ» — маленечкі камп'ютэр, які можа растлумачыць, што да чаго!» Праўда, ён помніў і словы Вялікага мамура, які нярэдка казаў, што да паслуг Энцыклапедыі трэба звяртацца ў самай экстрэмальнай сітуацыі. Ды хіба ж гэтая сітуацыя не экстрэмальная?

Камп'ютэр-Энцыклапедыя знаходзіўся побач з кнопачкамі радыёсувязі, і міжпланетны Пажарнік імкліва націснуў на тры маленечкія клавішы, набіраючы словы: УСПЫШКА, ГРУКАТ,

ДЫМ! Праз некалькі хвілін пачуўся хрыплаваты голас камп'ютэра:

— Прычын для хвалявання няма! Ляці па вызначаным маршруце! Ты трапіў у навальнічныя аблокі! Пад імі — планета!

Камп'ютэр-Энцыклапедыя замоўк.

— Ах, навальнічныя аблокі! — з палёгкаю ўздыхнуў мамурык і ўспомніў, як аднойчы Вялікі мамур казаў, што ёсць планеты, у атмасферы якіх адбываюцца падобныя з'явы. Як жа ён сам не здагадаўся пра гэта! І мамурык зноў пaглядзеў у акенца.

Цяпер пад ім калыхалася роўнядзь. На ёй можна было разгледзець цёмныя квадрацікі і больш светлыя лініі. Але гэта працягвалася толькі імгненне. Акенца пікіпака пакрывалася кропелькамі, якія расплываліся, і мамурык не мог ужо бачыць, што было ўнізе, ды дастаткова было і таго аднаго імгнення, каб ён хутка націснуў на кнопачку мяккай пасадкі.

Пікі-пак набліжаўся да паверхні Зямлі, і міжпланетны Пажарнік пакуль яшчэ не ведаў, што ён прызямляецца непадалёку ад таго ўзлеску, дзе цяпер знаходзілася Брыся. Але гэта ўжо новая частка аповесці, да якой лепш за ўсё падыходзіць назва





# БРЫСЯ ТРАПЛЯЕ Ў БЯДУ

Маленькая начніца Натэрэра ляцела вельмі хутка, але не менш хутка ляцела і навальнічная хмара. Таму, як толькі Брыся апынулася на сваёй любімай палянцы на самым узлеску, хмара заслала ўжо ўсё неба. Але Брыся была не з палахлівых.

«Гэта нічога, нічога, — думала яна, — я яшчэ паспею да дажджу назбіраць чабору». І пачала зрываць і складваць у кошык маленькія галінкі, ад якіх ішоў духмяны пах.

На палянцы было ціха-ціха, і Брыся толькі пасмейвалася: «Ах, баязліўцы! І жукі, і пчолы, і авадні… Усе пахаваліся! Так вам і трэба! Зараз, напэўна, толькі перашкаджалі б ірваць чабор!» І яна зрывала галінку за галінкай, радуючыся сваёй адзіноце.

Кошык ужо быў амаль поўны, калі неба перасекла маланка. Потым загрымеў гром. Брыся паглядзела ў той бок, дзе быў пасёлак леспрамгаса, і кошык ледзь не выпаў з яе рук: пасёлак патанаў у дажджавой лавіне, якая імкліва набліжалася да лесу.



«Спаднічка! Намокне мая новая спаднічка!» — падумала Брыся і агледзелася…

Непадалёку ляжала паваленая сасна, стаялі тры елачкі. Брыся і паляцела туды.

Зноў бліснула маланка і адразу ж, перамешваючыся з перакатамі грому, сekануў буйны і густы дождж, які збягаў па яловых лапках ручаінкамі.

«У мяне добрае сховішча, — падумала Брыся. — Ніводная кропля не

трапляе сюды». І тут яна заўважыла некалькі галінак чарнічніку, якія прабіваліся з-пад паваленага дрэва.

Чарніцы ўжо адышлі. Іх хуценька пазбіралі ў свае кашы і вёдры ягаднікі. А сюды, відаць, ніхто не падыходзіў, бо галінкі былі густа абсыпаны буйнымі чорнымі ягадамі.

— Вой, тут жа можна і паласавацца, — прашаптала Брыся і прыцягнула галінку да сябе.

І яны, гэтыя познія чарніцы, былі такія салодкія, што неўзабаве Брыся, не звяртаючы ўвагі на дождж, зазірнула і за паваленае дрэва. Там таксама было некалькі галінак.

«Ах, — падумала Брыся, — нічога не стане з маёй спаднічкай, калі я на хвілінку пераскочу туды і паабрываю чарніцы». І яна пераскочыла за паваленую сасну, але дождж быў такі праліўны, што Брыся не рызыкнула затрымлівацца там. «Куды спяшацца! Паспею пазрываць іх, — вырашыла яна, — я ж усё роўна буду чакаць, пакуль дождж скончыцца!» — і кінулася назад. І тут здарылася непрадбачанае...

Спаднічка зачапілася за вялізны сук на паваленым дрэве. Брыся тузанулася ў адзін бок, у другі, нават паспрабавала ўзляцець, і ўсё было марна.

Спаднічка ўжо ўся намокла і чырвоныя банцікі на вушках — таксама. Адзін з іх развязаўся, ды Брыся не звяртала на гэта ніякай увагі. Яна паспрабавала ад-



чапіць спаднічку і не змагла. І зноў тузанулася... Вядома, Брыся магла б тузануцца і мацней, але тады парвалася б спаднічка.

— Ах, якая я няшчасная! — горка прашаптала Брыся і ўсхліпнула. — Хоць бы які жучок быў паблізу. Ён бы дапамог мне адчапіцца!

Брыся ўсхліпвала і ўсхліпвала, нават і не заўважыўшы, што дождж пацішэў.

Сцямнела. Змрок ахутаў палянку. Маленечкая начніца паспрабавала прысесці на паваленае дрэва, але гэта ёй не ўдалося. Спаднічка была вельмі кароценькая, і Брыся змагла толькі абаперціся аб сук.

Дождж ужо зусім сцішыўся. Толькі час ад часу з галінак дрэў скочваліся і падалі ў траву буйныя кроплі.

«Ужо можна было б ляцець на гарышча», — уздыхнула Брыся, і тут яна заўважыла нешта прамяністае, падобнае на зорачку, і гэтае нешта апускалася на зямлю зусім недалёка ад палянкі.

Брыся вельмі здзівілася. Яна яшчэ ніколі не бачыла, каб зорачка была так нізка, і нават прыўстала на дыбачкі, таму што зорачка ўпала на зямлю і яшчэ некаторы час свяцілася ў невысокай траве.

Брыся і падумаць не магла, што гэта была зусім і не зорачка, а пікі-пак, і што міжпланетны Пажарнік радуецца ў ім таму, як ён удала прызямліўся. Але гэта ўжо новая частка аповесці, да якой лепш за ўсё падыходзіць назва



## ДРУГОЕ ПРЫЗЯМЛЕННЕ МІЖПЛАНЕТНАГА ПАЖАРНІКА

Мамурык спакойна сядзеў у сваім крэсліцы. Ён ужо некалькі хвілін быў на Зямлі, і ўсё гаварыла пра тое, што прызямліўся ён у добрым месцы. Было цёмна, але гэта міжпланетнага Пажарніка не палохала. Цёмна было і ў мінулы раз, а сёння ў яго ёсць ліхтарык і маленечкі фотаапарат. Яны ляжалі ў кішэнях яго бліскучага камбінезончыка.

Як і ў першы раз ён націснуў на кнопачку радыёсувязі, эфір маўчаў, і мамурык адключыў радыёсувязь. Яшчэ раз паглядзеў у акенца, нібыта правяраючы, ці не змянілася там што, і падняўся з крэсліца...

Дзверцы адкрыліся адразу. У кабіну пікі-пака ўварваўся халадок. Мамурыка гэта не спыніла. Ён рашуча саскочыў уніз і паслізнуўся, але на нагах утрымаўся.

Пад ім была слізкая пляцоўка, і мамурык пасвяціў ліхтарыкам. Ногі патаналі ў невысокіх раслінах.

Мамурык агледзеўся. Недалёка ад яго нешта чарнела, усё роўна, як некалькі пагоркаў. І хіба ж мог ведаць мамурык, што гэта зусім не пагоркі, а тры елачкі. Але ж ён ніколі ў сваім жыцці елачак не бачыў! Міжпланетны Пажарнік пасвяціў ліхтарыкам туды, дзе бачыліся гэтыя пагоркі, і адразу пачуў нечый голас.

— Гэ-эй, гэ-эй, хто там з ліхтарыкам?! Сюды! Хутчэй сюды! Дапамажыце!

Любы хлопчык альбо дзяўчынка, калі б пачулі такое, безумоўна, адразу кінуліся б на голас, што і зрабіў, не вагаючыся, мамурык.

Ён бег, заблытваючыся ў раслінах, якія з кожным крокам рабіліся больш і больш высокімі. Спыніўся толькі тады, калі па твары слізганула нешта калючае і мокрае. Некалькі кропелек адразу ж застыла на шчоках.

— Сюды! Няўжо ты мяне не бачыш?! — зусім побач пачуўся той жа голас. І міжпланетны Пажарнік пасвяціў ліхтарыкам туды, адкуль чуўся голас.

Брыся прыжмурылася — такім яркім было святло. А мамурык пазнаў чырвоныя банцікі. Адзін з іх быў развязаны. І тварык яму таксама быў знаёмы. Ён бачыў яго на сваім экранчыку, калі яшчэ быў у Космасе. А Брыся прывыкла ўжо да святла. Уважліва паглядзела на міжпланетнага Пажарніка і засмяялася звонка, залівіста:

— Ай, не магу! Лялька! Мне на дапамогу прыбегла лялька! Расказаць каму, не павераць! Дык цябе ўсё-такі Ірынка пакінула на двары? — і дадала сур’ёзна: — А хто табе даў ліхтарык?

Міжпланетны Пажарнік не ведаў, што такое «лялька», але палічыў патрэбным адказаць Брысі:

— Я — не лялька! Я — мамурык! І ліхтарык узяў з сабою яшчэ на Мамурыі.

Брыся зноў залілася тоненькім смехам:

— Во-ой, што я чую?! Мамурык? Ліхтарык узяў на Мамурыі! Гэта ж трэба! Мамурык? Ха-ха-ха...

І раптам яна стала зноў сур'ёзнай.

— Мне бацькі панарасказвалі столькі казак, — сказала яна, — што я магу быць і Чырвонай шапачкай, і Прынцэсай на гарошыне, а аднаго разу дык нават і была царэўнай Лебедзь, дык чаму б табе не пабыць мамурыкам? Праўда? Але, чаго ж ты стаіш?! Ці ты не бачыш, што мне трэба дапамагчы? Я ж зачапілася спаднічкай...

Мамурык дрэнна разумеў Брысю. Ён нават не ведаў, што такое спаднічка. На Мамурыі ніхто не насіў спаднічак. З адзення там былі толькі камбінезоны розных фасонаў і колераў, таму ён падышоў бліжэй да Брысі і стаў уважліва яе разглядваць.

— Не стой! — Брысі карцела хутчэй адчапіцца, і яна тузанулася. Тут мамурык усё зразумеў. Ён абапёрся на паваленую сасну і адчапіў спаднічку.

— Ну, нарэшце! — уздыхнула Брыся.

Яна папраўіла спаднічку, абтрэслася, завязала развязаны чырвоны банцік і хітра паглядзела на міжпланетнага Пажарніка:

— Дык, гаворыш, мамурык? А Ірынка, значыцца, твая мама?

І мамурык зноў не пагадзіўся з Брысяй.

— Мая мама на Мамурыі, — адказаў ён. — А тую, каго ты назвала Ірынкай, я не ведаю.

— Ну, добра, няхай будзе па-твойму. Не прызнавайся.

Брыся зірнула на сваю спаднічку і спалохалася:

— Вой, як памялася мая новая спаднічка, праўда? Мама мне гэтага не даруе. А дзе кошык? Ты не бачыш майго кошыка?

Як жа зараз хацелася ведаць мамурыку, што такое кошык, але ён гэтага не ведаў, таму і сказаў:

— Я нічым не магу табе дапамагчы, я не ведаю, што азначае гэтае слова.

Брыся ўважліва паглядзела на міжпланетнага Пажарніка:

— Ды ты проста ненармальны! Не ведаеш, што такое кошык? Вунь ён, — пад елкай. Ты хоць пасвяці мне!

І мамурык пасвяціў ліхтарыкам. Брыся палезла пад елачку і закрычала:

— Ай, як мокра! Патрымай лапку, на мяне ж падае цэлы вадаспад!

Але мамурык зноў не зразумеў яе.

— Ты спачатку растлумач, што такое лапка? — сказаў ён.

Брыся ўзмахнула рукамі-крылцамі:

— У цябе проста не ўсе дома!

І яна схавалася пад елачкай і тут жа з'явілася зноў, ужо з кошыкам.

— Вось ён, — кошык! — памахала яна кошыкам перад мамурыкам. — А гэта — лапка! — і Брыся патрэсла яловую лапку, ды так, што ўся елачка захісталася і на зямлю густа-густа пасыпаліся кроплі.

— У мяне дома і тата, і мама... — сказаў мамурык.

Тут Брыся задумалася.

«Неверагодна! — падумала яна. — Ён не ведае самых звычайных рэчаў. «У цябе не ўсе дома» — азначае, што нехта трошачкі ненармальны, не такі, як усе. Дзіўна гэта ўсё! Гм-м, мамурык?» — І яна сказала міжпланетнаму Пажарніку:

— Ты мяне не так зразумеў. Я хацела сказаць, што ты не разумееш нечага вельмі простага. Але не будзем больш пра гэта. Я табе веру, што ты мамурык, толькі дзе ж твая Мамурыя?

Міжпланетны Пажарнік не затрымліваўся з адказам.

— Там! — рукою паказаў ён уверх.

— У паветры? — здзівілася Брыся.

А з-за лесу ўжо выплыла поўня, зоркі паблісквалі ў цёмным небе.

І мамурык растлумачыў Брысі:

— Мая Мамурыя — адна з тых зорак, якія зараз свецяцца над намі, але без тэлескопа я не магу табе сказаць якая.

— Не, ты ўсё-такі ненармальны! — сказала Брыся. — Калі твая Мамурыя — адна з тых зорак, дык адтуль жа трэба прыляцець?

— Я і прыляцеў!

І міжпланетны Пажарнік пасвяціў ліхтарыкам у бок свайго пікі-пака ў спадзяванні, што можна яго пабачыць адсюль. Але святло не даходзіла туды, дзе стаяў пікі-пак, і мамурыку давялося сказаць:

— Мой пікі-пак стаіць там! Трошкі далей. Я прыляцеў на ім!

Як жа звонка засмяялася Брыся!

— Ай, ратуйце мяне! Пікі-пак! Ён што ў цябе ўвесь час піпікае: пі-пі-пі-і!.. Ха-ха-ха-а-а!..

І міжпланетны Пажарнік адказаў з годнасцю:

— Пікі-пак не піпікае. Я вылятаю ў ім у Космас. І, калі ты мне не верыш, значыцца, мы ніколі не знойдзем агульнай мовы. Нам трэба развітацца, толькі дазволь, я цябе сфатаграфую.

Ён дастаў з кішэні камбінезона свой маленечкі фотаапарат.

Тут Брыся разгубілася. Фотаапарат падзейнічаў на яе. І яна ўжо гатова была паверыць мамурыку, але яшчэ запыталася:

— Не разумею, навошта табе трэба ўсё гэта прыдумляць?

— Не рухайся! — папрасіў мамурык. — Мне таксама не павераць на Мамурыі, што я быў на Зямлі, але ў мяне будуць фотаздымкі.

І ён накіраваў ліхтарык на Брысю. Святло выхапіла яе з цемры. І маленечкі фотаапарат шчоўкнуў.

— Дзякуй! — сказаў мамурык. — Табе больш непатрэбна мая дапамога? Я магу ісці?

— Ах, чакай! — усхвалявана ўскрыкнула Брыся. — Я табе веру. Вядома, веру! — дадала яна больш упэўнена і прапанавала: — Давай, прысядзем на паваленую сасну... Калі ты не знаеш, што такое яловая лапка, дык ты, напэўна, нічога не ведаеш і пра елачку.

І Брыся, захлёбваючыся ад хвалявання, пачала расказваць міжпланетнаму Пажарніку пра самы дзівосны вечар у яе жыцці, але гэта ўжо новая частка аповесці, якая называецца



## БРЫСЯ — ЦАРЭЎНА ЛЕБЕДЗЬ

— Ты ведаеш, — сказала Брыся міжпланетнаму Пажарніку, калі яны селі на паваленую сасну. — Наша сям'я не круглы год жыве ў гэтых мясцінах. Восенню ўсе адлятаюць туды, дзе цяплей, каб схавацца на доўгую зіму ў якіх-небудзь пячорах. Так было і ў мінулым годзе. Але я нарадзілася вельмі позна, таму, калі надышоў час адлёту, мая мама ледзь не расплакалася.

— Што ж нам рабіць?! Што рабіць? — у адчаі звярталася яна да бацькі. — Наша Брыся яшчэ такая маленькая, яна зусім не падрыхтавана да доўгага пералёту. Ёй гэта не пад сілу. Мы загубім сваё дзіцятка!

Бацька спачатку адмоўчваўся. Слухаў, што гаварыла маці, і доўга не мог прыняць рашэння, але, нарэшце, вырашыў.

— Зімы тут не надта халодныя, а гэтае гарышча вельмі ўтульнае, — сказаў ён. — Навошта ж нам шукаць нейкія там пячоры?! Мы застаемся! Толькі ты не галасі, а лепш падумай, на якім балоце мы можам знайсці мяккі, сухі мох, каб уцяпліцца!

І мы пачалі ўцяпляцца.

Працавалі ўсё бабіна лета, а потым пайшлі халодныя дажджы, і мы ўсе сталі такія сонныя: і я, і мама, і нават тата, што ён мусіў сказаць:

— Ну ўсё! Цяпер будзем спаць ажно да красавіка.

І што яму адказала мама, я ўжо не чула, заснула моцна-моцна.

Увесь гэты час, пакуль расказвала Брыся, міжпланетны Пажарнік уважліва слухаў яе. І хоць яму хацелася запытацца, а што такое гарышча, і што такое мох і бабіна лета, ён усё роўна не перапыняў маленькую начніцу Натэрэру. А яна ўсё расказвала і расказвала...

— Ах, я, напэўна, спала вельмі доўга! Але вось чую праз сон, як мама цалуе мяне і шэпча:

— Брыся, прачніся! Устань, родненькая, толькі на адзін вечар. Сёння — свята! Ва ўсім свеце — свята... Самае цудоўнае свята!

Я расплюшчыла вочы. І пабачыла схіленую нада мной маму, а за ёю стаяў татка і трымаў у адной руцэ асляпляльна-белую сукенку, а ў другой — бліскучую карону.

— Брыся, — сказаў ён. — Ты будзеш сёння ў нас не Брыся, а царэўна Лебедзь! Зразумела? Табе хочацца быць царэўнай Лебедзь?

— Так-так, — хутка зашаптала мама. — Ёй хочацца! Яна будзе царэўнай Лебедзь. Гэтую сукенку і карону я атрымала ад сваёй мамы, і яна была царэўнай Лебедзь.

Мне страшэнна хацелася спаць. Вочы ўвесь час заплюшчваліся. А тата і мама ўжо апраналі мяне.

«Царэўна Лебедзь! Царэўна Лебедзь! Ты не павінна сёння спаць!» — чула і праз сілу раскрывала вочы. І калі татка ўзяў

мяне на рукі, я не паверыла сабе: наша гарышча немагчыма было пазнаць. Пасярэдзіне стаяў стол, на ім у агромністай вазе было некалькі яловых галінак, упрыгожаных цацкамі. А вакол стаялі талеркі, і чаго толькі не было на іх: салёныя баравічкі і лісічкі ў смятане, мочаныя брусніцы, вэнджаныя ўюны, падмарожаныя журавіны ў цукровай пудры...



— Царэўна Лебедзь! — сказаў тата. — Калі я быў у тваім узросце, мяне заўжды апраналі Катом у ботах і мне даводзілася танцаваць. Ты таксама сёння будзеш танцаваць.

— Будзе! Будзе! — адазвалася мама.

А мне вельмі хацелася спаць, ну, проста неверагодна! І я заплакала. І тады мяне ўзяла на рукі мама і паднесла да маленечкага акенца на нашым гарышчы.

— Царэўна Лебедзь, мая маленькая Лебедзь, не плач, — ласкава гаварыла яна. — Ты паглядзі, што робіцца на двары...

А там было ўсё белае-белае. Дрэвы стаялі пушыстыя-пушыстыя. І вокны леспрамгаснага пасёлка гарэлі ярка-ярка, і ў кожным з іх можна было разгледзець зіхоткую елку. Але мне хацелася спаць, я толькі і пачула, як мама сказала:

— З Новым годам, мая маленечкая царэўна Лебедзь! Ты сёння пасталела на цэлы год, і для цябе тата прынёс яловыя галінкі, якія я ўпрыгожыла цацкамі.

Тут Брыся перадыхнула і сказала:

— Ты ўяўляеш, я спала яшчэ вельмі доўга, а калі прачнулася, адразу пачула голас мамы:

— Ну, нарэшце! Я ўжо збіралася цябе будзіць!

І я запыталася:

— Мамачка, я ўсё яшчэ царэўна Лебедзь?

— Ах, — адказала мама, — у нашым жыцці ўсё так мімалётна. Ты апранайся, Брыся, і хуценька бяжы ўмывацца. На стале чакае сняданак.

Я паглядзела на крэсліца, якое стаяла побач з ложкам, там вісела мая будзённая шэрая сукеначка з падпалінкамі, і на стале стаялі тры талеркі. І не было на ім агромністай вазы з яловымі галінкамі, упрыгожанымі цацкамі. За сталом сядзеў тата і строга паглядаў у мой бок. Я хуценька апранулася, памылася, села за стол. У талерках была манная каша.

— А дзе вэнджаныя ўюны, дзе лісічкі ў смятане і падмарожаныя журавіны ў цукровай пудры? — запыталася я і пашкадавала, таму што адразу паныла адазваўся мой буркатлівы тата.

— Калі сядзіш за сталом, — сказаў ён, — дык трэба маўчаць і есці тое, што табе падалі!

І тут жа Брыся запыталася ў міжпланетнага Пажарніка:

— А на тваёй Мамурыі бывае Новы год?

З гэтага пытання і пачынаецца наступная частка аповесці пад назвай



# ЗНАЁМСТВА БРЫСІ І МІЖПЛАНЕТНАГА ПАЖАРНІКА ПРАЦЯГВАЕЦЦА

— Дык на тваёй Мамурыі ёсць Новы год? — перапытала Брыся. — Табе прыносяць навагоднюю ёлку?

І мамурык не спяшаўся з адказам. Ён зразумеў, што Новы год — прыгожае свята, якога, на жаль, няма на Мамурыі. І мамурыку ніхто ніколі не прыносіць навагодняй ёлкі. Але затое ёсць на Мамурыі іншыя святы, і міжпланетнаму Пажарніку хацелася расказаць пра іх Брысі.

— На Мамурыі ёсць дзень Лёгкага крыла і свята Духмянага пялёстка.

І Брыся разважыла: «Ах, ну якое ж гэта свята — дзень Лёгкага крыла? У мяне такое свята — штодня, таму што сама

я вельмі маленькая і лётаю хутка і лёгка», але яна толькі так падумала.

— А што ж гэта за духмяныя пялёсткі, што нават у гонар іх свята зрабілі? Відаць, у вас кветкі такія ёсць, што вельмі прыемна пахнуць?

І мамурык адказаў Брысі:

— На зямлі, напэўна, таксама ёсць такое свята, таму што ў тваім кошыку сцяблінкі вельмі прыемна пахнуць. А як называецца дэзадарант, якім апырскваюць гэтыя сцяблінкі?

Пачуўшы апошнія словы міжпланетнага Пажарніка, Брыся ледзь не звалілася з паваленай сасны.

— Ты кажаш нешта не тое! Як называецца дэзадарант, якім апырскваюць гэтыя сцяблінкі?! — паўтарыла яна. — Ты проста дзівак! Дэзадарантам карыстаюцца людзі. А гэта — чабор. Ён пахне сам па сабе.

Мамурык вельмі ўважліва слухаў Брысю. Яму было дзіўна чуць, што сцяблінкі пахнуць самі па сабе, і ён падумаў: «Якая шчаслівая Брыся, што жыве на гэтай планеце», і ўспомніў Галоўнага дэгустатара.

— А можна мне ўзяць некалькі гэтых сцяблінак? Яны — дзівосныя!

— Вядома, вазьмі! А хочаш, забірай усе! З іх атрымліваецца смачная гарбата.



Яны, сапраўды, дзівосныя. На жаль, людзі не заўсёды пра гэта памятаюць.

— Я не для гарбаты, — адказаў мамурык. — Я вазьму сцяблінкі для Галоўнага дэгустатара. Ён будзе вельмі задаволены.

І міжпланетны Пажарнік узяў некалькі сцяблінак і паклаў іх у кішэню свайго камбінезончыка.

А Брыся раптам уздыхнула:

— Там, дзе расце чабор, нярэдка пасвяцца статкі, — яна на імгненне задумалася і дадала: — Нас таксама не шануюць людзі. Тата сёння сказаў, што яны нас не любяць.

— А што такое людзі? — міжпланетны Пажарнік паглядзеў на Брысю.

— Не што, а хто?! — паправіла яна яго і зноў задумалася. — Ведаеш, — сказала яна праз хвіліну, — людзі, гэта — людзі! У іх ёсць дзяўчынкі і хлопчыкі. Я вельмі часта бачу Ірынку, ну, тую самую, пра якую я ўспамінала. І яшчэ падумала, што ты — яе лялька. Ёсць у пасёлку і хлопчыкі... У пятым доме ад нашага гарышча жывуць блізняты: Ясік і Янік. А хочаш пабачыць Ірынку? Яна цяпер жыве адна з татам. Мама ў яе настаўніца і цяпер паехала адпачываць у санаторый. І ў хаце, напэўна, страшэнны беспарадак, нават акно, дзе спіць Ірынка, ніколі не зачыняецца. Можа, і зараз адкрытае. Дык пойдзем, ты пабачыш Ірынку!

— Пойдзем, — з цікавасцю пагадзіўся міжпланетны Пажарнік.

Ён першы саскочыў з паваленай сасны і падаў руку Брысі.

— Так заўжды робіць мой тата, — сказала яна. — І мама за гэта яго вельмі паважае. — І тут жа запыталася: — Ты лётаеш?

— Лётаю! Я ўжо сказаў, на пікі-паку...

— Ах, гэта зусім не тое! — Брыся памахала рукамі-крылцамі. — Я мела на ўвазе крылы.

І яна цяжка ўздыхнула:

— Значыцца, пойдзем. Па макрэчы. Толькі вазьмі мой кошык. Табе яго несці будзе больш зручна.

Міжпланетны Пажарнік узяў кошык, і яны пайшлі. Але гэта ўжо наступная частка аповесці і называецца яна







# НЕПРАДБАЧАНАЯ СУСТРЭЧА СА «СКАФАНДРАМ»

Паваленая сасна і тры елачкі хутка засталіся ззаду. Брыся і міжпланетны Пажарнік выйшлі на сцяжыну, якая вяла да леспрамгаснага пасёлка. Мамурык хацеў пасвяціць ліхтарыкам перад сабою, таму што пасля дажджу было вельмі слізка, але Брыся запярэчыла.

— Схавай яго! — прамовіла загадным тонам. — Навошта прыцягваць увагу, я добра ведаю дарогу і без ліхтара. Тут вельмі роўная сцяжынка. А калі раптам паслізнешся і ўпадзеш, — не разаб'ешся!

І мамурык схаваў ліхтарык, хоць гэтага рабіць яму і не хацелася. «Як цёмна, — думаў ён, — напэўна, вакол растуць дзівосныя расліны, і я не магу іх пабачыць, толькі чую, як яны пахнуць нязвыкла свежа».

Сцяжынка то паднімалася ўгору, то апускалася, і зрэдку мамурыку здавалася, што яны хаваюцца ў непраходным зарасніку, такія высокія сцяблiны былі вакол іх. Але Брыся ішла ўпэўнена, і міжпланетны Пажарнік толькі паспяваў адводзіць рукою ад твару невядомыя галінкі, з якіх асыпаліся цяжкія кроплі.

Брыся нечакана спынілася.

— Вунь там, — паказала яна ўбок, — сажалка! Там часта Янік і Ясік вудзяць рыбу.

Мамурык таксама спыніўся. Але, як ні ўглядаўся, ніякай сажалкі ён там не бачыў, ды і не ведаў, што такое сажалка, як не ведаў, і што такое «вудзіць рыбу», але запытацца ў Брысі пасаромеўся, толькі сказаў:

— Вельмі цёмна. Цяжка разгледзець.

— Ну, тады пайшлі. Ужо хутка будзе пасёлак. Бачыш, ніводнага агеньчыку, усе спяць.

І цяпер таксама мамурык нічога не пабачыў, але пачуў крокі ззаду. Яны набліжаліся і рабіліся такімі гучнымі, што



мамурык спыніўся, разгублена пазіраючы на Брысю. Брыся таксама спынілася і азірнулася.

— Скафандр! — незадаволена сказала яна. — Адзіны, каму не спіцца! Давай, сыдзем са сцяжыны.

І яны адразу апынуліся ў густым зарасніку палыну.

Мамурык асцярожна выглянуў і зашаптаў, павярнуўшыся да Брысі:

— Ты сказала «скафандр»? А я пабачыў агромністага мамура, які хутка будзе тут! І ён нешта нясе.

Брыся захіхікала, заціскаючы рот рукою-крылцам:

— Вой не магу! Агромністы мамур! Ды, які ж гэта мамур, калі гэта дзядзька Сцяпан! А Скафандр — гэта яго мянушка. Гэтак усе яго завуць, таму што галава ў дзядзькі вялікая, а тулава, як жэрдка, тонкае.

Ча-аў, ча-а-аў, — набліжаліся крокі.

І вось ужо агромністая рука дзядзькі Сцяпана ценем праплыла над мамурыкам.

— Добры вечар! — прашаптаў міжпланетны Пажарнік.

І голас яго заглушыў моцны ўсплёск.

— Лужына! — здагадліва шапнула Брыся.

І адразу ж пачуўся гучны, хрыплы голас. Гэта дзядзька Сцяпан сказаў нешта наконт лужыны, і крокі яго сталі аддаляцца.

— Ты навошта з ім прывітаўся? — Брыся тузанула мамурыка за руку. — Ён што, твой знаёмы?! Ты лепш сфатаграфаваў бы яго!

— Не, — адказаў мамурык. — Мы з ім незнаёмы.

— Дык тады навошта вітаешся?

— На Мамурыі ўсе вітаюцца, незалежна ад таго, знаёмыя яны ці незнаёмыя.

— Хм-м-м, не разумею, — не пагадзілася Брыся. — Для чаго вітацца з незнаёмым?

— Каб выказаць сваю прыязнасць да таго, з кім вітаешся. Свае добрыя адносіны да яго, — адказаў міжпланетны Пажарнік.

І зноў Брыся не пагадзілася:

— Якія могуць быць добрыя адносіны да Скафандра, калі мой тата гаворыць, што Скафандр злодзей. Вось і зараз ён панёс дошку! Праўда, мама аднойчы сказала, што чула, як Скафандр гаварыў пра сябе, што ніякі ён і не злодзей, а проста падбірае тое, што дрэнна ляжыць. А па-мойму, дык усё роўна злодзей!

І тут ужо мамурык мусіў запытацца ў Брысі:

— А што такое злодзей?

Брыся адказала вельмі коратка:

— Злодзей той, хто бярэ чужое.

І міжпланетны Пажарнік пашкадаваў, што ён выказаў прыязнасць да Скафандра і разам з тым узрадаваўся, што ён не сфатаграфаваў Скафандра, таму што не мог дапусціць, каб на Мамурыі з'явіўся злодзей, хай сабе і на фотаздымку.

—Ну, што, пойдзем? — сказала Брыся. — Нам ужо мала засталося ісці.

І яны сталі прабірацца праз зараснік палыну, абмінаючы лужыну, і неўзабаве зноў выйшлі на сцяжыну. Тут мамурык пабачыў, як наперадзе нешта зачарнела.

— Вунь, таполя, — сказала Брыся.— За ёю адразу пачынаюцца гароды. Пройдзем паўз іх і выйдзем на вуліцу.

Мамурык узіраўся ў вырыс таго, што Брыся назвала таполяй, і крок у крок ішоў побач з Брысяй, думаючы, што ж можа



азначаць слова «Гароды». А яны пачаліся. І калі быў бы дзень, дык, напэўна, Брыся паказала б міжпланетнаму Пажарніку, што на гародах, міма якіх яны зараз ішлі, растуць буракі, морква, цыбуля, гуркі. Але было цёмна, Брыся і не падумала, што трэба было б растлумачыць мамурыку сэнс гэтага слова. Толькі, калі яны выйшлі на шырокую вуліцу, з палёгкай уздыхнула:

— Ну вось, гароды скончыліся!

Тут міжпланетны Пажарнік рэзка спыніўся.

— Пачакай, — ён дакрануўся да Брысі. — Ты не сказала мне, як цябе завуць?

— А ты не пытаўся раней, — засмяялася маленькая начніца Натэрэра. — Я — Брыся! Ты хіба не зразумеў з майго расказу пра царэўну-Лебядзь? Ну, што ж ты стаіш? Наперадзе дом, у якім жыве Ірынка.

І пра ўсё, што адбылося пасля, расказваецца ў той частцы аповесці, якая называецца



## ШТО МОЖА АДБЫЦЦА, КАЛІ ТАТА ЗАБЫВАЕ ЗАЧЫНІЦЬ АКНО

— Ну, вось, — незадаволена сказала Брыся, як толькі яны падышлі да невялікіх веснічак. — Я ж казала, што ў хаце, дзе жыве Ірынка  без мамы, напэўна, страшэнны беспарадак! Бачыш, акно адкрытае! А ішоў жа такі дождж!..

Мамурык уключыў ліхтарык.

Перад імі была будыніна, зусім непадобная да тых спічастых домікаў, якія будуюцца на Мамурыі.

— Выключы ліхтарык! — захвалявалася Брыся. — Нас ніхто не павінен бачыць.

Ён выключыў ліхтарык, і зноў стала цёмна. Тады начніца ўзяла яго за руку.

— Нам трэба трапіць у гародчык, — сказала яна. — Ты трошкі пачакай мяне.

Брыся знікла ў цемры. Хутка пачуўся яе голас:

— Хадзі сюды! Мы пралезем праз шчыліну. Тут адарвана адна дошка ў плоце.

І мамурык пайшоў на голас.

Брыся была ўжо ў гародчыку і праз шчыліну працягвала руку-крылца, каб дапамагчы міжпланетнаму Пажарніку.

— Не трэба, я сам! — збянтэжана адказаў ён і падаў Брысі кошык, а потым лёгенька пралез у даволі вялікую адтуліну.

— Шкада, што ты не можаш лётаць, — зашаптала Брыся. — Трэба нешта прыдумаць, каб ты змог залезці ў акно.

Мамурык не адказваў. Ён стаяў нерухома і з асалодай удыхаў дзіўны водар, якім было настоена паветра, і, нарэшце, сказаў Брысі:

— На Мамурыі няма ніводнага дэзадаранта з такім пахам, які чуецца тут. Колькі было б работы для Галоўнага дэгустатара!

— Ах, ты зноў пра дэзадарант? Не смяшы мяне! — уздыхнула Брыся. — Вазьмі некалькі духмяных пялёсткаў, і ўсе твае праблемы вырашацца! Вось гэта — флёксы, — паказала яна на высокія пышныя сцяблiны. — А тут куст шыпшыны, толькі не ўкаліся, там — калючкі, хаця чакай... — сказала яна, кінула кошык і паднялася ў паветра, узмахваючы рукамі-крылцамі. Падляцела да куста, на які толькі што паказвала, і адазвалася адтуль:

— Я сама адарву табе некалькі пялёсткаў, так будзе хутчэй!

Мамурык стаяў моцна ўражаны. Ён і ўявіць не мог раней, што Брыся можа лётаць, і нават пазайздросціў ёй, таму што сам мог лётаць толькі на пікі-паку. А Брыся ўжо апускалася на зямлю побач.

— Бяры пялёсткі і дапамажы мне, — сказала яна. — Вунь там, за кустом, я пабачыла невялікую жэрдку, якую можна прыставіць да сцяны, і па ёй ты ўзлезеш на падаконнік.

І міжпланетны Пажарнік пагадзіўся. І хоць жэрдку яны ледзь прыцягнулі, і з цяжкасцю прыставілі яе да сцяны, Брыся ажно запляскала ў далоні-крылцы ад радасці.

— Лезь! — сказала яна мамурыку і ўзляцела, апускаючыся на падаконнік.

Міжпланетны Пажарнік хутка ўжо быў побач з Брысяй, нібыта ён толькі тое і рабіў на Мамурыі, што лазіў па жэрдках. Маленькая начніца адразу ж папрасіла:

— Я пагляджу, што там, у пакоі, а ты пачакай!

І яна знікла за лёгкай празрыстай шторкай.

Сэрца ў міжпланетнага Пажарніка забілася моцна-моцна. Ён раптам успомніў словы Вялікага мамура, што там, дзе ёсць дзверы, ніколі не трэба лезці ў акно, і ў яго з'явілася думка, што ён робіць нешта дрэннае. Але мамурык ужо сядзеў на падаконніку і яму вельмі хацелася паглядзець на Ірынку, ды і Брыся развеяла апошнія сумненні мамурыка. Яна адхінула шторку і сказала:

— Скачы сюды, на гэтае мяккае крэсла! Мы нічога дрэннага дзяўчынцы не зробім.

І міжпланетны Пажарнік скочыў, заблытваючыся ў нечым лёгкім.

— Асцярожна, — папрасіла Брыся. — Тут ляжаць Ірынчыны сукенкі. Вой, якія скамечаныя! Адна, дзве, тры... — Пачала яна іх лічыць. — Паглядзі, колькі назбіралася! Няўжо цяжка быць акуратнай? Можна ж было сукенкі павесіць!

«Брыся часам бывае вельмі шматслоўнай», — для сябе адзначыў мамурык, а сам ужо агледзеўся ў пакоі, і першае, што ён пабачыў, была вялікая канапа. «Там спіць Ірынка», — здагадаўся міжпланетны Пажарнік, а Брыся ўжо яго прыспешвала:

— Хутчэй злазь з крэсла, я пакажу табе Ірынчыны цацкі!

Яна схавалася за канапай. Толькі чуўся шэпт:

— Ах, які маленечкі посуд! Якія прыгожанькія талерачкі! Якія кубачкі! А тут стаіць маленечкая шафа... Ага, Ірынка складвае ў яе сукенкі для сваіх лялек. Вой, колькі спаднічак! Ды яны якраз былі б і на мяне. А тут... Што ў гэтай каробцы? А-а-а-а! Швейная машынка! Ірынцы купілі швейную машынку. Яна шые сукенкі для сваіх лялек. Ну, дзе ты, мамурык? Хадзі сюды! Тут столькі цацак! Вой, якія кубікі!

А мамурык тым часам злез з крэсліца і падышоў да канапы, дзе спала Ірынка. Але ён, як вядома, быў вельмі маленькі і яму давялося падскокнуць, каб узлезці на краёк канапы. І вось ён схіліўся над тварам дзяўчынкі, якая спакойна спала на абшытай карункамі падушцы, прытуліўшы да сябе ляльку ў бліскучым камбінезончыку. І, напэўна, ён разглядаў яе твар доўга, таму што Брыся нецярпліва выглянула з-за канапы.

— Ну, што ты ўсё ўзіраешся і ўзіраешся ў Ірынку! — сказала яна. — Мы можам зараз пагуляць у тату і маму. Ты будзеш тата, а я — мама! Ты пасядзіш у крэсле, а я згатую абед!

— На канапе дзве дзяўчынкі, — адазваўся міжпланетны Пажарнік.

— Няўжо? — здзівілася Брыся і ўзмахнула рукамі-крыльцамі, і закружыла над канапай, і захіхікала: — Дзяўчынка адна! Які ты неразумны! Другая — лялька. Ты вельмі падобны на яе, там, на палянцы, я падумала, што да мяне падышла Ірынчына лялька. У вас вельмі падобныя камбінезончыкі!

Мамурык паглядзеў на свой камбінезончык, потым — на ляльку. Яму не хацелася быць падобным на яе, але падабенства было відавочным, і мамурык сказаў сумна:

— Я сфатаграфую дзяўчынку.

— Фатаграфуй, — адказала Брыся і апусцілася на падлогу. — Можаш і мяне сфатаграфаваць з Ірынчынымі цацкамі.

Міжпланетны Пажарнік некалькі разоў шчоўкнуў сваім фотаапарацікам, а Брыся зноў узнялася ў паветра і падляцела да паліцы, дзе побач з кніжкамі сядзеў пушысты мядзведзь з аранжавым бантам на шыі.

— Мяне сфатаграфуеш яшчэ і з гэтым мядзведзем, толькі абавязкова прышлеш фотаздымкі! — сказала Брыся і пацягнула мядзведзя за лапу, зачапіўшы вялікую тоўстую кніжку. Кніжка



ўпала на падлогу. «Ба-а-а-ах!» За ёю яшчэ адна і яшчэ... Мядзведзь таксама ўпаў. Брыся не ўтрымала яго, такі ён быў цяжкі.

— Што я нарабіла?! — спалохалася Брыся.

І мамурык таксама спалохаўся. Ён хуценька саскочыў з канапы, заўважыўшы, што Ірынка заварушылася. А ў другім пакоі пачуліся крокі і незадаволены сонны голас:

— Што такое?! Ах ты, кот пракляты! Ну, я зараз табе пакажу!

— Хавайся! — крыкнула Брыся. — Сюды, пад канапу! — і пацягнула мамурыка за сабой.

Дзверы ў пакой адчыніліся. Міжпланетны Пажарнік пабачыў толькі вялікія доўгія ногі і пачуў голас:

— Скінуў кніжку і мядзведзя! От, стварэнне! Кіць-кіць-кіць... Не вылазіш, нягоднік? Пад канапу забіўся?! Ну, трымайся, зараз я прынясу швабру! Як міленькі вылезеш і спаць ноччу будзеш, а не па паліцах бегаць!

Голас аддаляўся. Апошнія словы ўжо чуліся з прыхожага пакоя.

— Вылазім! Трэба ўцякаць! — шапнула Брыся і выпырхнула з-пад канапы.

Мамурык таксама не затрымліваўся. Ён многага з таго, што пачуў, не зразумеў, але адчуваў небяспеку.

Брыся была на падаконніку, калі ён узабраўся на крэсла.

— Давай руку! Лезь на падаконнік, — сказала яна і, калі міжпланетны Пажарнік быў каля яе, Брыся дадала: — Табе давядзецца скакаць!

Мамурык паглядзеў уніз. Жэрдкі, якую яны прыставілі да сцяны, не было. Ён, можа, і спалохаўся б, але ззаду пачуўся сонны голас:

— Швабры няма, але ёсць венік! Ах, звер няшчасны, зараз ты ў мяне вылезеш! Кіць-кіць-кіць...

— Скачы! — падштурхнула міжпланетнага Пажарніка Брыся, і ён скочыў. На ляту начніца схапіла яго за руку. — Не бойся, тут мякка! — толькі і паспела яна шапнуць яму.

Магчыма, мамурык упаў бы, але Брыся падтрымала яго, таму прызямленне было ўдалым.

— Цс-с-с-с, — Брыся сціснула яго руку. — Не варушыся!

Яны застылі, здавалася нават не дыхалі, толькі высокія сцябліны флёксаў пакалыхваліся над імі і з акна чуўся голас:

— Кіць-кіць-кіць!.. Кіць-кіць-кіць!..

Голас наблізіўся. Гучна стукнулі аконныя рамы, стала вельмі ціха.

— Ірынчын бацька зачыніў акно, — сказала Брыся. — Нарэшце, здагадаўся! Ты вельмі спалохаўся? — тут жа запыталася яна ў мамурыка.

— Не, — адказаў ён. — Вось толькі там, пад канапай, пакінуў свой ліхтарык.

І Брыся раўнадушна параіла:

— Развітайся з ім. Акно закрытае, ды там, аказваецца, ёсць кот. Мне не хацелася б з ім сустракацца. Ён вельмі страшны. Мя-я-я-яў! — і Брыся так скрывіла сваю сімпатычную мордачку, што міжпланетны Пажарнік без усялякага шкадавання ў думках развітаўся са сваім ліхтарыкам.

Можа, ліхтарык знайшла Ірынка, але не ведаючы, што з ім рабіць, выкінула яго, як нешта непатрэбнае. А, можа, гэта зрабіла яе мама, і ліхтарык недзе ляжыць каля плоту ў густой траве, і ні адна душа на Зямлі не здагадваецца, што ён належыць мамурыку, які аднойчы прылятаў з невядомай Мамурыі...

— Пойдзем, — сказала міжпланетнаму Пажарніку Брыся. — Дзе мой кошык?

І яна пачала шукаць свой кошык, то ўзлятаючы, то апускаючыся на зямлю.

— Ты яго кінула каля высокіх сцяблін, якія ты назвала флёксамі, — падказаў мамурык і сфатаграфаваў Брысю, калі яна зноў паднялася ў паветра.

А Брыся ўжо знайшла свой кошык.

— Шкада, што ты не сфатаграфаваў мяне з тым пушыстым мядзведзем! У мяне ніколі не было такой прыгожай цацкі! — і раптам здзівілася. — Глядзі, ужо святлее неба над лесам, — і яна дадала, падрабляючыся пад інтанацыю дарослых: — Божа, як няўмольна ляціць час!

Мамурык не зразумеў гэтага Брысінага здзіўлення, але падумаў, што на Зямлі хутка адбудзецца нешта невядомае для яго, і сказаў:

— Цябе непакоіць, што неба пасвятлела?

— Што ты?! Я зусім спакойная, — адказала Брыся. — Ты лепш скажы, што цябе цікавіць на Зямлі, ты ж не проста так прыляцеў сюды? А то я хутка палячу дадому...

І міжпланетны Пажарнік разгубіўся. Ён не ведаў, што адказаць Брысі, але чамусьці адчуў адзіноту і прамармытаў:

— Недалёка ад той палянкі, дзе мы з табой сустрэліся, застаўся мой пікі-пак. Мне трэба туды.

— Разумею, — Брыся не хавала сваёй незадаволенасці. — У цябе — тайна, якую ты не хочаш мне расказаць? Можаш не расказваць, я ж даўно прапанавала, пойдзем! — і яна грацыёзнымі рухамі паправіла сваю новенькую спаднічку.

Мамурык адвярнуўся і пайшоў да дзіркі ў плоце, дзе была адарвана дошка, а Брыся пераляцела цераз плот і падала міжпланетнаму Пажарніку руку-крылца.

— Я цябе правяду да пікі-пака, — сказала яна.

І яны пайшлі.

— Нам туды, — паказала Брыся ў напрамку высокай таполі і, напэўна, яны пайшлі б, калі б у гэты момант не пачуўся глухі стук.

Міжпланетны Пажарнік спыніўся. Брыся прыслухалася.

— Недзе адчынілася акно, — вызначыла яна і прапанавала: — Яшчэ даволі цёмна, нас ніхто не пабачыць. Давай, пройдземся па вуліцы, — і, не чакаючы адказу, узяла мамурыка за руку і настойліва пацягнула яго ў адваротны бок.

Яны не паспелі зрабіць і некалькі крокаў, як у перадсвітальным змроку пачуўся аддалены голас. Слоў немагчыма было разабраць, як не ўслухоўваўся мамурык, але Брыся ажывілася:

— Я, здаецца, здагадваюся. Гэта ў пятым доме прачнуліся блізняты Ясік і Янік.

І Брыся не памылілася. Калі яны падышлі да дома пад нумарам пяць, з адкрытага акна чуўся настойлівы голас:

— Пр-лачніся, чуеш?! Ну, што мне халоднай вадою цябе абліць? Мы ж дамаўляліся ісці на самым досвітку! Якая ж гэта будзе р-лыбалка днём?

— Янік, — шапнула Брыся. — Ён заўсёды картавіць. Будзіць Ясіка. Хоча на рыбалку.

Мамурык слухаў і азіраўся па баках.

Дом, у якім жылі хлопчыкі, быў вялікі, але ў адрозненне ад таго дома, дзе яны толькі што былі з Брысяй, тут не было гародчыка. Вокны падступаліся да самай вуліцы, і пад вакном, з якога чуўся голас Яніка, расло агромністае дрэва. Яго галіны ўпіраліся ў дах.

Пад дрэвам стаяла лавачка. І хоць на Мамурыі не было такіх лавачак і міжпланетнаму Пажарніку ніколі не даводзілася сядзець на іх, зараз ён прысеў на самы краёчак лавачкі.

— Правільна! — сказала Брыся. — Ты пасядзі тут, а я сяду на галіну і пагляджу, што робіцца там, у акне!

І яна ўзмахнула рукамі-крылцамі і падляцела да дрэва, хаваючыся ў густым лісці.

— Ты пр-лачнешся ці не?! Апошні р-лаз гавар-лу! Зар-лаз пр-лынясу вады...

І адразу ж пасля гэтых слоў мамурык пачуў шэпт Брысі:

— Янік тармосіць Ясіка. Ай, як тармосіць!

А потым пачуўся яшчэ адзін голас:

— Н-н-не тузай!.. А-а-гм-м-м... Гм-м-м... Дай сон дагляджу! Ды адыдзі ты ад мяне! А-а-гм-м-м...

— Янік скінуў з Ясіка коўдру!

Брыся падляцела да мамурыка і захіхікала:

— Хі-хі-хі... Хай апрануцца! Ясік зараз устане.

А Ясік тым часам гаварыў з відавочным шкадаваннем:

— Які сон перабіў! Табе такое не прысніцца!

— Адкуль ты ведаеш, што мне сніцца? — запытаўся Янік.

На што Ясік сказаў:

— Ты толькі паслухай, што мне прыснілася!

І ён пачаў расказваць свой сон, але гэта ўжо наступная частка аповесці, якую можна назваць



## РУЖЫ Ў КЕПАЧЦЫ

— Ты помніш Антонаву дарогу, што за Чорнай гарою ў лесе? — сказаў Ясік. — Дык вось, сніцца мне, што іду я па Антонавай дарозе, а тут якраз і пень.

Ну, дык падыходжу я да пня, гляджу, а на ім ляжыць кепачка, прыгожанькая такая, у клетачку, з гузікам пасярэдзіне! «Чыя ж гэта кепачка?» — думаю. Напэўна, нехта з нашых хлопцаў забыўся. Можа, Васька?

Бяру я кепачку, нацягваю на галаву і іду да пасёлка... Заварочваю ў Васькаў двор. Падыходжу да ганку, а там Васькава маці падлогу мые. Падыходжу да яе, кажу:

— Добры дзень, цётачка Вера! Васька дома? — і здымаю кепачку...

І што ж ты думаеш, вачам сваім не веру, — у кепачцы ляжаць тры ружы, як на падносе. Вялікія такія, ярка-пунсовыя і свежыя, расінкі на пялёстках пабліскваюць! Адкуль ружы? Кепачка ж была ў мяне на галаве і нічога не было ў ёй.

А цётка Вера ажно заўсміхалася.

— Ясічак, — кажа, — гэта ты мне ружы прынёс? Вой, маё залатое дзіцятка, які ж ты харошы!

І выцерла рукі аб фартух, узяла ружы і запыталася:

— А чаго ж гэта ты мне іх прынёс? Яшчэ ніколі ніхто не дарыў мне букетаў. У мінулым годзе толькі даяркам школьнікі падносілі.

— А я вам, цётачка Вера, дару, — адказаў я, а сам думаю: «Што ж за дзіва такое?! Не было ружаў у кепачцы і ўсё тут!» Нават страшна стала, а цётачка Вера цмок мяне ў шчоку і кажа:

— Дзякуй, Ясічак, як жа ты мяне парадаваў сёння! Пайду ружы ў вазу пастаўлю, а Ваські няма дома, на рэчку пабег...

І пайшла яна ў хату. Я таксама пайшоў. Іду па вуліцы, цераблю кепачку ў руках, і думаю: «Зрокавы падман, няйначай! А, можа, яшчэ раз паспрабаваць нацягнуць кепачку на галаву, а потым зняць яе». Нацягнуў кепачку, зняў — ніякіх ружаў! Вось дзіва! Зноў нацягнуў на галаву, гляджу: на падворку старая цётка Ганна сена сушыць. «Дай, — думаю, — падыду».

— Добры дзень, цётачка Ганна! — і здымаю кепачку. І што ты думаеш, зноў ляжаць ружы. Тут я ўжо рукою дакрануўся да іх. Самыя сапраўдныя, ніякага зрокавага падману! А цётка Ганна глядзіць то на мяне, то на ружы і нічога не разумее. Тады я і кажу:

— Ружы вам, цётачка Ганна, прынёс. Прыміце іх у знак павагі...

Тут цётка Ганна ажно граблі з рук выпусціла. Слёзы на вачах з'явіліся:

— Ай, Ясічак, мой ты даражэнькі! Вось і дачакалася я павагі. Унукі родныя забылі, дык хоць ты ўспомніў. Нават кветкі прынёс.

І пачала цалаваць мяне і прыгаворваць:

— Якое ж ты слаўнае дзіцятка!

А я стаю, цераблю кепачку ў руках і мне так прыемна! Так прыемна! А тут ты... Чую праз сон: — Пр-лачніся, чуеш!

Эх, які сон перабіў! Я ж бы ўсім жанчынам з нашага пасёлка кветкі разнёс!

— Балбатун ты, Ясік! — адазваўся Янік.— Ніякага сну ты не бачыў. Пр-лыдумаў усё. Як могуць пр-лысніцца р-лужы ў кепачцы, калі такой кепачкі ў жыцці не бывае?

— Дык гэта ў жыцці! — расхваляваўся Ясік. — А ў сне ўсё магчыма! Можа, знак, каб мы часцей дарылі, каму можам кветкі.

— Зна-ак... Зна-а-ак! — перадражніў Ясіка Янік. — Твой сон нішто ў пар-лаўнанні з тым, што здар-лылася са мной зусім нядаўна! Ты толькі паслухай!

І Янік пачаў расказваць Ясіку дзіўную гісторыю, якая можа здарыцца, калі хлопчыкі бяруць у рукі рагаткі і страляюць каменьчыкамі. Што, дарэчы, рабіць непажадана.

І гэта яшчэ адна частка аповесці пра міжпланетнага Пажарніка, якая мае назву



## АДКУЛЬ НА ПОЎНІ ВЯЛІКАЯ ПЛЯМА

— Мой тата ніколі не знаходзіць клятчастых кепачак, хай сабе і ў сне, — шэптам сказала міжпланетнаму Пажарніку Брыся, — але вельмі часта прыносіць маме кветкі! — Яна села на лавачку побач з мамурыкам і дадала: — У такія моманты мама проста бязмежна шчаслівая! А твой тата дорыць маме букеты?

Міжпланетны Пажарнік задумаўся.

— Не, — сказаў ён і пасміхнуўся, быццам згадаў у гэты момант штосьці вельмі прыемнае для яго. — Мой тата пры-

носіць маме дэзадаранты, якімі ён апырсквае кветкі. І ёй гэта таксама падабаецца.

— Ах, ты зноў пра дэзадарант! Гэта ўжо робіцца нецікавым. Цс-с-с-с! — Брыся натапырыла свае вялікія вушкі і павярнулася да акна, за якім у пакоі Янік настойліва дапытваўся ў Ясіка:

— Ты пазнаеш? Скажы мне, ты пазнаеш гэта?!

І Ясік быў, напэўна, вельмі здзіўлены:

— Рагатка? Табе ж мама сказала выкінуць яе!

— Я і выкінуў... пад стол! — спакойна адказаў Янік. — І ўзяў толькі для таго, каб зар-лаз паказаць табе. Дык вось, слухай... З гэтай р-лагаткай я неяк пайшоў у сад. Хаджу, збір-лаю ападкі... А тут галасы... Бачу, за плотам на лавачцы сядзяць дзяўчынкі... Хто, я і не р-лазабр-лаў: было ўжо цёмна. Але смяюцца і гамоняць. «Ах, дай я папужаю вас», — думаю.

Узяў ападак, уклаў у р-лагатку і выстр-лаліў. Ба-а-а-ах! І што ты думаеш? Ападак паляцеў не туды, дзе сядзелі дзяўчынкі, а ўвер-лх! Уж-ж-ж-жы-ы-ы... Уж-ж-ж-жы-ы-ы... Мне нават вушы хацелася закр-лыць: такі пр-ланізлівы гук быў. Гляджу ўвер-лх і нічога не бачу. Але, нар-лэшце, ба-а-ац! У Поўню! Гляджу, а-а-а-а... На Поўні дзір-лка! Самая сапр-лаўдная!

— Няўжо?! — толькі і выдыхнуў Ясік.

— Вось табе і «няўжо»! — весела працягваў Янік. — Дзір-лку пр-лабіў я на Поўні! І ніхто не заўважыў яе. Хі-хі! Тады я ўпер-лшыню пер-лаканаўся, якія няўважлівыя людзі. Вечар-л пр-лайшоў, ноч пр-лайшла...І яшчэ тр-лы вечар-лы пр-лайшло і тр-лы начы... Ніхто не заўважае, а дзір-лка нібыта нават большай р-лобіцца! «Як быць, — думаю. — Нельга ж дапусціць, каб Поўня знікла. Р-ласпалася на кавалачкі». Паехаў я ў р-лайцэнтр-л. На тэлегр-лаф пайшоў і тэлегр-ламу паслаў касманаўтам. У Зор-лны гар-ладок!..

ДЗЯДЗЕЧКІ КАСМАНАЎТЫ! НА ПОЎНІ ДЗІР-ЛКА! ТР-ЛЭБА ТЭР-ЛМІНОВА Р-ЛАТАВАЦЬ ПОЎНЮ!

І падпісаўся: Янік Казыр-лчык.

— Няпраўда! — закрычаў Ясік. — Ты ніколі не ездзіў адзін у райцэнтр!

— Ну, хай сабе з бацькам, — удакладніў Янік. — Ты паслухай, што далей было! Яшчэ тр-лы вечар-лы пр-лайшло і тр-лы начы... Гляджу... Ты якр-лаз ужо спаў... Дзір-лка р-лобіцца меншай. Толькі, як пр-лы электр-лазвар-лцы іскр-лы р-лазлятаюцца ва ўсе бакі. А хутка дзір-лка і зусім знікла! Зацырлавалі яе касманаўты, толькі латачку не тую пр-лыставілі, яна тр-лошачкі цямнейшая. Вось, паглядзі... Поўня яшчэ на небе.

— Дзе? Пакажы!

— Вунь, — сказаў Янік. — Глядзі! Бачыш латачку цёмненькую? Яе пр-лыладзілі касманаўты!

— Гэта горы на Поўні, — сказаў Ясік. — Я глядзеў тэлеперадачу, там гаварылі пра гэта. Дарэмна выдумляў, думаеш, я не ведаю?

Хлопчыкі яшчэ ўзіраліся ў Поўню. Ясік нават сеў на падаконнік. І міжпланетны Пажарнік дастаў з кішэні камбінезончыка свой фотаапарацік. Не ўстаючы з лаўкі, некалькі разоў шчоўкнуў ім, фатаграфуючы хлопчыкаў.

У гэты момант з вакна пачуўся строгі жаночы голас:

— От, што робяць! Сну на іх няма! Янік, у другім пакоі спаць будзеш! Я вам пакажу, гіцлі!

— Мамачка, мы на р-лыбалку збір-лаемся. Ужо досвітак.

Брыся тузанула мамурыка за руку:

— Чуеш, маці іх прачнулася. Схаваемся пад лаўку?

Міжпланетны Пажарнік не паспеў адказаць, таму што зноў пачуўся жаночы голас:

— Як жа вы мне надакучылі са сваёй рыбалкай! Але ідзіце, калі ўжо ўсталі. Пайду на кухню бутэрброды зраблю, а вы ложкі свае пазасцілайце. Глядзіце, каб быў парадак!

— Засцелем, мамачка! — паабяцаў Ясік.

Тут Брыся саскочыла з лавачкі:

— О-о, я ж зусім забылася! Мне тата загадаў сабраць цацкі, якія я параскідала на падлозе. Я не сабрала! Думала, вярнуся да дажджу. Што мне цяпер будзе? Бацькі даўно вярнуліся. Трэба хутчэй ляцець!

Брыся ўзяла кошык, які да гэтага стаяў каля лаўкі.

Мамурык таксама ўстаў і выгляд у яго быў сумны. Яшчэ хвіліну назад ён хацеў сказаць Брысі, што ніякай латкі на Поўні быць не можа. Што цёмныя плямы на ёй, гэта, безумоўна, горы, і што Ясік мае рацыю, але зараз сказаў іншае:

— Ты мяне пакідаеш?

І голас у яго быў прыгнечаны.

— Ніхто цябе не пакідае, — адказала Брыся, падумаўшы. — Я правяду цябе назад, да твайго пікі-пака. Проста нам трэба спяшацца. Пайшлі! — і дадала: — Пойдзем паўз плот. Па вуліцы ісці небяспечна. Бачыш, устаюць людзі. Хутка зусім развіднее.

Міжпланетнаму Пажарніку паўз плот ісці было цяжка. Ён часта заблытваўся ў густой высокай траве і нярэдка натыркаўся на крапіву, якая балюча апякала шчокі. І ў думках ён назваў крапіву агрэсіўкай, а раней нават і не падазраваў, што можа быць кусачая расліна. Але доўга засяроджвацца на агрэсіўцы не мог. Брыся ўвесь час яго прыспешвала.

— Ну, хутчэй! Хутчэй! — азіралася яна і дзе-нідзе нават пераляатала праз густы зараснік лопуху, раіла мамурыку, дзе лепш прайсці. Але, нарэшце, яны выйшлі да агародаў, за якімі цямнела высокая таполя.



Ісці паўз агароды было лягчэй.

— Тут перадыхнем, — сказала Брыся і паставіла на зямлю свой кошык. — Можаш прысесці, — прапанавала яна мамурыку. — А лепш не трэба, хутка зноў пойдзем.

Міжпланетны Пажарнік агледзеўся. Было ўжо амаль зусім светла, і ён здзівіўся той разнастайнасці раслін, якія абкружалі іх.

Але больш за ўсё яго здзівіла ружовая стужка на самым краёчку неба. І ён сказаў Брысі:

— Неба мяняе свой колер! Яно што, хутка ўсё стане ружовым?

Брыся засмяялася:

— Які ж ты няўцямны! Гэта ўстае сонца. Яно ружовае толькі спачатку, а на самой справе жоўтае і прамяністае. А неба будзе блакітнае-блакітнае!

І мамурык падумаў, што, напэўна, Зямля хутка стане падобнай на Мамурыю. А як успомнілася Мамурыя, яму адразу стала сумна.

— Чакай, я хутка вярнуся да цябе, — сказаў ён Брысі, і пайшоў за высокую таполю, дзе ўжо даўно заўважыў белыя кветкі, якія ў першы яго прылёт на Зямлю Бамбарыза назвала рамонкамі. Ён з прыемнасцю ўдыхнуў знаёмы пах, і яму ўспомніўся дэзадарант на Мамурыі, які Галоўны дэгустатар назваў «Дажджавой кропляй». Ад гэтага стала яшчэ больш сумна. Мамурык ірваў рамонкі, а думаў толькі пра Мамурыю. Калі кветкі склаліся ў букецік, мамурык вярнуўся.

— Гэта табе!

І ён працягнуў Брысі свой букецік.

У Брысі пачырванелі шчочкі.

— Ах, дзякуй, — сказала яна. — Твой букецік дадаў мне шчасця!

Напэўна, яна паўтарыла словы сваёй мамы. А мамурык прызнаўся ў гэты момант:

— Я засумаваў па сваёй Мамурыі. Хутка мы з табой развітаемся, але ў цябе будуць рамонкі і ты будзеш мяне ўспамінаць, праўда?

— Як?! — здзівілася Брыся. — Хіба ты зараз паляціш на сваю Маму-



рыю? А я думала, ты пабудзеш да вечара і я пакажу табе наш лес!

Мамурык адмоўна пакруціў галавой.

— Я і так залішне доўга тут затрымаўся. На Мамурыі непакоіцца мама.

— А мая, напэўна, рыхтуецца да сну, — уздыхнула Брыся. — Мы ж днём спім, але без мяне ні мама, ні тата не заснуць.

Брыся паклала букецік у кошык і сказала:

— Пайшлі! Нам трэба спяшацца...

І яны пайшлі па сцяжынцы, хутка падышлі да вялікай лужыны, якую зноў абміналі, заблытваючыся ў густым зарасніку палыну. Нарэшце, выйшлі на сцяжынку. Брыся паказала рукой-крылцам:

— Глядзі, вунь там сажалка. Хутка туды прыйдуць Ясік і Янік. Яны не павінны нас бачыць.

І як не хацелася мамурыку падысці да сажалкі і паглядзець, як будуць Ясік і Янік вудзіць рыбу, ён моўчкі пайшоў



па сцяжынцы, стараючыся не адставаць ад Брысі. І толькі наперадзе, там, дзе расліны, якія абкружалі іх, былі не надта высокія, пабачыў, як у першых промнях сонца бліснула сіняя роўнядзь вады і падумаў: «Вось яна, — сажалка! Трэба будзе разгледзець яе зверху, калі буду ўзлятаць на пікі-паку».

А Брыся ў гэты момант спынілася.

— Мы ўжо недалёка ад той палянкі, дзе я зачапілася спаднічкай за паваленае дрэва, — сказала яна і паказала: — Бачыш, наперадзе лес. Дзе ж твой пікі-пак?

Мамурык агледзеўся. Здалёку бачыліся тры невялікія елачкі, дзе ён сустрэўся з Брысяй, і пікі-пак павінен быць недзе блізка ад іх.

— Трэба звярнуць са сцяжынкі, — сказаў мамурык.

І яны звярнулі. І пайшлі па голым поплаве, па адзін бок якога быў лес, па другі — сажалка.



Мамурык першы заўважыў у негустой траве блішчастыя крылцы свайго пікі-пака, і сэрца яго забілася моцна-моцна.

— Пікі-пак!.. Мой пікі-пак! — закрычаў мамурык.

А Брыся абурылася.

— Ты што?! — сказала яна. — Чаго ты крычыш? Тут хутка могуць быць Ясік і Янік.

Брыся ўзмахнула рукамі-крылцамі. Яна паднялася над зямлёю, не адрываючы позірку ад пікі-пака.

— Гэта ж нейкія крылцы, — расчаравана сказала яна, зноў апускаючыся на зямлю побач з мамурыкам. — А я думала, што ў цябе ракета!

— Мы зараз падыдзем да пікі-пака і ты пабачыш яго ўсяго! — адазваўся мамурык.

— Я далей не пайду, — сказала Брыся. — Не хапала яшчэ, каб нас пабачылі Ясік і Янік.

Ах, якая ўсё-такі дзіўная гэтая маленькая начніца Брыся! Яна зусім не разумела, што перад ёю не проста мамурык, а маленечкая істота, якая прыляцела з такіх вышыняў, якія ніколі і ў сне не прысняцца Брысі. І што ёй, напэўна, лепш было б не спяшацца, а падысці да пікі-пака і як след разгледзець яго — гэты дзівосны маленечкі карабель, на якім міжпланетны Пажарнік вылятае ў Космас і ловіць сачком непаслухмяныя знічкі, каб нідзе-нідзе, ні на адной планеце не ўзнікла пажару. Але Брыся гэтага ўсяго не разумела, ды і не ведала. Яна толькі нецярпліва памахвала сваім кошыкам і пераміналася з лапкі на лапку. І міжпланетны Пажарнік сказаў ёй:

— Я вельмі рады, што мы пазнаёміліся, і цяпер на Мамурыі буду часта ўспамінаць цябе.

— А фотаздымкі?! Ты прышлеш мне фотаздымкі? — запыталася Брыся.

І мамурык сумна пасміхнуўся. Ён разумеў тое, чаго не разумела Брыся, але яму не хацелася яе расчароўваць, таму ён сказаў няпэўна:

— Прысланць фотаздымкі я наўрад ці змагу. На Мамурыі няма сувязі з Зямлёю, але, магчыма, я сам прылячу яшчэ раз...

— А дзе ты мяне знойдзеш? — запыталася Брыся. Яна, напэўна, хацела сказаць міжпланетнаму Пажарніку, што хут-

ка яны пераляцяць на новую кватэру, што стары будынак леспрамгаснай канторы , дзе яны жывуць цяпер, будзе зносіцца, але не паспела, таму што якраз у гэты момант пачуўся звонкі голас Яніка:

— Казаў жа табе ўставай! Мы маглі р-ланей пр-лыйсці, яшчэ да сонца!

Хлопчыкі падыходзілі да сажалкі, і вуды ў іх руках нагадвалі антэны. А Брыся спалохана ўзмахнула рукамі-крылцамі, толькі і паспеўшы сказаць міжпланетнаму Пажарніку:

— Шукай мяне ў гэтым лесе, я паляцела!..

І мамурык яшчэ доўга глядзеў ёй услед, пакуль яна зусім не знікла з вачэй, і толькі тады ўспомніў пра хлопчыкаў, але яны нават і не глядзелі ў яго бок, раскладвалі вуды і пра нешта ціха гаварылі паміж сабою. І міжпланетны Пажарнік паглядзеў туды, дзе зусім блізка ў першых сонечных промнях паблісквалі крылцы яго пікі-пака. «Што ж я стаю, — падумаў ён, — мне таксама трэба спяшацца».

І ён пайшоў да пікі-пака, нават і не думаючы, заўважаць яго хлопчыкі ці не. А Ясік і Янік ужо закідвалі вуды ў сажалку.

Каб жа яны ведалі, што недалёка ад іх знаходзіцца мамурык, каго адна мая знаёмая дзяўчынка назвала міжпланетным Пажарнікам, яны, напэўна б, адклалі свае вуды і зараз разглядвалі б яго. А, можа, нават і падышлі б да мамурыка ці паклікалі б яго да сябе. Але яны пра гэта не ведалі, а спакойна стаялі на беразе сажалкі і сачылі толькі за паплаўкамі.

А міжпланетны Пажарнік у сваім пікі-паку ўжо націскаў на кнопачку ўзлёту і даставаў з кішэні камбінезончыка фотаапарацік, каб з вышыні сфатаграфаваць і сажалку, і хлопчыкаў — Ясіка і Яніка. І толькі, калі пікі-пак адарваўся ад зямлі і пачаў паднімацца, Ясік штурхануў Яніка:

— Глядзі, што гэта там, за сажалкай?

— Стр-лаказа! Хіба ты не бачыш?

— Не, — адказаў Ясік, не адрываючы позірку ад пікі-пака, які ўсё паднімаўся і паднімаўся, і хутка растаў у высокай сінечы сонечнага ранку, — стракозы такія вялікія не бываюць.

— Гэта ў нас не бываюць, а ў Аўстраліі ёсць!

— Дык мы ж не ў Аўстраліі! — не супакойваўся Ясік.

— Сціхні! — абарваў яго Янік. — Р-лыбу ўсю пар-лазганяеш! На свеце і не такое ёсць. Нядаўна па тэліку паказвалі яшчар-лку з дзвюма галовамі.

— Гэта не страказа! — стаяў на сваім Ясік і ўсё глядзеў і глядзеў у неба...

З гэтых аповесцей Ясік і Янік даведаюцца пра першы і другі прылёт міжпланетнага Пажарніка на Зямлю і пра тое, як блізка ён быў ад іх.





# АПОВЕСЦЬ ТРЭЦЯЯ

## АД АЎТАРА

Напэўна, тут можна было б і загарнуць апошнюю старонку казачных аповесцей пра міжпланетнага Пажарніка, які, уяўляецца мне ў думках, шчасліва даляцеў да сваёй Мамурыі і адразу ж сустрэўся з Бамбарызай у музеі Непатрэбных знаходак. Расказаў ёй пра знаёмства з маленькай начніцай Брысяй, а таксама пра сустрэчу са Скафандрам.

І, магчыма, пачула ад яго Бамбарыза і пра ружы ў кепачцы, якія прысніліся хлопчыку Ясіку, і пра тую неверагодную гісторыю, звязаную з рагаткай, ападкам і Поўняй, якую расказаў хлопчык Янік, і якую ён падслухаў, хоць падслухоўваць непрыгожа, дадаў бы  сам мамурык. Але так склаліся абставіны.

Фотаздымкі, якія яго прасіла прыслаць Брыся, напэўна, ён таксама паказаў Бамбарызе. А потым мог павесіць  іх на сцяне ў сваім пакоі. І кожны раз, гледзячы на гэтыя фотаздымкі, мог прыгадваць  свой другі прылёт на Зямлю і задумвацца над палётам трэцім.

«Магчыма, гэты трэці палёт і адбыўся, толькі пра гэта ніхто не ведае?» — можа падумаць хто-небудзь з маленькіх чытачоў , хаця прызнаюся, што мне самой у гэта зусім не верыцца. Таму што праз шмат гадоў на Мамурыі адбыліся падзеі, пра якія мне даўно ўжо хацелася расказаць хлопчыкам і дзяўчынкам, якія ўпадабалі і самога мамурыка, і ўсё тое, што адбывалася з ім. І гэта будзе мая апошняя аповесць пра міжпланетнага Пажарніка. Праўда, гэтак здарылася, што галоўным яе

героем стаў іншы мамурык. Сам жа міжпланетны Пажарнік ужо даўно быў дарослым мамурам і займаўся справамі, якія дазвалялі яму не-не, ды і ўспомніць пра свае палёты на Зямлю. Асабліва пра другі палёт. Пра тое, кім жа ён стаў, калі вырас, і расказваецца на пачатку трэцяй аповесці пра міжпланетнага Пажарніка, у той частцы, якую я вырашыла назваць



## ГАЛОЎНЫ АРАНЖАРЭЙШЧЫК МАМУРЫІ

Зразумела, што якраз ім і стаў праз пэўны час міжпланетны Пажарнік. «А чаму не астранаўтам? — Можа запытацца адна мая знаёмая дзяўчынка, калі пачне чытаць гэтую трэцюю аповесць. — Ён жа так любіў вандраваць на сваім пікі-паку па касмічных трасах і лавіць сачком знічкі, каб раптам на якой-небудзь з планет, куды можа ўпасці непаслухмяная знічка, не здарылася пажару». Сапраўды, цалкам верагодна, што ён мог бы стаць астранаўтам. Але справа ў тым, што, як толькі ён вярнуўся на Мамурыю пасля свайго другога палёту на Зямлю, разгневаныя такім нечуваным свавольствам бацькі, забаранілі яму нават блізка падыходзіць да пікі-пака. І ўвогуле, загадалі назаўсёды забыцца пра існаванне гэтага дзівоснага касмічнага карабля. Затое яны вельмі зацікавіліся пялёсткамі шыпшыны і сцяблінкамі чабору, якія мамурык прывёз са свайго далёкага рызыкоўнага падарожжа.

— Наш мамурык выпадкова адкрыў Зямлю — невядомую нам планету, на якой растуць дзівосныя кветкі з надзвычай чароўным водарам, — з захапленнем расказвала суседкам-мамуркам мама міжпланетнага Пажарніка. — Нават самы лепшы дэзадарант на Мамурыі не можа зраўняцца з іх чароўным пахам!

А тата на другі ж дзень пасля вяртання мамурыка ўзяў пялёсткі шыпшыны і сцяблінкі чабору, і пайшоў да Галоўнага дэгустатара Мамурыі. Мамурык не ведаў пра што яны размаўлялі, але, як толькі тата вярнуўся ад дэгустатара, ён папрасіў даць яму зоркавую карту, якой карыстаўся міжпланетны Па-

жарнік падчас свайго другога палёту на Зямлю, і накіраваўся з ёю да Вялікага мамура.

З гэтага моманту жыццё на Мамурыі непрадказальна змянілася, таму што неўзабаве некалькі касмічных караблёў стартавалі з цэнтральнага касмадрома гэтай маленькай планеты пад радасныя крыкі мамурыкаў і дарослых мамураў. Міжпланетны Пажарнік ведаў, што караблі паляцелі на Зямлю, і што астранаўты-мамуры будуць карыстацца яго зоркавай картай. Але гэта не ўзрадавала яго. Ён жа не змог выканаць просьбу начніцы Брысі, — пераслаць ёй фотаздымкі, якія ён паспеў ужо даўно зрабіць. Тата не дазволіў мамурыку папрасіць астранаўтаў, каб яны на Зямлі адшукалі той лес, у якім міжпланетны Пажарнік сустрэўся з Брысяй, і, паклалі фотаздымкі пад тую самую паваленую сасну, за сук якой зачапілася маленькая начніца сваёй прыгожанькай спаднічкай.

— Ты яшчэ недастаткова дарослы для таго, каб зразумець, якое гэта небяспечнае падарожжа, — казаў мамурыку тата, калі яны вярнуліся дамоў з касмадрома. — Нашы астранаўты і раней наведвалі іншыя планеты, але гэтыя планеты ў сваёй большасці былі мёртвыя, без усялякай расліннасці. Ты адкрыў



жывую планету. На ёй растуць дзівосныя расліны, але гэтая планета — заселеная! І невядома, як тыя істоты, што жывуць на ёй, паставяцца да нас, мамураў! Вялікі мамур не выключае, што яны могуць быць вельмі і вельмі драпежнымі. Я ўважліва разгледзеў фотаздымкі, якія ты зрабіў на гэтай планеце...

— І, што ты хочаш мне гэтым сказаць?! — мамурык упершыню ў сваім жыцці не даслухаў да канца бацьку. — Табе здалося, што Брыся драпежная? А, можа, тая дзяўчынка Ірынка, якую я сфатаграфаваў, калі яна спала? — У голасе мамурыка чулася крыўда. Ён вельмі расхваляваўся, але ўжо праз імгненне дадаў больш ціха. — Брыся незвычайна мілая, павер мне. Я паспеў яе палюбіць, як люблю сваіх сяброў на Мамурыі.

— І ўсё ж гэтае вушастае стварэнне, якое ты называеш Брысяй, — з чужога нам свету. Тваё ўражанне пра яе можа быць падманлівым, — не пагаджаўся з мамурыкам тата. — Хацеў бы я паглядзець на тую самую Брысю, калі б яна заўважыла, што нейкія невядомыя істоты на яе планеце збіраюць насенне раслін, а то і выкопваюць расліны, якія дораць усяму таму наваколлю свой чароўны водар.

— Дык нашы астранаўты паляцелі на Зямлю, каб прывезці адтуль на Мамурыю насенне зямных раслін? Як жа я сам пра гэта раней не здагадаўся! — ускрыкнуў міжпланетны Пажарнік і тут жа запытаўся. — Навошта? Каб тыя расліны раслі на нашай планеце, ім патрэбна вада! Ніводная з іх не прыжывецца ў нас. На Зямлі шмат вады і там часта ідуць дажджы. Нават мой пікі-пак трапіў пад дождж. Няўжо мамуры не разумеюць, што зямныя расліны засохнуць на Мамурыі.

У гэты момант у голасе мамурыка чулася разгубленасць: такія разумныя мамуры і раптам перасталі разумець простыя ісціны!..

Тата прытуліў яго да сябе і сказаў лагодна, як гавораць усе таты:

— Які ты ў мяне яшчэ маленькі, хоць і разважаеш зусім, як дарослы мамур! Пакуль ты падарожнічаў, геолагі знайшлі на Мамурыі ваду, самую сапраўдную. У цясніне Срэбнай Вады. Ты памятаеш, мы аднойчы былі там... Мамуры не памыляліся, калі думалі, што глыбока-глыбока ў цясніне, на самым яе дне аб каменныя глыбы б’ецца вада.

Міжпланетны Пажарнік на нейкае імгненне заплюшчыў вочы, але не цясніну Срэбнай Вады ўявіў ён, а высокія галінкі расліны, якую Брыся там, на Зямлі, назвала флёксамі. Флёксы





раслі ў гародчыку каля хаты, у якой жыла зямная дзяўчынка Ірынка. І ён міжволі ціхенька прамовіў па складах:

— Флё-ксы...

— Што ты сказаў?

— Флёксамі называюць вельмі духмяную расліну на Зямлі, якую я там бачыў, — патлумачыў мамурык і працягнуў, — а тыя галінкі, што я прывёз, завуць чаборам.

— Хм-м, чаборам! — тата адмоўна пакруціў галавой. — Не, на Мамурыі ён будзе называцца маморам. Для нашага слыху такая назва будзе больш прыемнай.

— Тады і шыпшыну назавем мамуршынай! Пялёсткі гэтай расліны ты пакінуў у Галоўнага дэгустатара. — І мамурык тут жа запытаўся. — А што табе сёння раніцай казаў Вялікі мамур? Я чуў, як ты з ім размаўляў па тэлефоне.

— Мы абмяркоўвалі мае новыя праекты, — адказаў тата. — Усё сваё жыццё я праектаваў дамы на Мамурыі. Па маіх праектах, як ты ведаеш, пабудаваны цэлыя кварталы. А вось цяпер пачну праектаваць аранжарэі.

— А хто будзе ў гэтых аранжарэях аранжарэйшчыкам?

Тата паціснуў плячыма, маўляў, не ведаю, а мамурык раптам запляскаў у ладкі, заскакаў і радасна закрычаў:

— Я! Я! Як толькі вырасту, я адразу стану аранжарэйшчыкам! Самым лепшым аранжарэйшчыкам! І самым галоўным!

І ў тое імгненне тата нават падумаць не мог, што аднойчы гэтак яно і здарыцца. І тым больш ён не мог уявіць, што сярод усіх аранжарэй, якія пабудуюцца на Мамурыі па яго праектах, самай прыгожай атрымаецца Дажджавая кропля — аранжарэя, зробленая ў выглядзе агромністага шклянога бутона. І гэты бутон кожную раніцу будзе раскрывацца дзесяткамі і дзесяткамі шкляных пялёсткаў, каб неўзабаве скласціся зноў у бутон. А мамуры ў Дажджавой кроплі будуць вырошчваць рамонкі, тыя самыя кветкі, якімі выбухнула Бамбарыза над Мамурыяй, і яны прынялі іх за дождж. І ўжо зусім ніяк не мог уявіць тата, што гэтую аранжарэю найбольш палюбіць яго мамурык, які на той час сапраўды стане Галоўным аранжарэйшчыкам Мамурыі. І што аднойчы ў гэтай аранжарэі адбудзецца размова, якая дасць пачатак самым нечаканым падзеям. Але якраз пра гэта і расказваецца ў наступнай частцы аповесці, якая так і называецца





# РАЗМОВА Ў ДАЖДЖАВОЙ КРОПЛІ, ЯКУЮ ВЫПАДКОВА ПАЧУЎ МАМУРЫК КУТАСІК

У той дзень, які з раніцы не абяцаў ніякай нечаканасці, Галоўны аранжарэйшчык у Дажджавой кроплі прарэджваў рамонкі, якія сам жа назваў мамуронкамі. Самыя кволыя з іх ён перасаджваў у спецыяльныя гаршчэчкі, каб даглядаць іх асобна. Гэтых кволых мамуронкаў было многа, а гаршчэчкі заканчваліся. І Галоўнаму аранжарэйшчыку давялося патэлефанаваць Вялікаму мамуру, каб сказаць пра гэта, які ў той самы час маленькім мамурыкам выкладаў батаніку. Гэты прадмет у школах Мамурыі з'явіўся нядаўна, але многія мамурыкі паспелі палюбіць яго. І асабліва палюбіў батаніку мамурык Кутасік. Такім нязвыклым імем гэтага мамурыка назвалі таму, што ён свае доўгія валасы завязваў ззаду зялёнай стужачкай і яны нагадвалі самы сапраўдны кутас.

І вось гэтага Кутасіка Вялікі мамур папрасіў завезці гаршчэчкі на маленькім мамуролеры з прычэпам у Дажджавую кроплю. Таму Галоўны аранжарэйшчык, як толькі пачуў, што хтосьці пазваніў у шкляныя дзверцы аранжарэі, адразу пайшоў іх адчыняць, думаючы, што гэта Кутасік. І ў думках хваліў яго за тое, што мамурык так хутка прывёз гаршчэчкі. Але гэта быў не Кутасік.

Галоўны аранжарэйшчык адразу пазнаў мамура-астранаўта, які толькі што вярнуўся з Зямлі і здзівіўся:

— Калі вы да мяне з насеннем, дык вам трэба спачатку завітаць да нашага Галоўнага дэгустатара.

Тут у іх і пачалася размова, з якой можна было даведацца, што мамур-астранаўт прынёс аранжарэйшчыку некалькі пашкоджаных клубняў вяргіні і хацеў запытацца ў яго ці зможа гэтая вяргіня ўзыйсці. Іншымі словамі, прыжыцца на Мамурыі.

— Ну, па-першае не вяргіня. Гэтую назву расліны пакінем зямлянам. А ў нас яе лепш называць мамургіняй, — казаў Галоўны аранжарэйшчык, уважліва разглядваючы клубні. — А па-другое, як вы дазналіся, што на Зямлі гэтае тоўсценькае карэнне называецца клубнямі вяргіні?

# Схема

робаты-памагатыя з планеты Мамурыя



Робат - пыласос (для прыбірання)



Робат - ліхтарык (для асвятлення)



Робат - універсальны (майстар на ўсе рукі)



Робат - сабака (для аховы)

— Зямная жанчына, якая іх выкінула, размаўляла з кіцяю. Я выпадкова пачуў іх. І нават сфатаграфаваў гэтага зямнога звярка. Кіць-кіць-кіць... гукала яго жанчына. І, калі ён з’явіўся на ганку, тут я і шчоўкнуў яго фотаапаратам. Вось, паглядзіце, шаноўны аранжарэйшчык, які ён пушысты!

А Галоўны аранжарэйшчык у гэты момант проста ўвесь затрапятаў ад хвалявання, якое ахапіла яго. Ён адразу ўспомніў, што гэтае «кіць-кіць-кіць» ужо чуў раней, калі падчас свайго другога палёту на Зямлю разам з Брысяю апынуўся ў пакоі, дзе спала дзяўчынка Ірынка. Брыся тады хацела, каб ён сфатаграфаваў яе з вялікім цацачным мядзведзем, і зачапіла тоўстую кніжку, якая з грукатам упала на падлогу, а Ірынчын тата вырашыў, што гэта нашкодзіў такі ж вось звярок, якога і ён тады гукаў «кіць-кіць-кіць»...

Мамур-астранаўт паказваў Галоўнаму аранжарэйшчыку фотаздымак, дзе быў зняты вялікі пушысты рыжы кот з чорнаю плямкаю на носе. Кот салодка пацягваўся на высокім ганку, як любяць пацягвацца хатнія каты, а Галоўны аранжарэйшчык нечакана сказаў:

—Дык вось ён які, гэты кіця!

І ўжо не слухаў, пра што далей хацеў яму распавесці мамур-астранаўт, а хутка пайшоў углыб аранжарэі, дзе раслі самыя высокія мамуронкі..

— Чакайце! Адну хвілінку пачакайце! — чуўся адтуль яго ўзбуджаны голас. — Я таксама хачу паказаць вам некалькі фотаздымкаў!

І Галоўны аранжарэйшчык сапраўды вярнуўся з фотаздымкамі. І, які ж у яго быў шчаслівы твар, калі гэтыя фотаздымкі ён пачаў паказваць мамуру-астранаўту! Такім шчасцем перапаўняюцца тады, калі згадваюць штосьці надзвычай дарагое і прыемнае.

— Глядзіце! Вось гэта — Брыся! Вельмі мілае зямное стварэнне, праўда? Вы ж ведаеце, я калісьці ў сваім дзяцінстве дазволіў сабе свавольства... Хгм-м-м... У мяне было два палёты на Зямлю... — Ён перадаў фотаздымак мамуру-астранаўту і працягваў. — А гэта — Брыся з зямной дзяўчынкай Ірынкай, калі тая спала... — усё гэта ён прамовіў з вялікім замілаваннем. — Ах, а тут... Тут Брыся з мамуронкамі... Вы пазнаеце іх?! Гэта я падарыў ёй гэты букецік, калі адлятаў...

І ў гэты момант Галоўны аранжарэйшчык хацеў сказаць, што Брыся тады папрасіла яго, каб ён нейкім чынам пераслаў ёй фотаздымкі, але замест гэтага ўсхвалявана запытаўся:

— Чакайце... Вы сфатаграфавалі зямнога звярка... Пушыстага рыжага кіцю... А ці не давялося вам там, на Зямлі сустрэцца з Брысяй, з гэтым, ну проста неверагодна абаяльным стварэннем? Ці хаця б выпадкова дзе-небудзь пабачыць яе?

Мамур-астранаўт уважліва разглядваў фотаздымкі і раптам радасна ўскрыкнуў:

— Мой шаноўны аранжарэйшчык! Ну вядома!.. Вядома ж мне даводзілася яе бачыць!

— Дык, можа, і размаўлялі з ёю? — у голасе аранжарэйшчыка чулася надзвычайнае хваляванне, і было бачна, што сэрца яго б'ецца моцна-моцна. — Помню, калі я пазнаёміўся з Брысяй, яна разам з бацькамі жыла на гарышчы леспрамгаснай канторы, але яны павінны былі шукаць для свайго жытла нейкае іншае месца. Гмх-х... — Аранжарэйшчык запытальна зірнуў на мамура-астранаўта. — Дык, можа, вы і бачылі яе ў тым іншым месцы? Гэта быў лес?

Мамур-астранаўт адмоўна пакруціў галавой і чамусьці прыцішыў голас, быццам адкрываў Галоўнаму аранжарэйшчыку нейкую таямніцу.

— Гэта быў горад, мой шаноўны... Казачны горад! Ну проста найцудоўнейшы горад з усіх гарадоў таго, чужога нам свету. Зямляне называюць яго кароткаю назваю: Брэст! — ён зрабіў паўзу, пасля чаго задумліва працягнуў. — А вы маеце рацыю, недалёка ад таго цудоўнага горада ёсць і лес. Э-э-э... О-о! Я ўспомніў! Белавежская пушча! Так называлі той лес турысты.

— Н-ну... А што Брыся?! — і ў голасе Галоўнага аранжарэйшчыка чулася ранейшае хваляванне. — Яна вельмі змянілася?



Мамур-астранаўт зірнуў на адзін з фотаздымкаў і сказаў: — Там яна, вядома ж, без гэтых чырвоненькіх банцікаў... Я пабачыў яе вылітай у бронзе... Ага-а... У гонар вашай Брысі ў тым казачна-прыгожым горадзе Брэсце пастаўлены помнік! Яна на вяршыні таго помніка, вось такая ж, як на гэтым фотаздымку, толькі без банцікаў...

У Галоўнага аранжарэйшчыка перахапіла дыханне, ён ажно закашляўся:

— Кх-х, кх-х... Вы сказалі мне праўду?! У зямным горадзе Брэсце Брысі пастаўлены помнік?! У казачным горадзе?..

— Усё праўда, шаноўны... Там, дзе стаіць помнік, казачны ліхтаршчык штовечар запальвае казачныя ліхтары!

— Кх-х, кх-х... Што ж такое незвычайна-гераічнае магла здзейсніць Брыся, што заслужыла такой вялікай пашаны?! І ці жывая яна?

Галоўнага аранжарэйшчыка перапаўняла трывога.

— А вось гэтага, шаноўны, я не ведаю, — адказаў мамур-астранаўт.

І тут ён заўважыў Кутасіка, які ўжо даволі доўга стаяў каля самых дзвярэй аранжарэі. Мамурык міжволі збянтэжыўся, а раптам падумаюць, што ён наўмысна падслухоўвае размову дарослых мамураў, таму мусіў адазвацца:

— Я прывёз гаршчэчкі для кволых мамуронкаў... Мяне прыслаў у Дажджавую кроплю Вялікі мамур і папрасіў, каб я дапамог Галоўнаму аранжарэйшчыку перасаджваць гэтыя мамуронкі.

— Ну, дзякуй... Дзякуй табе за гаршчэчкі, Кутасік, — заўсміхаўся аранжарэйшчык, але ён па-ранейшаму быў вельмі ўстрывожаны. — Ты, давай, праходзь... Мы тут загаварыліся...

Мамур-астранаўт пасля гэтых слоў Галоўнага аранжарэйшчыка адразу ж пачаў развітвацца, перадаючы яму і фотаздымкі, і клубні вяргіні.

— За мамургіню не хвалюйцеся. Яна абавязкова прыжывецца на Мамурыі, — сказаў аранжарэйшчык напаслед, калі мамур-астранаўт пакідаў аранжарэю. — Я зраблю ўсё магчымае, каб яна прыжылася. — І тут жа звярнуўся да Кутасіка: — Дык ты яшчэ і дапамагчы мне хочаш?

— Хачу!.. Вельмі хачу, — і тут Кутасік замяўся, нават голас свой прыцішыў. — Але... Спачатку... Я хацеў бы паглядзець

на тое зямное стварэнне, пра якое вы тут размаўлялі. Мне надта ж хочацца пабачыць Бр... Бр...

— Брысю! — падказаў Галоўны аранжарэйшчык і дадаў. — Ну, канечне ж, ты можаш паглядзець на яе! На... Вазьмі фотаздымкі! І пакуль ты будзеш іх праглядваць я перанясу гаршчэчкі да мамуронкаў, якія трэба перасаджваць. Кхе-кхе... Мне трэба трошкі пабыць аднаму.

Кутасік узяў фотаздымкі і пачаў уважліва іх разглядваць. У яго вачах свяцілася вялікая цікавасць. Час ад часу ён пазіраў і на Галоўнага аранжарэйшчыка. Пры гэтым было адчуванне, што мамурыку вельмі хочацца пра нешта ў яго запытацца. Зразумела, што ён і запытаўся пасля таго, як добра разгледзеў усе фотаздымкі. Кутасіка шмат што цікавіла і, вядома ж, на ўсе свае пытанні ён атрымаў адказ ад Галоўнага аранжарэйшчыка. Але гэта ўжо будзе наступная частка аповесці, да якой, несумненна, лепш за ўсё падыходзіць назва



## РОБАТ БУНЬКА ПРАПАНОЎВАЕ КУТАСІКУ ЗДЗЕЙСНІЦЬ КАСМІЧНАЕ ПАДАРОЖЖА Ў ГОРАД БРЭСТ

— Ну, што? Бачу, ты вельмі ўважліва прагледзеў усе фотаздымкі, — звярнуўся Галоўны аранжарэйшчык да Кутасіка і падыйшоў да яго. — Я таксама перанёс усе гаршчэчкі да кволых мамуронкаў. Пойдзем перасаджваць іх у гаршчэчкі. Праўда, галава ў мяне штосьці разбалелася. А ўсё ад маіх трывожных думак. Ах, Брыся... Брыся... Давай фотаздымкі, пакладу іх у ранейшы схоў. Разумееш, Кутасік, яна здзейсніла нейкі гераічны ўчынак, а які? Я ніколі нічога пра яе ўжо не дазнаюся. А як жа мне хацелася перадаць ёй гэтыя фотаздымкі!

— Дык і перадайце цяпер, — хутка адазваўся Кутасік. — Папрасіце Шчаслівчыка, каб ён узяў іх з сабою, як толькі зноў паляціць у той зямны, казачнай прыгажосці горад. Ён можа пакласці фотаздымкі да помніка гэтаму вушастаму стварэнню. Даруйце, Бр...Брысі.

Галоўны аранжарэйшчык запытальна зірнуў на мамурыка:

— Чакай... Як ты сказаў? Папрасіць Шчасліўчыка? Хіба гэтага астранаўта завуць Шчасліўчык?

— А вы не ведалі?! Гэтак яго называе робат Бунька, які заўжды пры ім. У кожным палёце... Ён у яго найчасцей — за абаронцу!.. Бунька так і кажа: «Мой астранаўт — шчасліўчык, таму што толькі ў яго ёсць такі абаронца, як я!»

— Хм-м-м?! Бунька — абаронца... Упершыню пра гэта чую. Пойдзем да кволых мамуронкаў... Хаця, давай, спачатку аднясу ў схоў фотаздымкі...

Кутасік без асаблівай ахвоты перадаў Галоўнаму аранжарэйшчыку фотаздымкі і тут жа запытаўся:

— А як вы ажно два разы траплялі на Зямлю? У вас што, быў свой касмічны карабель, ці хтосьці з астранаўтаў браў вас з сабою?

Галоўны аранжарэйшчык уздыхнуў і на нейкі момант задумаўся, а потым заўсміхаўся, быццам згадаў штосьці вельмі радаснае.

— Ведаеш,— сказаў ён, — нашы астранаўты тады яшчэ не наведвалі Зямлю. Яе адкрыў я і здзяйсняў свае палёты на ўласным караблі. Ты ўявіць сабе не можаш, які ў мяне быў пікі-пак!

— Пікі-пак?!— і па выразу на твары было бачна, што Кутасік сапраўды не ўяўляе, якім быў гэты карабель, але на ўсялякі выпадак запытаўся: — Ён што, піпікаў?

— Здаралася, што і піпікаў, — адказаў Галоўны аранжарэйшчык, — праўда, зусім рэдка. На тых касмічных трасах, дзе я лётаў на ім, амаль не сустракаліся іншыя касмічныя караблі.

— А навошта вы лёталі?

— Чакай... Кх-х, кх-х... Я табе зараз нешта пакажу.

Галоўны аранжарэйшчык хутка прайшоў углыб аранжарэі і вярнуўся адтуль з вялікім сачком.

— Што гэта такое, ведаеш?

Кутасік разгублена пазіраў на аранжарэйшчыка. Ён першы раз бачыў сачок, таму і адказаў няўпэўнена:

— Гэтай рэччу вы паліваеце мамуронкі.

— Думаеш? А для чаго ў мяне тут арашальная сістэма? Ну, дык слухай... Гэта самы звычайны сачок. Калісьці даўно такім сачком мамурыкі на Мамурыі лавілі падкінуты ўверх мячык. Але тады, калі здаралася мне вылятаць у космас, я амаль гэткім жа лавіў маленькія метэарыты, каб яны не ўпалі на павер-

хню якой-небудзь планеты, і, каб там не здарылася пажару. Кхе-кхе... Глабальнай катастрофы, адным словам.

І тут Кутасік сказаў тое, што калісьці сказала адна мая знаёмая дзяўчынка, калі пачула пра мамурыка, які з сачком на пікі-паку вылятае ў космас.

— Дык вы ж тады былі не проста мамурык... Вас тады можна было назваць міжпланетным Пажарнікам!

Галоўны аранжарэйшчык ахвотна пагадзіўся з Кутасікам. І яны яшчэ доўга размаўлялі, забыўшыся пра кволыя мамуронкі, і пра гаршчэчкі, у якія іх трэба было перасаджваць. Кутасік пачуў і пра крата Бутуза, і пра Бамбарызу, а найбольш — пра Брысю. Расказваючы пра яе, Галоўны аранжарэйшчык цяпер ужо сам паказваў Кутасіку фотаздымкі і, нарэшце, так зацікавіў мамурыка, што той не стрымаўся і папрасіў:

— Шаноўны аранжарэйшчык, а вы не маглі б мне даць хаця б адзін фотаздымачак?! Я паказаў бы яго ўсім сваім знаёмым мамурыкам і расказаў бы ім пра Брысю, пра ўсё тое, што пачуў ад вас пра яе. Я ўпэўнены, яна спадабаецца ім!

— Хм-м, — Галоўны аранжарэйшчык задумаўся і нечакана для Кутасіка не адмовіў яму.

— На, вазьмі некалькі, — сказаў ён і дадаў. — Я наўрад ці стану прасіць Шчасліўчыка, каб падчас свайго наступнага палёту на Зямлю ён завёз гэтыя фотаздымкі да помніка Брысі ў тым казачным горадзе Брэсце. Ды ці і паляціць ён яшчэ раз туды?

У голасе Галоўнага аранжарэйшчыка чулася стомленасць і вочы больш не свяціліся радасцю, з якой ён расказваў пра свае касмічныя падарожжы. У іх быў смутак.

— У вас зноў разбалелася галава? — устрывожана запытаўся Кутасік.

— А яна і не пераставала балець. Мяне гняце невядомасць! Такая маленечкая Брыся... І раптам — ёй помнік! Хм-м... Што ж яна магла здзейсніць?! Я помню яе такой смяшлівай і дапытлівай! І вось цяпер дзесьці там... На Зямлі... Брыся ў бронзе... Зямляне такім чынам ушанавалі яе...

Гэта ўсё Галоўны аранжарэйшчык прамовіў з вялікім адчаем. Кутасік спалохаўся, таму і прапанаваў:

— Я магу прыйсці ў Дажджавую кроплю заўтра. Думаю, што нам не трэба перасаджваць кволыя мамуронкі сёння. Вам трэба адпачыць.

Галоўны аранжарэйшчык не стаў яго затрымліваць, толькі, развітваючыся, папрасіў:

— Калі будзеш расказваць сваім сябрам-мамурыкам пра Брысю, абавязкова скажы, што яна ўмела лётаць. — Ён на імгненне задумаўся і дадаў. — Праўда, я не ведаю, на якую вышыню магла яна ўзнімацца.

І вось гэтыя апошнія фразы Галоўнага аранжарэйшчыка прымусілі Кутасіка глыбока задумацца. «Чаму Галоўны аранжарэйшчык сказаў мне пра тое, што Брыся ўмела лётаць? І, якая розніца, як высока яна магла ўзнімацца? — Разважаў ён, калі выходзіў з аранжарэі. — А, можа, аранжарэйшчык вырашыў, што, не дачакаўшыся ад яго фотаздымкаў, Брыся аднойчы прыняла рашэнне ляцець на Мамурыю? І падчас гэтага падарожжа загінула? Вось зямляне і паставілі ёй помнік за адважнасць!»

З гэтымі думкамі ён ужо падыходзіў да свайго мамуролера і вельмі здзівіўся, калі пабачыў каля яго робата Буньку.



— Хочаш на ім праехацца? — замест прывітання запытаўся мамурык.

— Ды не... Ён жа з прычэпам! Мне дастаткова, што я лётаю на касмічным караблі са Шчасліўчыкам. — адказаў Бунька і пацікавіўся: — А Шчасліўчык яшчэ ў Галоўнага аранжарэйшчыка? Хачу сказаць яму, што вырашыў трошкі палётаць. Ён мне дазваляе, толькі просіць, каб абавязкова яго папярэджваў. Сёння хочацца наведаць адзін гіганцкі астэроід.

— Шчасліўчык даўно пакінуў Дажджавую кроплю, — сказаў Кутасік. — А Галоўны аранжарэйшчык адпачывае. У яго вельмі сапсаваўся настрой вось з-за гэтай істоты. Можаш паглядзець!

І мамурык паказаў робату адзін з фотаздымкаў, які той даволі доўга разглядваў, а потым выгукнуў, не хаваючы здзіўлення:

— Цікава... Тут жа яна жывая! У спадніччы і з банцікамі! Мне гэтая істота запомнілася ў іншым выглядзе.

—Дык і ты бачыў той помнік, які пастаўлены гэтаму стварэнню ў зямным, казачна прыгожым горадзе Брэсце?

— Не толькі бачыў, а і стаяў каля яго, — і ў гэты момант у робата Бунькі быў вельмі важны выгляд. — Толькі вось я не разумею, чаму ў Галоўнага аранжарэйшчыка сапсаваўся настрой. — працягваў ён і голас Бунькі гучаў даволі фанабэрыста. — Ён што, быў знаёмы з гэтым стварэннем? Ты мяне рассмяшыў! Штосьці я не чуў, каб аранжарэйшчык лётаў на Зямлю! Ён безнадзейна прымамурлены! Штодня корпаецца ў сваіх аранжарэях.

— А вось і лётаў! Гэта ён адкрыў Зямлю! Вельмі даўно, калі быў маленькім мамурыкам. У яго быў пікі-пак!

Кутасік чамусьці вельмі расхваляваўся, яму нават схацелася нейкім чынам пакрыўдзіць Буньку і ён сказаў:

— Галоўны аранжарэйшчык быў надзвычай адважным. Яму не патрэбны былі ніякі абаронца. Твайму Шчасліўчыку ты таксама не патрэбны! Я не ўяўляю, як ты можаш яго абараніць? Ты ж зроблены з кавалка іржавай бляшанкі!

І нейкі іншы робат, пачуўшы такія словы, мог бы сапраўды пакрыўдзіцца. Але Бунька не пакрыўдзіўся. Ён толькі паблажліва пасміхнуўся сваім бляшаным ротам і глыбока-глыбока ўздыхнуў, набіраючы як мага больш паветра. Кутасік спалохана войкнуў і схаваўся за мамуролер, таму што робат Бунька ў адно імгненне ператварыўся ў штосьці агромністае і даволі

страшнае. На Зямлі яго маглі б прыняць за вялізную снежную бабу і ў гэтай бабы з бакоў вытыркнуліся дзве бляшаныя рукі, толькі не з пальцамі, а з вострымі кіпцюрамі.

— Ды не бойся ты, — прамовіла гэтае страшыдла голасам Бунькі і гучна выдыхнула паветра. Пасля чаго стала змяншацца ў памеры, як на Зямлі змяншаецца надзьмутая гумавая цацка, якую неўзнарок пракалолі.

— Цяпер ты не скажаш, што я не патрэбны Шчаслівчыку. Угу-у? Ну вылазь, Кутасік, з-за свайго мамуролера. Бачыш, у мяне ўжо звычайны выгляд! — І робат Бунька, прамаўляючы гэтыя словы, чамусьці азіраўся па баках, быццам баяўся, што такое яго нечаканаеператварэнне мог бачыць не толькі гэты маленькі мамурык, але і яшчэ нехта іншы.

Кутасік марудзіў, а калі адважыўся выглянуць, шчыра прызнаўся:



— Ты мяне страшэнна напалохаў! Са мной заўжды заставайся звычайным робатам Бунькам. Хоць ты і робат, але вельмі падобны на нас, мамурыкаў. Я даўно табе хацеў пра гэта сказаць. — І па голасу адчувалася, што ён з усіх сіл стараецца суняць сваё частае-частае дыханне. Яму сапраўды гэта вельмі хутка ўдалося, таму што праз паўзу ён ужо спакойна папрасіў робата. — Вяртайся на свой касмадром, а мне трэба ехаць у школу. Хачу паказаць усім мамурыкам, калі заспею іх там, гэтыя фотаздымкі.

— Я пабачыў толькі адзін, а што на іншых? — пацікавіўся Бунька і дадаў. — Ды вылазь жа ты нарэшце! Мне хочацца ведаць, чаму з-за гэтага зямнога стварэння сапсаваўся настрой у Галоўнага аранжарэйшчыка?

Кутасік нарэшце вылез, але ўсё яшчэ з асцярогаю глядзеў на Буньку. Толькі, калі пачаў паказваць яму астатнія фотаздымкі, канчаткова супакоіўся. І нават сказаў з даверам:

— Разумееш, Бунька, як толькі Галоўны аранжарэйшчык пачуў ад Шчаслівчыка, што вось гэтаму стварэнню ў тым казачным зямным горадзе Брэсце  пастаўлены помнік, ён адразу так засмуціўся! Я ніколі не бачыў яго такім прыгнечаным. Ведаеш, гэта ж ён фатаграфаваў гэтую істоту там, на Зямлі, калі лётаў туды на сваім пікі-паку! І цяпер яму вельмі карціць дазнацца з-за чаго гэтую Бр-р... Брысю так ушанавалі зямляне? І ці жывая яна ўвогуле?! — Кутасік уздыхнуў. — Аранжарэйшчык ужо ніяк пра гэта не дазнаецца. Таму і аддаў мне частку фотаздымкаў, ведаючы, што ўжо ніколі не зможа перадаць іх Бр... Брысі.

— Дарэмна ён гэтак думае!

Тут робат Бунька і прапанаваў Кутасіку здзейсніць палёт на Зямлю, які ў іх, зыходзячы з яго слоў, не зойме шмат часу, бо Вялікі мамур адкрыў такую кароткую касмічную трасу, што абярнуцца туды і назад можна, як гавораць мамуры-астранаўты, за лічаныя мургадзіны.

— У тым, што мы нешта пачуем пра гэтае стварэнне, я проста ўпэўнены! — казаў Бунька і тут жа ўсяляк падахвочваў Кутасіка. — Ну, давай, пагаджайся! Уяўляеш, які задаволены будзе Галоўны аранжарэйшчык! Няўжо ты такі баязлівы?! Там, на Зямлі пры любых абставінах я змагу цябе абараніць, ты ж бачыў!

— А ад каго мы зможам пачуць пра Бр-р... Брысю? Хто нам раскажа, чаму ў тым казачным зямным горадзе ёй пастаўлены помнік?

— Спачатку скажы, ты згодзен ляцець на Зямлю?

І нечакана для Бунькі Кутасік кіўнуў галавой у знак згоды. Робат ажно задаволена засмяяўся і вочы яго зрабіліся больш пукатымі.

—А ты не такі ўжо і баязлівы! — Зазначыў ён. — Твой мамуролер няхай тут і стаіць. Мамуры будуць думаць, што ты ў Дажджавой кроплі, — і ён зашаптаў Кутасіку проста ў вуха. — Там, на Зямлі такіх стварэнняў, як Брыся, процьма! У іх мы і распытаем пра яе. Не паверыш, Шчаслівчык увязаўся за разявакамі, што ішлі за ліхтаршчыкам, калі той запальваў свае казачныя ліхтары, а я азіраў мясцовасць… Вось і пабачыў гэтых стварэнняў на дрэвах, што растуць каля таго помніка. Можа, яны ахоўваюць яго?! У іх жа можа быць там свая варта. Ну, дык не будзем губляць часу! Ідзі за мной!

І яны пайшлі. Сустрэчныя мамуры з цікавасцю пазіралі на робата, таму што Бунька рэдка калі пакідаў свой касмічны карабель. І ніхто з іх ніякай увагі не звяртаў на мамурыка Кутасіка, які ў гэты момант у сваіх думках быў ужо далёка ад Мамурыі. Ён спрабаваў уявіць той зямны, казачна-дзівосны горад Брэст, куды яны неўзабаве паляцяць. І баяўся толькі аднаго: а што, калі раптам там не акажацца тых стварэнняў, якія прыкмеціў Бунька на дрэвах каля помніка Брысі. У каго тады яны распытаюць пра яе? І што пасля вяртання на Мамурыю скажуць Галоўнаму аранжарэйшчыку? Адно, што можна будзе пакласці да помніка фотаздымкі з надзеяй, што тыя стварэнні аднойчы звернуць на іх увагу. Помнік, пэўна, дакладна будзе на месцы. Ён нікуды не знікне.

Але трывожыўся Кутасік дарэмна. Таму што якраз у той самы час, калі яны падыходзілі ўжо да касмадрома, на Зямлі, у цудоўным горадзе Брэсце, да помніка, на якім узвышалася бронзавая начніца, зляталіся рукакрылыя. Яны прыляталі сюды кожную летнюю ноч і ўсялякі раз горача спрачаліся між сабою, спрабуючы высветліць, якому ж роду рукакрылых з усяго сямейства гладканосых пастаўлены гэты помнік? Не абыйшлося без сваркі і ў тую ноч ранняй восені, калі касмічны карабель з мамурыкам Кутасікам і робатам Бунькам прызямліўся ў чароўным горадзе Брэсце. Гэтая частка маёй апошняй аповесці пра міжпланетнага Пажарніка называецца







# НАЧНІЦА НЮНЯ — АКТЫЎНАЯ ЎДЗЕЛЬНІЦА САМАЙ ВЯЛІКАЙ СПРЭЧКІ РУКАКРЫЛЫХ

У тую ноч да помніка, на якім узвышалася бронзавая начніца, паўночны Кажанок прыляцеў самы першы. Чароўна-казачны Брэст патанаў у глыбокім сне і ліхтаршчык ужо даўно на блізкай пешаходнай вуліцы патушыў усе ліхтары. Кажанок пакружыў над помнікам і апусціўся на бронзавую галоўку начніцы, поўны абурэння.

— І, колькі ж на табе пылу! Адкуль тут гэты пыл і ўзяўся! — Незадаволена бурчэў ён. — Ай-я-яй, вачам не веру, як можна гэтак запыліцца! А куды глядзіць ліхтаршчык! Не, каб

пыл з тваёй галоўкі змахнуць, дык ён усё свае ліхтары запальвае! Вуліцу, бач ты, асвятляе, а ў твой бок і не зірнуў! Зараз я змахну... Во-ось! Во-сь! Крылцы ўжо і чысценькія... Ільсняцца, як і ў кожнага паўночнага Кажанка!

— А з чаго ты ўзяў, што гэта паўночны Кажанок?! — раптам пачуўся глухі голас з дрэва, што схіліла сваё голле над помнікам. — Гэта ж людзі ўшанавалі гэтак нас — гіганцкіх Вячэрніц! Ты ж добра ведаеш, мы жылі ў дуплах у лесе пад Брагінам, а потым гэтая аварыя ў Чарнобылі здарылася... Мы вымушаны былі перасяліцца, сюды ляцелі ад радыяцыі... Вось і паставілі нам тут помнік, як пацярпелым!

— Цыц!.. Цыц!. Сціхні! Нічога не кажы мне! — замахаў крылом паўночны Кажанок.— Прымі маё спачуванне і добра прыгледзься! Тут і сляпому бачна! Мы, як два браты! Толькі ён у бронзе, а я — жывы!

Лісце дрэва зашапацела і адтуль з моцным шумам вылецела гіганцкая Вячэрніца. Яна падляцела да помніка і сваім вялікім крылом штурханула паўночнага Кажанка.

— Ну, давай... Па-добраму ляці адсюль! Толькі спачатку са мной гэтую бронзавую выяву параўнай! Ды яна гэткая ж гіганцкая, як і я! А ты... Ты... Дробненькі кажанок! І пылу не ча-



пай! Я сама буду яго змахваць! Цябе ніхто не прасіў тут усё чысціць! — і яна зноў штурханула Кажанка.

— Э-э-э... Не штурхайся! Я не пацярплю абразы! Гэты помнік — наш! Наш! — і Кажанок шырока распрасцёр крылы над бронзавай начніцай.

— Гэта каго тут абражаюць? — пачулася ў той жа момант проста над галавой у паўночнага Кажанка.

Ён паглядзеў уверх і пабачыў на галіне, што нізка звісала над помнікам, еўрапейскую Шыракавушку. Яна крылцам старанна чысціла кіпцюрыкі на сваёй маленькай лапцы і не-не, ды пагардліва пазірала на паўночнага Кажанка.

— А ты добра пыл з маёй скульптуры пазмахваў, — ласкава пахваліла яна яго, але голас гучаў неяк не натуральна. — Можаш яшчэ і белую плямку сцерці, якую ты не заўважыў на баку. Я дазваляю! Яе, напэўна, вераб'і ці сарокі пакінулі.

— Як ты сказала? Паўтары яшчэ раз! — гучна адазвалася гіганцкая Вячэрніца і пагрозліва закружыла над галінай, дзе сядзела Шыракавушка. — З чаго ты ўзяла, што гэта твая скульптура?! Хто мог нашаптаць такое ў тваё шырокае вуха?!

Еўрапейская Шыракавушка зляцела з галіны і завісла над паўночным Кажанком.



— Я не збіраюся з ёю спрачацца! Фі-і, грубіянка! А цябе, даражэнькі, папрашу пакінуць скульптуру!

— Не цяпер! — неяк вельмі ціха адказаў Кажанок і папрасіў: — Калі ласка, не распачынайце сваркі! Я прыляцеў сюды развітацца. Мы заўтра ўсім сваім родам адлятаем на зімоўку.

— Ага-а... Ён адлятае на зімоўку!  Вы чулі? Чулі?! — дзесьці зусім блізка прагучаў такі пранізлівы піскляві голас, што паўночны Кажанок лапкай закрыў адно вуха і не ўтрымаўся, зляцеў уніз, да падножжа помніка. І тут жа, штосьці імкліва пранеслася ў паветры і апусцілася на тое самае месца, дзе толькі што сядзеў паўночны Кажанок, які адразу ж угледзеў, што гэта была маленькая начніца Нюня з роду начніц Натэрэраў. А еўрапейская Шыракавушка сказала гучна:

— І хто толькі яе адпускае з дупла?! Распускала б свае нюні ў Белавежы. Цяпер ужо нічога не высветлім!

— А вам няма чаго высвятляць! — адразу ж адазвалася Нюня. — Хто будзе ставіць помнік кажанам, якія нават тут не зімуюць! Яны штогод на зімоўку адлятаюць у пячоры Прыбалтыкі. — І Нюня залілася здзеклівым смехам. —Ха-ха-ха-а...

— Нюня кажа праўду, — пагадзілася з маленькай Натэрэрай гіганцкая Вячэрніца. — Мы хоць і перасяленцы, але аселі тут назаўжды. За гэта нам і пашана. Мы палічылі гэтыя мясціны самымі лепшымі.

Пакуль гіганцкая Вячэрніца прамаўляла ўсё гэта, Нюня развязала адзін з ружовых банцікаў, якія ўпрыгожвалі яе вушкі, і пачала стужкай выціраць белую плямку, пра якую казала Шыракавушка. Тут якраз і падляцеў да яе паўночны Кажанок і загаварыў яхідна:

— Нюня, калі ты ўжо такая ўвішная, дык хачу папрасіць цябе. Акажы мне маленечкую паслугу. Пакуль мы будзем зімаваць у сваіх пячорах, ты тут сняжок зімою змятай з майго бронзавага родзіча. А лепш разам са сваёй бабуляй Брысяй.

— Што ты сказаў? — ажно захліпнулася крыкам Нюня.— Ты не паўночны Кажанок, ты самы сапраўдны нетапыр! І бабулю маю не чапай! Яе людзі акальцавалі! Значыцца, яна лепшая! Ёй і паставілі гэты помнік!

— Не спрачайся з дарослымі, табе лепш вярнуцца ў пушчу, у сваё дупло, — паспрабавала супакоіць Нюню еўрапейская Шыракавушка. Яна зноў сядзела на сваёй галіне і было

падобна, што ёй ужо надакучыла гэтая спрэчка. А паўночны Кажанок наадварот, распаляўся тым часам.

— Ды ніякая не лепшая твая бабуля Брыся! — не супімаўся ён. — Яна проста бабу-у-ля! Разумееш, проста бабу-у-уля! Агідная старая Натэрэра!

— Ах вось, як ты! Дык на табе! На-а! Я не пацярплю!

Нюня хутка скамечыла ружовую стужку, якою толькі што выцірала белую плямку, і з усяе сілы шпурнула яе ў паўночнага Кажанка. Ён узмахнуў крыламі і падхапіў стужку лапкай і тут жа застыў у паветры... Яго позірк быў скіраваны ўбок блізкага старога гаража.

— За намі сочаць! Знікаем! — выдыхнуў Кажанок і хутка апусціўся да падножжа помніка.

— Ды ніхто не сочыць, — адазвалася гіганцкая Вячэрніца. — На даху гаража проста нешта свеціцца. Я гэта ўжо даўно заўважыла.

— Дык трэба паглядзець, што там такое, — рашуча прапанавала еўрапейская Шыракавушка і, павольна ўзмахнуўшы крыламі, падалася да гаража.

— Баязлівец! — гучна выгукнула Нюня, зірнуўшы ўніз на Кажанка, і паляцела следам за Шыракавушкай туды, дзе на гаражным даху ўсё яшчэ нешта свяцілася. І хіба магла тады падумаць Нюня, што гэтае нешта было самым сапраўдным касмічным караблём, на якім прыляцелі на Зямлю, у казачнапрыгожы горад Брэст мамурык Кутасік і робат Бунька.

Пра тое, што ж адбылося пасля таго, як гэтыя прышэльцы з далёкай Мамурыі пакінулі свой карабель, і расказваецца ў той частцы аповесці, якая мае назву



## ПРЫЗЯМЛЕННЕ БУНЬКІ І КУТАСІКА НА ДАХ СТАРОГА ГАРАЖА

Робат Бунька па-гаспадарску агледзеўся на даху, куды яны апусціліся, і пайшоў у той бок, дзе да гаражнай сцяны была прыстаўлена цяжкая драўляная лесвіца. А мамурык Кутасік

усё ўзіраўся і ўзіраўся ў змакрэлы ад расы чорны толь, якім быў пакрыты гараж, нарэшце, расчаравана прамовіў:

— Ды тут я ніякіх раслін не бачу! А Галоўны аранжарэйшчык казаў, што ён прызямляўся ў сапраўдны зараснік, столькі кветак было наўкола!

— Мы селі не на зямную паверхню, а на гараж, куды садзіліся са Шчасліўчыкам, — адказаў Бунька і прыспешыў мамурыка. — Ну хопіць табе стаяць на адным месцы! Лесвіцу не прыбралі, па ёй і спусцімся ўніз. І чаго ты ўтаропіўся пад ногі?! Ты ўверх зірні! Тут паўсюль дрэвы! Паглядзі, якія агромністыя ў іх кроны.

І ён ужо наважыўся спускацца, але ў гэты момант пачуў крык Кутасіка:

— Ба-а-чу! Ба-а-ачу! Бунька, вунь там, уверсе! Кветка!.. Яна ружовая-ружовая!

Бунька паглядзеў у той бок, куды паказваў мамурык. Там сапраўды бачылася штосьці ружовае. Але ён адразу вызначыў, што гэта была не кветка. На дрэве ў густым лісці, якое ўжо дзе-нідзе пажаўцела, бачылася штосьці іншае. Але хіба маглі ведаць у той момант робат Бунька і мамурык Кутасік, што гэта быў ружовы банцік маленькай начніцы Нюні. І, што яна сама ў гэты момант, і еўрапейская Шыракавушка, якая сядзела на галіне побач з ёю, ужо зразумелі, што на гаражным даху не проста нешта свяцілася. Там рухаліся дзве маленькія істоты, якіх раней яны ніколі не бачылі.



— Усё роўна, як нейкія гіганцкія жукі. Але чаго яны гэтак свяцяцца? — зашаптала Шыракавушка Нюні і ў адказ пачула голас Вячэрніцы, якая прыляцела да гаража ўслед за імі і прымасцілася на суседняй галіне.

— Гіганцкая — гэта я! — казала Вячэрніца. — А яны ніякія не жукі. Хутчэй, на людзей падобныя. Толькі вельмі маленькія і блішчастыя. Гэтак блішчыць крышталь у вітрынах магазінаў.

— Я ж казаў, што за намі сочаць! — адгукнуўся паўночны Кажанок. Ён таксама

прыляцеў сюды і апусціўся на сучок побач з гіганцкай Вячэрніцай. — Глядзі! Глядзі! Яны хочуць спускацца з даху!

— Угу-у, хочуць, — пагадзілася Вячэрніца. — Але глядзяць у наш бок! І вельмі пільна глядзяць!

— Ну, тады нам трэба ўцякаць! Ад невядомых можна чакаць усяго самага непрадбачлівага.

— Уцякаць? Ага-а? — Адазвалася са сваёй галіны Шыракавушка. — Я заўжды ведала, што ты ўсяго толькі дробненькі Кажанок! Ніякай годнасці! Адна боязь!

І тут здарылася сапраўды непрадбачанае. Паўночны Кажанок імкліва сарваўся з сучка, на якім сядзеў і, размахваючы ружовай стужкаю, якою шпурнула ў яго Нюня, панёсся да гаража ну проста з дзікім крыкам:

— Сюды! Усе ляціце сюды! У мяне стужка! Гэ-эй, Вячэрніца! Вяжы іх! Вяжы! Ты гіганцкая!

І паўночны Кажанок, усё яшчэ размахваючы стужкаю, сеў на самы краёк даху, чуючы, як ззаду шумяць крылы. Гэта следам за ім ляцелі і еўрапейская Шыракавушка, і гіганцкая Вячэрніца. Яны ўладкаваліся побач з Кажанком. Адна толькі маленькая начніца Нюня засталася на галіне між густога лісця і з цікавасцю назірала за невядомымі істотамі. А паглядзець было на што. Бо, як толькі Шыракавушка і Вячэрніца, натапырыўшы вушы з грозным выглядам апусціліся на дах, дзе Кажанок паспеў уздыбіць сваю кароценькую шэрстку, пачуўся неверагодна гучны свіст.

Гэта робат Бунька з усяе сілы ўцягнуў у сябе паветра і стаў надзімацца да такіх агромністых памераў, што нават Кутасік спалохаўся і прысеў. А калі страшыдла-Бунька са сваіх вялізных круглых бакоў вытыркнуў бляшаныя рукі, гіганцкая Вячэрніца войкнула і можа нават на імгненне страціла прытомнасць, таму што раптам рэзка ссунулася на самы-самы краёчак даху. І было не зразумела, ці яна зрываецца з яго, ці хоча зляцець уніз. Паўночны Кажанок падхапіў яе за крыло і Вячэрніца засталася на ранейшым месцы.

— Да помніка! — як не ў сабе заверашчала еўрапейская Шыракавушка. — Хутчэй ляцім да помніка! Гэтая пачвара можа знявечыць скульптуру!

Яна ўзмахнула крыламі і ўмомант знікла ў густой цемрадзі. Паўночны Кажанок і гіганцкая Вячэрніца кінуліся ўслед за ёю,

ды так хутка, што маленькая начніца Нюня нават не паспела выхапіць сваю ружовую стужку з лапкі Кажанка, каб завязаць банцік на сваім другім вушку. А ёй вельмі хацелася зрабіць гэта. Яна пераляцела на самую блізкую да гаража галінку і стала прыслухоўвацца, пра што ж размаўляюць там гэтыя дзіўныя істоты. Але, як не ўслухоўвалася, нічога разабраць не магла. Толькі ў здзіўленні акруглiла вочкі, калі пабачыла, што тоўстае-тоўстае страшыдла пачало вельмі хутка здзімацца. І вось ужо стала ранейшай істотай, вельмі падобнай да той, што ўвесь час нешта незадаволена крычала, размахваючы блішчастымі ручкамі.

Мамурык Кутасік сапраўды крычаў, ён нават гатовы быў заплакаць, хоць мамурыкі на Мамурыі плачуць вельмі рэдка.

— Ну навошта ты іх напалохаў?! Гэта ж былі тыя самыя стварэнні, у якіх мы хацелі распытаць пра Брысю! Яны та-



кія ж, як і яна! Вушастыя і з крыламі! Дзе мы цяпер іх знойдзем?! Яны будуць хавацца!

— Я абараняў цябе, — мармытаў у адказ робат Бунька. — Ты ж не настроіўся на іхнюю мову, а я ўключыў свой моўны канал. Яны хацелі накінуцца на нас, каб звязаць!

— Звязаць? — у голасе Кутасіка чулася недаўменне. Ён на імгненне задумаўся і запытаўся: — Ты думаеш яны драпежныя? Галоўны аранжарэйшчык называў Брысю вельмі мілым стварэннем!

І ў гэты момант маленькая Нюня ажно падскочыла на сваёй галіне. Яна пачула імя сваёй бабулі, старой начніцы Натэрэры і проста ўся згарала ад цікаўнасці. Нарэшце, не вытрымала, адарвалася ад галінкі і скіравалася да гаража. Калі Нюня апусцілася на тое ж самае месца, дзе некалькі хвілін таму назад сядзелі Кажанок, Вячэрніца і Шыракавушка, робат Бунька шапнуў Кутасіку:

— Настрайвайся на яе мову. У нас ёсць магчымасць нешта пачуць пра Брысю!

І ўсё ж мамурык не паспеў улавіць першыя словы Нюні, а яна загаварыла адразу, як толькі села на дах.

— Вы, напэўна, гумавыя цацкі?! Мне даводзілася бачыць, як іх у вулічных шапіках надзімаюць прадаўцы. — Яна зрабіла паўзу і запытальна паглядзела на Буньку. — Скажы, як табе ўдалося самому надзьмуцца?! Без прадаўца і без насоса!

Але Бунька нічога не паспеў адказаць. Кутасік ужо настроіўся на мілагучную мову Нюні і, зразумеўшы сэнс яе апошняга пытання, тут жа паспяшаўся даць адказ на яго:

— Гэта робат Бунька! У яго механізм разам з іншымі ўключана і праграма надзімання. Яна спрацоўвае, калі трэба выканаць абарончую функцыю.

— Вы гумавыя цацкі-робаты?

— Мы не цацкі! — запярэчыў Кутасік. — Мы — жыхары планеты, якую яшчэ не паспелі адкрыць зямляне. Ён — робат, а я — мамурык. Мы з планеты — Мамурыя.

Нюня задумалася, а робат Бунька сказаў:

— Нам пагражалі такія ж істоты, як ты. Яны хацелі нас звязаць! Ад цябе не сыходзіць пагроза і мы ўступаем з табою ў кантакт.

— Я не супраць, — адказала Нюня, — Уступайце! Але спачатку хай скажа, — і яна паказала крылцам на Кутасіка, — адкуль ён ведае маю бабулю? Я чула, як ён назваў яе імя?

— Брыся твая бабуля? — перапытаў Бунька. — Яе калісьці фатаграфаваў на Зямлі наш Галоўны аранжарэйшчык. — І ён павярнуўся да Кутасіка: — Хутчэй паказвай фотаздымкі!

А мамурык ужо і без яго слоў паспеў дастаць іх з кішэні свайго камбінезончыка. Ён рушыў да Нюні, але яна сама падляцела да яго і сапраўды пазнала сваю бабулю на фотаздымку, які паказваў ёй Кутасік.

— Ах, якая яна тут прыгожанькая! Гэта сапраўды мая бабуля! — яна паглядзела на мамурыка і запыталася: — А, хто такі Галоўны аранжарэйшчык?

І Кутасік на нейкі момант забыўся пра фотаздымкі. Ён пачаў расказваць Нюні ўсё, што ведаў пра палёты Галоўнага аранжарэйшчыка на Зямлю, калі той быў маленькім мамурыкам, а дакладней, міжпланетным Пажарнікам. Расказаў ён і пра Шчасліўчыка, ад якога Галоўны аранжарэйшчык дазнаўся, што на Зямлі ў казачна-прыгожым горадзе Брэсце Брысі пастаўлены помнік. І, як толькі маленькая начніца з роду Натэрэраў пачула пра гэта, Кутасік нават адскочыў ад яе, аглушаны раптоўным крыкам.

— Гэ-э-эй! Гэ-э-эй! Ляціце сюды! — як не ў сабе крычала ашаломленая пачутым Нюня. — Вы не верылі! Не верылі! А гэта наш помнік! Наш! Пра гэта ведаюць нават жыхары планеты, якую яшчэ не адкрылі зямляне! Я забараняю вам набліжацца да яго! Ён пастаўлены маёй бабулі! Ляціце сюды! Запытайцеся ў гэтых мамурыкаў і яны вам пра ўсё раскажуць!

І тут Нюня замоўкла. У цёмным кутку гаражнага даху яна пабачыла маленечкі блішчасты касмічны карабель, на які раней не звяртала ўвагі. І магчыма на нейкі момант ёй нават стала страшна ад таго, што яна так даверліва размаўляе з іншапланетнымі прышэльцамі, але яна не падала ніякага выгляду, а толькі запыталася:

— А ваша Мамурыя далёка адсюль?

І якраз у гэты момант проста да ног робата Бунькі апусціўся паўночны Кажанок.

— Э-э-кхе-кхе-е, я рады вітаць вас! Нічога не маю супраць! Цалкам верагодна, што помнік пастаўлены старой На-

тэрэры Брысі! Дазвольце праявіць гасціннасць! Спускайцеся ўніз, я правяду вас да яго!

— Правядзеш да помніка?! — Ускрыкнула Нюня. — Навошта ім помнік, калі яны могуць пабачыцца з маёй бабуляй Брысяй! Яна жыве недалёка адсюль. У Астрамечава! На гарышчы самага прыгожага будынка.

— Дык туды ж трэба ляцець, а помнік побач! — Запярэчыў Кажанок.

— Мы паляцім да Брысі. Нам трэба перадаць ёй фотаздымкі і запытацца, чаму ў казачна-чароўным горадзе Брэсце ёй пастаўлены гэты помнік? — робат Бунька запытальна паглядзеў на Нюню.— Ты нам пакажаш, у якім напрамку трэба ляцець?

Маленькая начніца маўчала, толькі ўсхвалявана ўзмахнула крылцамі. І Кутасік зразумеў гэта па-свойму.

— Ты паляціш з намі, — сказаў ён. — Я запрашаю цябе на наш карабель.

— Запрасіце і мяне! — залапатаў крыламі паўночны Кажанок. — Яна зусім малая, яшчэ з дарогі саб'ецца, а я шлях да старой Натэрэры Брысі ведаю добра.

Робат Бунька зноў запытальна паглядзеў на Нюню.

— Няхай ляціць, — пагадзілася яна. — А то яшчэ не аддасць мне маю ружовую стужачку! У мяне ж цяпер толькі адзін банцік, — і яна дакранулася да вушка, на якім ён быў завязаны.

— Во-ой! Стужачка! — спалохана закрычаў паўночны Кажанок. — Дзе ж тая стужачка? Я згубіў яе, Нюнечка, калі ляцеў сюды на твой крык! Чакайце!.. Я зараз палячу назад, я знайду яе!..

Ён з адчаем прамаўляў усё гэта і разам з тым разумеў, што яму нікуды не трэба ляцець. Таму што мамурык Кутасік развязаў зялёную стужку, якою былі сабраны яго доўгія валасы ў хвосцік, і завязаў яе банцікам на Нюніным вушку.

— Гэта мой падарунак табе, — сказаў ён.

І ў гэты момант Нюня так засаромелася, што нават забылася сказаць: дзякуй! Але на гэта ніхто не звярнуў ніякай увагі, акрамя еўрапейскай Шыракавушкі. Яна і гіганцкая Вячэрніца сядзелі на самым блізкім да гаража дрэве і з цікавасцю назіралі за ўсім, што адбывалася на даху.

— Няўдзячная! — лапатнула крылом Шыракавушка. — Якая нявыхаванасць! Я абавязкова штосьці падарыла б у адказ! А яна нават «дзякуй» не сказала!

— Ды сціхні ты! — Вячэрніца тузанула Шыракавушку за крыло. — Глядзі, яны ўжо ўзняліся! Няўжо паляцяць у Астрамечава? Вой, дзе, дзе ж гэтае бліскучае блюда?! Яно, як быццам, растала ў паветры! Ты яго бачыш, Шыракавушка? Бачыш?!

Гіганцкая Вячэрніца ўзіралася ў высокае неба ранняй восені, дзе мігцелі, іскрыліся далёкія зоркі, а Шыракавушка ўздыхнула:

— Калі гэта сапраўды прышэльцы, дык яны ўжо дзесьці каля Астрамечава! Але ёсць пытанне: ці можна гэтым прышэльцам верыць і ўсяму таму, пра што яны тут балбаталі? Мне чамусьці шкада Нюню. А паўночнаму Кажанку трэба было яшчэ ўчора адпраўляцца ў свае пячоры ў Прыбалтыку. Сумняваюся, што яны паляцелі да старой Брысі!

І еўрапейская Шыракавушка, вядома ж, памылялася. Таму што якраз у гэты момант маленечкі бліскучы касмічны карабель ужо апускаўся на дах аднаго з самых прыгожых будынкаў у старажытным і такім сучасным Астрамечава. Мамурыка Кутасіка і робата Буньку чакала сустрэча з начніцай Брысяй, пра што і расказваецца ў заключнай частцы маёй аповесці з такой вельмі зямной назвай



## АСТРАМЕЧАЎСКІ ЯБЛЫК — У ПАДАРУНАК МІЖПЛАНЕТНАМУ ПАЖАРНІКУ

— Я першая ўлячу ў паддашкавае акно, — сказала маленькая начніца Нюня мамурыку Кутасіку, як толькі яны ўсе пакінулі карабель. — Пагляджу, ці не спіць бабуля. Яна рана ўкладаецца на зімоўку.

Бунька з цікавасцю азіраў чырвоны чарапіцавы дах, на які яны апусціліся, і ён бачыўся яму бяскрайнім. Разам з тым ён прыслухоўваўся і да слоў Нюні. І яму было незразумела, пра якое акно яна гаворыць, але палічыў патрэбным запытацца:

— Нам таксама з Кутасікам трэба будзе ўлятаць у яго? Мы зараз вернемся на карабель.

— Не-не, на караблі вы ў акно не ўляціце, — спуджана запярэчыў паўночны Кажанок. — Не для гэтага яно зроблена!

— Канечне, не для гэтага! — пацвердзіла Нюня. — Паддашкавае акно — для маёй бабулі Брысі. Карабель няхай стаіць на даху, а ў акно вы проста ўлезеце!

І Нюня паляцела да паддашкавага акна. І перад тым, як уляцець на гарышча, гучна крыкнула паўночнаму Кажанку, усё роўна, як аддала загад:

— Вядзі іх сюды, Кажанок!

І, магчыма, у яе голасе робату пачулася штосьці пагрозлівае, таму што Бунька гучна ўцягнуў у сябе паветра, але пераўтварыцца ў страшыдла не паспеў. Кутасік хутка схапіў яго за руку і зашаптаў у самае вуха:

— Заставайся Бунькам, чуеш?! Ты ўсё сапсуеш! Нам нічога не пагражае!



— Гэ-эй!.. Гэ-эй! — у гэты момант пачуўся голас з паддашкавага акна і адтуль выглянула Нюня. — Ну, дзе ж вы?! Бабуля Брыся не спіць.

— Ужо ідзем, — адгукнуўся паўночны Кажанок і звярнуўся да Кутасіка: — У акно няхай першы залазіць робат. — І дадаў больш ціха: — Ён не прадказальны!

Але, калі яны падыйшлі туды, дзе было паддашкавае акно, атрымалася ўсё наадварот. Адштурхнуўшы Буньку, першым на гарышча пранік мамурык. І, як толькі апынуўся ў густой цемрадзі, дзе амаль немагчыма было штосьці разгледзець, адразу ж пачуў усхваляваны голас:

— Дык гэта ты-ы-ы? О-о, я ведала, што мы яшчэ аднойчы пабачымся! Я ў гэта верыла! Вельмі верыла! Нюня сказала: прышэльцы! І я адразу ж падумала пра цябе!

І тут жа сноп святла з цёмнага кутка гарышча выхапіў старую Натэрэру Брысю. Гэта робат Бунька пасвяціў ліхтарыкам, які запасліва трымаў у сваёй бляшанай кішэні. Брыся сядзела на невялікай драўлянай скрыні. Побач з ёю прымасцілася і Нюня, якая адрознівалася ад сваёй бабулі хіба што толькі банцікамі на вушках.

— Ну, а дзе ж ты пакінуў свой пікі-пак?! — І старая Натэрэра нават не засмяялася, а хутчэй захіхікала: — Хі-хі-хі-і... Бачыш, я не забылася. Я добра помню на чым ты прылятаў тады на Зямлю. Сасну паваленую помніш? Я таксама помню... Помню... — Брыся ўтаропілася на робата Буньку, які падыйшоў да Кутасіка. А паўночны Кажанок у гэты момант падляцеў да Брысі і хутка-хутка загаварыў:

— Не бойся, Натэрэра! Нічога не бойся! У іх ёсць твае фотаздымкі. Яны казалі, што калісьці цябе фатаграфаваў нейкі іхні Галоўны аранжарэйшчык!

— Не кажы абы чаго, Кажанок! — адмахнулася крылцам Брыся. — Мне лепш ведаць, хто мяне фатаграфаваў! — І яна запыталася ў Кутасіка, кіўнуўшы на робата: — Ты прыляцеў з сябрам?

— Гэта — робат Бунька! — адказаў мамурык. — А я — Кутасік! Я не той, за каго ты мяне прымаеш. Кажанок сказаў праўду. Калісьці даўно на Зямлю прылятаў наш Галоўны аранжарэйшчык. Ён тады быў маленькім мамурыкам і свой карабель ён сапраўды называў пікі-пакам. У яго быў з табою кантакт.



— Ён цяпер на самой справе Галоўны аранжарэйшчык на нашай Мамурыі, — адазваўся робат Бунька, — і яго самая любімая аранжарэя — Дажджавая кропля, дзе растуць мамуронкі. Думаю, што і твой фотаздымак, дзе ты з мамуронкамі, для яго быў самы любімы. Ён пакутаваў, што не змог перадаць табе фотаздымкі.

— Пра што ты гаворыш?! — прыўзняла ледзь прыкметныя бровы Брыся. — Ён штосьці пераблытаў! Якія яшчэ мамуронкі?!

Мамурык Кутасік наблізіўся да старой Натэрэры і паказаў ёй адзін з фотаздымкаў.

— Ды вось жа тут... Вы на здымку з мамуронкамі!

І як жа тут рассмяялася Брыся!

— Я ж кажу, ён усё пераблытаў! Трэба ж такое слова прыдумаць! — скрозь смех прамовіла яна. — Гэта самыя звычайныя рамонкі, але мне было прыемна... Вельмі прыемна, калі ён мне ўручыў гэты букецік.

Яна нахілілася да Нюні і папрасіла:

— Нюнечка, падай мне вунь тыя засушаныя рамонкі, што вісяць на сцяне.

І, калі Нюня зняла з цвічка некалькі засушаных сцяблінак, перавязаных матузом, старая Натэрэра зноў папрасіла яе:

— Аддай сцяблінкі ім... гэтым мамурыкам. Гэта і ёсць той самы букецік. Няхай яны перададуць яго яму, каб ён заўжды помніў, што калісьці на Зямлі дарыў мне рамонкі. — І апошняе слова яна прамовіла з асаблівым націскам.

Паўночны Кажанок незадаволена ўзмахнуў крыламі і тут жа звярнуўся да старой Натэрэры:

— Брыся! Няўжо ты хочаш перадаць у падарунак таму, хто калісьці фатаграфаваў цябе, гэтае сушанае-перасушанае смецце, з якога кветкі даўно паабсыпаліся! А, можа, проста сатлелі. Яму трэба падарыць яблык! Самы вялікі і самы салодкі яблык з астрамечаўскіх садоў! Дзе яшчэ ёсць такія яблыкі?! Няхай ведаюць пра Астрамечава на Мамурыі.

— А што такое яблык? — запытаўся мамурык Кутасік у Нюні, якая якраз у гэты момант перадала яму некалькі засушаных сцяблінак.

— Ну-у… яго можна есці. Ён такі круглы-круглы, чырвоны-чырвоны, — пачала тлумачыць маленькая начніца, а потым падумала і дадала: — А бывае яшчэ і жоўты-жоўты…

— Угу-у… Чырвоны і жоўты… — паўночны Кажанок з дакорам паглядзеў на Нюню і звярнуўся да Кутасіка: — Не слухай яе! Я мігам! Зараз… Зараз яблык пабачыце!

І паўночны Кажанок імкліва вылецеў у паддашкавае акно…

А, калі ён, сапраўды, вельмі хутка вярнуўся з вялікім чырвоным яблыкам, дык адразу заўважыў, што на гарышчы адбыліся змены. Цёмную сцяну ўпрыгожвалі каляровыя фотаздымкі, з якіх весела пазірала сфатаграфаваная калісьці Брыся, і засушаныя рамонкавыя сцяблінкі віселі на ранейшым месцы. Мамурык Кутасік і робат Бунька сядзелі побач з Брысяй на невялікай драўлянай скрыні і старая Натэрэра, як толькі пабачыла паўночнага Кажанка, узмахнула крылцам, маўляў, не перашкаджай, у нас тут важная размова. Бунька і Кутасік утаропіліся на крамяны яблык, а Брыся сказала:

— Ну яблык і яблык! Вы пыталіся пра помнік, дык пра яго я ўпершыню чую. Э-э-э… Які яшчэ помнік?!

— І зусім не ўпершыню! — з дальняга кутка гарышча выпырхнула маленькая начніца Нюня. — Я табе расказвала пра яго і вось яны, — паказала на Буньку і Кутасіка, — сказалі, што гэты помнік пастаўлены табе!



Нюня запытальна зірнула на прышэльцаў і адразу ж адазваўся Кутасік:

— Мы вернемся на Мамурыю, — сказаў ён Брысі. — І нашаму Галоўнаму аранжарэйшчыку будзе цікава даведацца, чаму зямляне паставілі вам гэты помнік? Ён у нас пра гэта запытаецца. Напэўна, вы здзейснілі штосьці вельмі гераічнае?!

— Нічога гераічнага яна не здзяйсняла, — буркнуў паўночны Кажанок і апусціў яблык на драўляную скрыню, да якога адразу ж дакрануўся робат Бунька.

— Кажанок кажа праўду, — уздыхнула Брыся. — Тут на гарышчы перазімую і вясной злётаю ў Брэст, зірну на той помнік... Відаць, яго людзі ўсім нам паставілі: кажанам, начніцам... Любоў сваю да нас гэтак выказалі.

— Я і казаў, што гэта мой бронзавы родзіч! А яна сумнявалася, — паказаў Кажанок на Нюню і тут жа паглядзеў на робата Буньку. — Хаця... Канечне... З першага позірку скульптура больш нагадвае Брысю, але, калі ўважліва прыгледзецца... Кхе-кхе-е... Вы не жадаеце вярнуцца ў Брэст, каб добра разгледзець помнік?

Але, відаць, Бунька яго не слухаў. Ён думаў пра нешта сваё і пазіраў то на яблык, то на Кутасіка, то на Нюню. Нарэшце, запытаўся ў яе, паказваючы на яблык:

— Ці не можаш ты нам сказаць, якое ў яго насенне?

Нюня запытальна зірнула на Брысю і тая адказала робату:

— Насенне пабачыце, калі разрэжаце яблык. Яно ў яго ўсярэдзіне.

— А як жа яны разрэжуць, бабулечка?! Гэта — падарунак! Яны не павінны гэты яблык чапаць! — і Нюня паглядзела на паўночнага Кажанка.

— Я ўсё зразумеў, Нюня. Трэба зноў ляцець у сады па яшчэ адзін яблык.

І паўночнаму Кажанку ніхто не запярэчыў. Толькі Кутасік нахіліўся да Бунькі і штосьці ціха сказаў яму. Мамурыка непакоіла тое, што на Мамурыі каля Дажджавой кроплі ўжо занадта доўга стаіць яго мамуролер і хто-небудзь з дарослых мамураў мог пацікавіцца: а дзе ж гэта сам мамурык Кутасік?! Таму і не дзіўна, што, калі паўночны Кажанок, зноў прыляцеў у астрамечаўскія сады і сарваў там самы прыгожы яблык, ён не змог утрымаць яго. Яблык упаў у густую траву ад таго, што Кажанок раптам пабачыў, як у неба, якое ўжо крануў досві-

так, паднімаецца маленечкі касмічны карабель... Ён пазнаў яго і міжволі ўскрыкнуў з вялікім шкадаваннем:

— Яны не сталі чакаць мяне! Паляцелі!

А карабель ужо знікаў у той вышыні, пра якую, магчыма, неаднойчы марылі і паўночны Кажанок, і старая Натэрэра Брыся, і маленькая начніца Нюня...

Мамурык Кутасік і робат Бунька вярталіся на Мамурыю.





## АД АЎТАРА

І, безумоўна ж, яны шчасліва даляцелі да яе. Ва ўсялякім выпадку я гэтак думаю. І хаця ніхто не ведае, з якімі словамі мамурык Кутасік і робат Бунька развіталіся з маленькай начніцай Нюняй і яе бабуляю Брысяй, яны, вядома ж, пра сустрэчу расказалі Галоўнаму аранжарэйшчыку Мамурыі і нават перадалі яму падарунак ад яе — вялікі і салодкі астрамечаўскі яблык. І хто ведае, магчыма, цяпер астранаўты-мамуры прылятаюць у астрамечаўскія сады і не толькі для таго, каб паласавацца... Шлях у Астрамечава ім мог паказаць робат Бунька.

— А чаму толькі робат Бунька? — запыталася адна мая знаёмая дзяўчынка, калі пачула гэтыя мае разважанні. — Я зусім нядаўна была ў сваёй бабулі, якая жыве ў пасёлку недалёка ад Брэста, і там на ўзлессі бачыла маленькую начніцу... Вы не паверыце, але мне здалося, што яна некаму махала зялёнаю стужачкай і крычала: «Я — тут!.. Я — тут!» ...Гэтак крычаць яна магла толькі мамурыку Кутасіку...

І я паверыла сваёй знаёмай дзяўчынцы. Таму, калі аднойчы сама пабачу маленькую начніцу з зялёнай стужачкай і пачую гэты яе крык, мне давядзецца напісаць новую казачную аповесць. Праўда, гэта ўжо будзе не аповесць пра міжпланетнага Пажарніка, а зусім іншы твор, зразумела, і з іншымі героямі.



# ЗМЕСТ

## Аповесць першая



## Аповесць другая

## Аповесць трэцяя

Літаратурна-мастацкае выданне

**БАРАВІКОВА** Раіса Андрэеўна

**КАЗАЧНЫЯ АПОВЕСЦІ
ПРА МІЖПЛАНЕТНАГА ПАЖАРНІКА
І ІНШЫХ МАМУРЫКАЎ**

Рэдактар *М. Н. Мінзер*
Мастак *М. Э. Міцкевіч*
Камп'ютэрная вёрстка *В. А. Амельчанка*
Стыльрэдактар *Н. М. Мінзер*

Падпісана ў друк 26.07.2010. Фармат 84x108 $^{1}/_{16}$. Папера афсетная. Афсетны друк.
Ум. друк. арк. 15,12. Ул.-выд. арк. 11,61. Тыраж 2000 экз. Заказ .

Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Літаратура і Мастацтва».
ЛИ 02330/0494044 ад 03.02.2009.
Вул. Захарава, 19, 220034, г. Мінск.

Адкрытае акцыянернае таварыства
«Паліграфічны камбінат імя Я. Коласа».
ЛП 02330/0150496 от 11.03.2009.
Вул. Чырвоная, 23, 220600, г. Мінск.

**Мінск**
**Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова**
**«Літаратура і Мастацтва»**
**2010**

---

Уладзімір КАРЫЗНА
**ЛЕПЯЦЬ ЛАСТАЎКІ ГНЯЗДЗЕЧКІ**
*Вершы Загадкі Казкі*

Алена МАСЛА
**ПЕРШАЯ ПРЫГАЖУНЯ**
*Мудрыя казкі — малым і вялікім падказкі*

Арцём КАВАЛЕЎСКІ
**МОЙ СЯБРА АНЁЛАК**
*Вершы*

---

***Па пытаннях набыцця кніг***
***звяртайцеся ў РВУ «Літаратура і Мастацтва»***
***па адрасе: Рэспубліка Беларусь,***
***г. Мінск, вул. Захарава, 19***
***Тэлефон:***
***(8-017) 284-79-65***